ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

15 кастрычніка 1993г №41 (3711) Кошт 10 руб.







## УЗРОСТ ПАЎНАЛЕЦЦЯ

*7, 8, 9, 10... Чатыры гэтыя лічбы азначаюць нядаўнія кастрычніцкія дні, калі Акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі святкаваў сваё 60-годдзе. Менавіта святкаваў, бо адзначаўся юбілей у маі. Але, як часцяком бывае ў жыцці, штосьці застаецца нявыказаным, недагавораным. Нават пасля тых чатырох дзён, калі на вышэйшым узроўні — у прысутнасці спікера парламента, з віншаваннямі кіраўніцтва ўрада, пад захопленыя воплескі замежных дыпламатаў і шматлікіх гасцей, — святкавалі і опера, і балет, і аркестр. Быў час оперных «зорак», парад дырыжораў, «капуснік», гірлянда балетных нумароў. Былі ўрачыстасці ў гонар знанага харэографа В. Елізар'ева, які 20 гадоў узначальвае беларускі балет. Віншаванні, дарункі, уражанні-развагі... Мы яшчэ пагаворым пра гэта, і ў хуткім часе.*

*Усім ім разам — 60.*

*Але ёсць рэчы, якія не залежаць ад часу і не маюць «каляндарнага» ўзросту. Гэта — дар Божы. Хай жа захавае яго Тэатр у часіну свайго творчага паўналецця і панясе ў будучыню.*

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: Нацыянальны балет Беларусі; н. а. Украіны І. МОЛАСТАВА ўручае сувенір ад кіеўскіх калег дырэктару тэатра мастацкаму кіраўніку Беларускай оперы С. КАРТЭСУ*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## Кола дзён

***Бадай, галоўнае пытанне мінулага тыдня — пра датэрміновыя выбары на Беларусі, так і засталося пытаннем, колькі б пра гэта ні гаварылі на рознага роду прэс-канферэнцыях, сустрэчах і пасяджэннях. Сёння ніхто не можа з упэўненасцю сказаць, што выбары адбудуцца наступнай вясною. Затое можна канстатаваць іншае: перамога дэмакратаў і Ельцына над «чырвона-карычневымі» ў Маскве на Беларусі практычна не была скарыстана. Хоць гэтага вельмі баяліся дамарошчаныя неакамуністы і «патриоты». Іх песімістычныя «прагнозы», што дэмакраты паспрабуюць перахапіць ініцыятыву і дабіцца забароны дзейнасці партый і рухаў, якія падтрымалі мяцеж у Маскве, на іх жа радасць, не спраўдзіліся. Наш урад у чарговы раз прадэманстраваў сваю лаяльнасць да «чырвоных», а Прэзідыум Вярхоўнага Савета — сваю абыякавасць пад выглядам прагі да кансенсусу і «згоды». І толькі члены Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці не адмаўчаліся, далі ацэнку дзейнасці пракамуністычных і адкрыта антыбеларускіх сродкаў масавай інфармацыі і запатрабавалі іх закрыцця. Аднак, на жаль, можа стацца гэта крыкам «вопиющего в пустыне»... А камуністы перачакаюць «чорныя часіны» і зноў кінуцца ў наступ. І ніхто не будзе вінаваты ў гэтым, акрамя нас саміх...***

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Гістарычнай называюць падзею, што адбылася на Беларусі 9 кастрычніка — было падпісана пагадненне аб стварэнні аб'яднання дэмакратычных сілаў пад назовам «Вясна-94». Нарэшце! Нарэшце беларускія дэмакраты паразумеліся, пайшлі на кампрамісы між сабою і аб'ядналіся. Члены аб'яднання, а ў яго ўвайшлі ўплывовыя і вядомыя на Беларусі партыі БСДГ, АДПБ, БСП і іншыя, дамовіліся ўстрымлівацца ад неканструктыўнай публічнай палемікі паміж сабою і скіраваць сваю дзейнасць на ўтварэнне кааліцыйнага ўрада народнага даверу і правядзенне новых выбараў не пазней 1994 года. С. Шушкевіч на цырымоніі падпісання пагаднення не прысутнічаў, але вядома, што самую ідэю аб'яднання ён падтрымлівае. БНФ у новы блок не ўступіў. Бо адным з асноўных сваіх прынцыпаў аб'яднанне абвясціла прыярытэт правоў чалавека над правамі нацыі. БНФ жа выступае за іх парытэт.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Саўмін Беларусі прыняў рашэнне, да якога падбіраўся даўно: забараніць на пляцы Незалежнасці ў Мінску правядзенне мітынгаў і іншых масавых мерапрыемстваў. Рашэнне цалкам зразумелае, калі ўлічыць, што ўзровень жыцця ў краіне падае, што некаторыя прафсаюзы адкрыта заяўляюць пра сваю незадаволенасць дзейнасцю ўрада і неабходнасць страйкаў, што не за гарамі чарговая сесія Вярхоўнага Савета... Але ў цэнтры Мінска іншага такога ўмяшчальнага пляца няма. І, думаем, ніякія рашэнні ўрада народ не стрымаюць.

### НЕСПАДЗЕЎКА ТЫДНЯ

Нягледзячы на прыняцце ўрадам Беларусі пастановы N 666 «Аб удасканаленні парадку ўвозу і перапрацоўкі нафты...», нафтавыя рэкі на Беларусь не пацяклі. Тлумачыцца гэта тым, што мытныя абмежаванні на мяжы з Расіяй зняты, як памятаеце, толькі з нашага боку. Расія рабіць гэта не спяшаецца.

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка па запрашэнні ўрада Вялікабрытаніі наведаў гэтую краіну з афіцыйным візітам. Ён сустрэўся з кіраўніком замежнага ведамства Вялікабрытаніі Д. Хэрдам, брытанскімі парламентарыямі, кіраўнікамі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, прадстаўнікамі беларускай эміграцыі і інш. Бадай, упершыню адносіны паміж нашымі дзяржавамі дасягнулі такога ўзроўню, і прызнанне Беларусі з боку вядомай сваёй кансерватыўнасцю Вялікабрытаніі — азначае многае.

### АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Дэпутаты Чэрвеньскага гарсавета вырашылі ўстанавіць мемарыяльную дошку на доме, у якім у гады вайны жыў беларускі кампазітар Мікола Равенскі. Адкрыццё дошкі плануецца правесці падчас «Дзядоў». Вылучаем гэтае паведамленне з ліку іншых, як прыклад для ўсіх тых, хто мае славутых землякоў, але забыў пра іх.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Сярод былых рэспублік СССР Беларусь займае пятае месца па ўзроўні сярэдняй заробчай платы яе грамадзян: 20,1 долара на сёлетні травень. Аднак лічба гэтая блякне не толькі ў параўнанні з заробкамі французаў, немцаў альбо амерыканцаў /куды нам да іх.../, але і з заробкам у Расіі, дзе ён амаль удвая вышэй, і зусім няма як цягацца нам з краінамі Балтыі. Навукоўцы напрамую звязваюць узровень заробку з хуткасцю ажыццяўлення эканамічных рэформаў. Тут ужо ні дадаць, ні адняць.

### БІЗНЕС ТЫДНЯ

Камерсанты, што шнуруюць паміж Польшчай і Беларуссю, адкрылі для сябе новы від бізнесу. З Польшчы вязуць яны цяпер не долары, а... сала. І «навар», за кошт розніцы цэнаў, маюць небывалы.

### ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Пасля вядомых падзей у Маскве сталіцу Расіі пачалі пакідаць і адлятаць у больш «цёплыя» мясціны каўказскія арлы. Але асаблівага выбару ў іх няма: альбо вяртацца дамоў — у Грузію, Арменію, Азербайджан, Чэчню, дзе ідзе вайна, альбо ляцець на Беларусь, якая гасцінна расчыніла свае межы. Як паведамляе «Звязда» з дасведчаных крыніц, «лица кавказской национальности» прыбываюць у сталіцу СНД горад Мінск цэлымі «караванамі» і без праблем асядаюць тут. Няцяжка спрагназаваць, чым можа скончыцца гэта для нас, калі ўжо сёння не прыняць належныя меры.

Кола дзён

# У МАСКВЕ БЫЛІ І «НАШЫ»?

## ЗВАНОК У ПРАКУРАТУРУ РЭСПУБЛІКІ

«Мы и время» свой апошні /36-ы/ нумар прысвяцілі вядомым кастрычніцкім падзеям у Маскве, вядома, інтэрпрэтуючы іх на свой капыл. Але «МиВ», заўважым, можа быць нарэшце задаволены — здзейсніўся дэвіз, пад якім ён выходзіць: «Сторонники коммунистического пути, объединяйтесь!». «Сторонники» публічна аб'ядналіся. З фашыстамі. Так бы мовіць — пасябравалі серп і молат са свастыкай.

У Маскве ў час мецяжу пралілася кроў нявінных ахвяр. Ёсць звесткі, што ў ім прымалі ўдзел на баку Руцкога-Хасбулатава і «пасланцы» беларускіх чырвона-карычневых. Зрэшты, сведчаннем гэтага з'яўляецца і адзін з матэрыялаў, змешчаных у нагаданым нумары «Мы и время», — менавіта расказ нейкага В. Зелікава аб яго ўдзеле ў штурме на чале з генералам-путчыстам А. Макашовым маскоўскай мэрыі і тэлецэнтра «Астанкіна».

Я пазваніў першаму намесніку Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь У. Кандрацьеву і спытаў у яго, ці вядома пракуратуры, што ў мецяжы ў Маскве прымалі ўдзел некаторыя грамадзяне Беларусі. Уладзімір Кандратавіч сказаў, што яны маюць такую інфармацыю. Ёсць, па яго словах, звесткі, што сярод актыўных удзельнікаў вулічных беспарадкаў у Маскве былі заўважаны і некаторыя народныя дэпутаты Беларусі. «Але ўсё гэта патрабуе дэталёвай праверкі», — падкрэсліў У. Кандрацьеў. Я пацікавіўся, хто і як гэтую праверку будзе праводзіць. Першы намеснік Генпракурора паведаміў, што яны звярнуліся да Генеральнага пракурора Расійскай Федэрацыі А. Казанніка з просьбай даць звесткі аб затрыманых з нагоды проціваправўных дзеянняў у дні мяцяжу ў Маскве грамадзян Беларусі. Калі такія асобы будуць выяўлены, іх прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

Што ж, пачакаем.

**М. ЗАМСКІ**

З нагоды

# СКАСАВАЦЬ І ПАЗБАВІЦЬ...

На мінулым тыдні Камісія Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека прыняла рашэнне аб скасаванні саўмінаўскіх Упраўлення інфармацыі /кіраўнік сп. Драгавец/ і аддзела друку, тэлебачання і радыё, які ўзначальвае сп. Паваляеў. Камісія таксама лічыць мэтазгодным пазбавіць пасады старшыню Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі сп. Сталярова. Бо прыгаданыя ўпраўленне і аддзел падмяняюць сабою Міністэрства інфармацыі і Нацыянальны прэс-цэнтр і праводзяць у сродках масавай інфармацыі ўласную, саўмінаўскую палітыку, якая не мае нічога агульнага з дзяржаўнымі інтарэсамі Беларусі. Гэтым жа тлумачыцца і неабходнасць кадравых змен у Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

**П. В.**

# «ЗАКРАСУЕЦЦА ПРАД ВІДАМІ ДРУГІХ НАРОДАЎ...»

## ПРАМОВА МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ПЯТРА КРАЎЧАНКІ Ў ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН НА ЎРАЧЫСТЫМ ВЕЧАРЫ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 100-ГОДДЗЮ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

***30 верасня ў штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны стагоддзю М. Гарэцкага.***

***Гасцей беларускай дэлегацыі — кіраўнікоў дэлегацый дзяржаў-членаў ААН, прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса і грамадскасці краіны знаходжання, суайчыннікаў, прыбыўшых на гэтае свята беларускай культуры, цёпла вітаў кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка.***

***Вечар завяршыўся канцэртам ансамбля «Сябры».***

Шаноўная грамада!
Дарагія суайчыннікі!
Спадарыні і спадары!

Чацвёрты раз запар тут, у гэтай зале, праводзіцца нацыянальная вечарына, прысвечаная лепшым сынам нашай Бацькаўшчыны. У 1990 годзе мы заклалі падмурак гэтай традыцыі і не здрадзілі ёй. Спадзяюся, што не адмовімся ад яе і ў наступным годзе.

Сёння нас сабраў тут і яднае выдатны сын Зямлі беларускай Максім Гарэцкі, залаты юбілей якога — 100-годдзе з дня нараджэння шырока адзначалася на Беларусі. У пачатку лістапада запланавана і будзе праводзіцца вечарына з вялікай мастацкай фотавыставай у гонар Максіма Гарэцкага ў Парыжы, у штаб-кватэры ЮНЕСКА. Спадзяюся, што яна адбудзецца з маім удзелам і абавязкова з удзелам Радзіма Гарэцкага, старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», віцэ-прэзідэнта АН РБ.

Сённяшні дзень дазваляе нам аб'ектыўна ацаніць жыццё і творчасць Максіма Беларуса, як называў сам сябе даволі часта М. Гарэцкі. І мне здаецца, што гэтымі словамі сказана ўсё. Няхай гісторыкі літаратуры спрачаюцца наконт таго, кім быў М. Гарэцкі, да якога жанру, якой літаратурнай школы аднесці яго творчасць. Няхай ён будзе, як лічаць многія, роданачальнікам сучаснага экзістэнцыялізму ў нашай літаратуры, які магутна ўзвышаецца паміж славутымі фігурамі Альберта Камю і Агутагавы, уступіўшых у творчае жыццё значна пазней за яго. Для мяне галоўнае ў яго творчасці і светапоглядзе — беларускасць, нацыянальны дух і нацыянальная свядомасць. Веліч Максіма Беларуса, на мой погляд, у тым, што, дзякуючы яго выдатным творам, яго выдатным літаратурным і мовазнаўчым здольнасцям, паступова выспявала наша нацыянальная літаратурная мова і завяршыўся працэс яе канчатковага афармлення. Гэта працэс, які пачаўся ў другой палове XIX веку, быў паспяхова завершаны дзякуючы нашым духоўным настаўнікам і павадырам у 20—30-я гады. У той жа час М. Гарэцкі захаваўся ў сэрцах многіх як адзін з лепшых горача любімых настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі. Я ўспамінаю, як некалькі гадоў назад, у гасцінных Бартулёў, з захапленнем расказвала пра яго наша выдатная паэтка Наталля Арсеннева, якая па-дзявочы шчыра была закахана ў свайго настаўніка беларускай мовы. І хто яго ведае, каб не было Максіма Беларуса, магчыма, не было б і нашай нацыянальнай паэткі, 90-годдзе якой мы азначалі літаральна некалькі дзён назад.

І як не прыгадаць тут Вільню, стаўшую калыскай беларускай культуры, якая выгадавала не аднаго волата слова, і дзе зусім нядаўна, 1 верасня, я меў гонар прымаць удзел у аднаўленні дзейнасці беларускай гімназіі.

Веліч Максіма Гарэцкага ў тым, што ён адным з першых закладваў цагліны ў падмурак беларускай прозы. Ужо першы зборнік апавяданняў «Рунь», які быў выдадзены ў 1914 годзе, паказваў яго як самабытнага і глыбокага мастака.

Аднак мала, вельмі мала часу падараваў Максіму Гарэцкаму лёс. У дваццаць адзін год ён выдае зборнік «Рунь», і тут жа выбухае першая сусветная вайна. Кровапралітныя баі ва Усходняй Прусіі, цяжкае раненне, бясконцыя шпіталі. Яго запіскі таго часу «На імперыялістычнай вайне» /1926 г./, твор, які можна паставіць на адну паліцу з сусветна вядомымі раманамі Рэмарка, Барбюса, Хемінгуэя, прысвечанымі той жа вайне.

Прыходзіцца нават сёння здзіўляцца феномену Максіма Гарэцкага. Ён быў бадай што самым адукаваным чалавекам сярод нашых старэйшых пісьменнікаў.

Выкарыстоўваючы ўсе мастацкія жанры, ён піша крытыку, тэорыю і гісторыю літаратуры, састаўляе хрэстаматыі, першыя беларуска-рускія слоўнікі, выдае газеты і фальклорныя зборнікі, піша крытычныя артыкулы, літаратуразнаўчыя працы, чытае лекцыі, збірае народныя песні.

Убачыць Беларусь незалежнай дзяржавай было запаветнай марай Максіма Гарэцкага. Як і мы сёння, ён хацеў, каб яго старонка была «нараўні» з іншымі «крэпчайшымі» народамі, сапраўды верыў, што ў хуткім часе «ачуняе» яго родны край і «закрасуецца прад відамі другіх народаў сваімі арыгінальнымі, самабытнымі, выразнымі прыгажосцямі». Ён не губляў надзеі на дасягненне Беларуссю паўнацэннай дзяржаўнай суверэннасці. Сродкамі літаратуры здзяйсняў сапраўды грамадзянскі подзвіг, імкнуўся паказаць іншым народам, «што за народ такі беларускі ёсць», жадаў, каб беларуская літаратура несла свой дар усяму чалавецтву.

Кароткае жыццё гэтага шматбакова надзеленага талентамі чалавека, якога знішчыла жорсткая таталітарная сістэма сталінізму, — суцэльны подзвіг. Высокі подзвіг служэння радзіме, народу, сваёй «Матцы-зямлі Беларусі». І таму сёння ён па праву сярод тых, хто складае наш залаты нацыянальны іканастас, сярод сваіх вялікіх сяброў-паплечнікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна. Ён вялікі сын нашага народа, вялікі беларускі пісьменнік, які паказвае нам сваёй самаахвярнасцю, як трэба ісці па шляху незалежнасці. Па тым шляху, пра які цудоўна сказаў Рамэн Ралан: «Круты гэты шлях, камяністы, але насупраць усяму цудоўны. Было б з чаго крывяніць ногі». І мы будзем гэта рабіць, колькі ў кожнага будзе сіл, дзеля нашай святой Беларусі.

Жыве і векі вечныя будзе жыць Беларусь!

Падпіска-94

# «ЛіМ» МНЕ ПАТРЭБЕН»

Васіль ШАРАНГОВІЧ, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, народны мастак Рэспублікі Беларусь:



— «ЛіМ» пачаў чытаць на пачатку 60-х гадоў студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута і практычна да сённяшняга дня стала яго выпісваю. «ЛіМ» заўсёды падабаўся мне тым, што праз яго я заўжды атрымліваў інфармацыю аб культурным і мастацкім жыцці рэспублікі.

Калі параўнаць «ЛіМ» 60—70-х гадоў і «ЛіМ» цяперашні, заўважаецца істотная розніца. «ЛіМ» палітызаваўся. І мне гэта даспадобы. Я перакананы, што культура і мастацтва не могуць існаваць адарвана ад палітыкі, якая па сваёй сутнасці з'яўляецца духоўным станам грамадства. І я да сённяшняга дня не магу забыць выступленні «ЛіМа», якія былі скіраваны на падтрымку свята Дзядоў 30 кастрычніка 1990 г., калі ў шэрагу іншых быў надрукаваны праўдзівы водгук удзельніка гэтых падзей, выдатнага мастака, прафесара нашай акадэміі, нябожчыка Анатоля Анікейчыка, які асудзіў дзеянні камуністычнага рэжыму Беларусі.

Думаю, правільна, што «ЛіМ» разам з матэрыяламі аб працэсе развіцця літаратуры і мастацтва шмат увагі аддае праблемам палітычнага і эканамічнага стану рэспублікі. Такая канцэпцыя развіцця штотыднёвіка мае перспектыву. Заўсёды было цікава знаёміцца на старонках «ЛіМа» як з новымі літаратурнымі творамі, так і з крытычнымі матэрыяламі па праблемах культурнага жыцця.

Разам з тым выкажу шэраг заўваг. Апошнім часам мала ў «ЛіМе» з'яўляецца матэрыялаў аб развіцці беларускага выяўленчага мастацтва. Шкада, што «ЛіМ» выпусціў з-пад увагі гэты вялікі пласт духоўнай культуры нашага народа.

Як і раней, лічу «ЛіМ» адным з лепшых штотыднёвікаў нашай рэспублікі і жадаю яго творчаму калектыву поспехаў у справе адраджэння нашай Бацькаўшчыны, у развіцці самасвядомасці нашага народа. «ЛіМ» сапраўды газета для кожнага свядомага беларуса.

Уладзімір АЛОЎНІКАЎ, кампазітар, народны артыст Рэспублікі Беларусь:



— «ЛіМ» чытаю, выпісваю кожны год. Ён мне патрэбен.

# «МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ»

## АД ЖУРЫ КОНКУРСУ НА ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

На чарговым пасяджэнні Журы конкурсу, якое адбылося 11 кастрычніка, абмеркаваны вынікі азнаямлення грамадскасці рэспублікі з творамі, прапанаванымі ў якасці магчымага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. На жаль, ні адзін з гэтых твораў пераканаўчай падтрымкі ў водгуках грамадскасці не атрымаў. У сувязі з гэтым Журы конкурсу рашыла прыняць за тэкстуальную аснову гімна вядомы верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь» /«Вольны вецер напеў вольных песень табе»/ і звярнуцца да кампазітараў з прапановай напісаць музыку да названага твора. Паколькі ўвесь гэты верш для тэкста гімна занадта доўгі, Журы лічыць мэтазгодным абмежавацца чатырма строфамі, з якіх адна можа быць прыпевам. Вядома, рэкамендацыя Журы арыецціровачная і не павінна звязваць творчую свабоду кампазітара: да яго паслуг увесь верш Янкі Купалы — і калі ў інтарэсах якасці мелодыі будзе вымагацца падаўжэнне ці, наадварот, скарачэнне прапанаванага тэксту — Журы прадугледжвае такую магчымасць. Тым не менш, было б вельмі добра, калі б кампазітары, якія прымуць удзел у напісанні музыкі гімна, арыентаваліся на вось гэты, аднадушна ўхвалены на пасяджэнні Журы, тэкст.

## ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Тэкст Янкі Купалы

**Вольны вецер напеў вольных песень табе,**
**Бор зялёны узняў дружным гоманам,**
**Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,**
**Зоры веру ўліл сілам зломаным.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;**
**Занімай, Беларусь маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!..**

**Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,**
**Сееш ласкава сны залацістыя;**
**Не пужае сумежны дакучны сусед,**
**Не пужае пуціна цярністая.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;**
**Занімай, Беларусь маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!..**

**Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца**
**Абнаўленне павевы расходзяцца,**
**Абнімае душу без граніц, без канца**
**Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;**
**Занімай, Беларусь маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!..**

Хочацца спадзявацца, што гэтыя выдатныя радкі нашага вялікага паэта, якія ўжо восемдзесят гадоў служаць абуджэнню Беларусі, натхняць кампазітараў на стварэнне адпаведна выдатнай музыкі. Незвычайна ёмісты згустак вобразаў, у якіх увасоблена ідэя адраджэння і дзяржаўнага станаўлення Беларусі, пераконвае нас у правільнасці выбару. Тут і сэнсоўна значныя заклікі, і любасна-пяшчотныя, прыгожыя вобразы народа і яго зямлі, і скандэнсаваная ў скупых радках сурова-драматычная гісторыя Беларусі, і высокі голас права на «пачэсны пасад між народамі», і многае іншае, што вельмі шмат гаворыць душы і сэрцу грамадзян рэспублікі, патрыётаў сваёй свабоднай, незалежнай Бацькаўшчыны, і што адпавядае вымогам, якія прад'яўляюцца да зместу Дзяржаўнага гімна.

Конкурс на напісанне музыкі да тэксту гімна — адкрыты. Тэрмін — да 15 лістапада гэтага года. Плён творчай працы просім прысылаць на адрас Міністэрства культуры Беларусі з паметкай: Журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Журы Ніл ГІЛЕВІЧ**

Адгалоскі

# ТЫМ І СУЦЕШЫМСЯ?

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ЛІСТА «СПРОСИТЕ У БЕЛОРУССКИХ ТОВАРИЩЕЙ»

Мушу ласкава перапрасіць загадчыка аддзела друку Саўміна Рэспублікі Беларусь. Сапраўды, частка беларускай перыёдыкі заяўлена ў падпісным «Дадатку», дасланым на 55-е паштовае аддзяленне Масквы /дзе ў мінулым месяцы я спрабаваў аформіць падпіску/, значна пазней асноўнага расійскага «Каталога» на 1994 год. На жаль, многія каштоўныя друкі, незаменныя для майго духоўна-беларускага самапачуцця, ва ўспомненым «Дадатку» не аказаліся — «ЛіМ», «Народная газета», «Маладосць», «Спадчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Наша мінуўшчына», «Настаўніцкая газета», «Роднае слова» і іншыя.

Такі вось парадокс, далёка не адзіны, з агульнай інфармацыйнай прасторай паміж Рэспублікай Беларусь і Расіяй. Затое, па іншых крыніцах мяркуючы, нам гарантуюць мілітарную еднасць абедзвюх дзяржаў — тым і суцешымся.

**Аляксей КАЎКА**

*г. Масква*

# УДАКЛАДНЕННЕ

У «ЛіМе» за 1 кастрычніка ў нататцы «Выйсце — нейтралітэт» надрукавана: «На акупаваных тэрыторыях Напалеон узнавіў Вялікае княства Літоўскае і вылучыў у асобную адміністрацыйную адзінку Міншчыну і Магілёўшчыну».

На самай справе Мінскі дэпартамент увайшоў згодна напалеонаўскаму дэкрэту ў склад Вялікага княства Літоўскага, а правы самакіравання былі дадзены Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

Архівы

# ЗА ПАРАДАЙ ДА «БАЦЬКІ» СТАЛІНА

**У канцы 30-х гадоў у рабоце ЦК КП/б/Б практыкавалася інфармаванне першых асоб у Маскве аб эканамічным і палітычным становішчы ў рэспубліцы, аб выкрыцці ворагаў народа, якіх знаходзілі ва ўсіх галінах эканамічнага і грамадскага жыцця Беларусі. Прапануем чытачу адну з такіх інфармацый, адрасаваных І. В. Сталіну 21 лістапада 1938 г. за N 978.**

**Да гэтага часу большасць кіраўнікоў рэспублікі, выдатных прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі — пісьменнікаў, дзеячаў навукі, культуры — было ўжо знішчана ці знаходзілася за кратамі. А з ацалелых метадычна стваралі «ворагаў» народа. У іх ліку аказаліся Я. Купала і Я. Колас.**

**У свой час Барыс Сачанка ў адным са сваіх артыкулаў /«ЛіМ» 10.05.88 г./ расказаў, як, дзякуючы заступніцтву першага сакратара ЦК КП/б/ Беларусі П. К. Панамарэнкі перад Сталіным, выпісаныя на арышт Я. Купалы і Я. Коласа ордэры былі заменены на ордэны.**

**Дакумент, які сёння публікуецца, уносіць пэўныя карэктывы ў гэтую даволі распаўсюджаную версію аб ратаванні П. Панамарэнкам ад кіпцюроў энкавэдыстаў выдатных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

**Рэпрэсіўная машына працавала і з блаславення Панцеляймона Кандратавіча. У яе жанры трапляла ўсё, у тым ліку мова, культура, чалавечая годнасць.**

**Дакумент захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Падрыхтаваў яго да друку У. РАКАШЭВІЧ, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства і архіўнай справы.**

*Центральный Комитет ВКП/б/*
*товарищу СТАЛИНУ И. В.*

**О белорусском языке, литературе и писателях**

Изучив состояние белорусского языка и литературы, ознакомившись с белорусскими писателями и их настроениями, хочу ознакомить Вас с некоторыми выводами и попросить совета по мероприятиям, которые, как мне кажется, вытекают из этих выводов.

Враги народа, пробравшиеся в свое время к партийному и советскому руководству Белоруссии, ставившие целью отторжение Белоруссии от Советского Союза и организацию «самостоятельного» Белорусского государства, под протекторатом Польши, прилагали много усилий для идеологической подготовки этого отторжения. Для этого они имели квалифицированные кадры среди части старой националистически настроенной интеллигенции /учителя, агрономы, врачи, артисты, писатели/. Условия работы этой агентуры среди белорусской интеллигенции были чрезвычайно благоприятными.

С одной стороны, от бывшего руководства они получили материальную, организационную и идейную поддержку, заполняли своими «творами» почти все печатные издания и театральные подмостки Белоруссии, беспрепятственно организовывали сотни кружков, литературных объединений, обществ, где достаточно методично вели обработку молодежи в националистическом духе.

С другой стороны, партийными организациями почти не противопоставлялась работа по повышению идейно-политического идеологического уровня интеллигенции, по большевистскому ее воспитанию.

Работали они умело. Матерых националистов, «щирых белоруссов» вербовали сразу, и вводили в курс задач-идей. Молодежь, еще неискушенную, приучали к мысли о самобытности белорусского языка, идеализировали «золотой век» белорусской государственности, время, когда Белоруссия управлялась князьями. Постепенно восстанавливали против всего русского. Безудержно льстили интеллигенции, приучали к мысли о исключительной ее роли в революции, в создании государственности, говорили, что именно она, изболевшая, исстрадавшая на судьбу своего народа, старая белорусская интеллигенция, является носительницей воли народа и права на определение государственности.

Искажалась история революционного движения Белорусского народа, выпадал извечный враг Белорусского народа — польский пан и помещик, доказывалась специфичность белорусского народа — его бесклассовость, отсутствие в Белоруссии национальной буржуазии. Процветала аппология панской Польши.

Даже истоки истории коммунистической партии большевиков Белоруссии находили в националистических организациях, в частности, доказывали, что Белорусская социалистическая громада являлась родительницей партии большевиков Белоруссии. Из литературы оказалось изгнанным все то, что напоминало о совместной борьбе русских и белорусских рабочих и крестьян против царизма, в социалистическую революцию и против поляков. Театр, литература, искусство — все было поставлено на службу. Передвижные националистические театры побывали во всех уголках Белоруссии. Требования о недопущении русских революционных пьес на театр — раздавались открыто.

Наиболее крупную контр-революционную националистическую работу провел союз «советских» писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писателей /в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас/, и всегда для прикрытия /в том числе и сейчас/ имевший у руководства коммунистов. В этом союзе несправедливой критикой, клеветой, издевательством, пренебрежением затравили не одного честного коммуниста и беспартийного писателя. Здесь разлагали литературное движение, здесь боролись с советской властью под видом борьбы за эту власть. Здесь ненависть ко всему русскому доходила до болезненной истеричности. Здесь был центр-штаб национал-фашистской пропаганды. Здесь говорили о застое культуры и объясняли его тем, что белорусский и украинский языки близки к русскому, как языки славянские, и наиболее сильная славянская культура русская, их ассимилирует. Другое дело, говорили, Грузия, там язык совсем другой, руководители свои грузины, преданные своей грузинской культуре, не так, как в Белоруссии, где всегда «московские генерал-губернаторы». Говорили о том, что русская культура действительно выше культур других союзных республик, но объясняли это тем, что русская культура выросла на костях малых народов.

Сама мысль о сближении белорусского и русского языков была ужасной. Янка Купала пустил крылатое выражение «пока живе мова, живе народ». В основе лежала тенденция рвать со всем русским, как говорится «московским» в языке, и через родной самобытный язык тянуть массы на Запад.

Пользуясь полной свободой, не стесняемые ничем, эти писатели монополизировали за собой право толкователей языка, право создания новых слов, терминов, лозунгов и т. д. Они перед этим пытались и внешне отдалить язык от русского. Был проект перевода белорусской письменности на латинскую основу, когда это не прошло, предложили знаки для обозначения звуков дз и дж, которые затрудняли бы русским чте-

(Працяг на стар. 14-15)

## Барыс САЧАНКА:

# «ПАГЛЯДЗЕЦЬ НЕ ЧУЖЫМІ — СВАІМІ, БЕЛАРУСКІМІ ВАЧЫМА...»

***Як паведамлялася ў друку, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб выданні «Беларускай энцыклапедыі» ў 18 тамах. Наш карэспандэнт гутарыць з галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Барысам САЧАНКАМ.***

**— Барыс Іванавіч, выхад у свой час «Беларускай савецкай энцыклапедыі» ў дванаццаці тамах быў святам у нацыянальным жыцці. Хаця, безумоўна, тады акцэнтавалі ўвагу на іншым аспекце. Маўляў, Беларусь, дзякуючы савецкай уладзе, камуністычнай партыі, дамаглася нябачных поспехаў у сваім развіцці. Але факт застаецца фактам: мы аднымі з першых сярод іншых саюзных рэспублік займелі ўласную нацыянальную энцыклапедыю. Не ведаю, кім гэта сказана, але лічыцца, што стварэнне нацыянальнай энцыклапедыі з'яўляецца пацвярджэннем росквіту нацыі... Вашы думкі пра значнасць /цяпер ужо як факт гісторыі/ згаданай энцыклапедыі?**

— Само прыняцце пастановы аб выданні «Беларускай савецкай энцыклапедыі» было ўжо святам. Колькі пра гэта гаварылі, пісалі! Стварэнне ж нацыянальнай энцыклапедыі — гэта сталасць нацыі, яе ўздым, выхад у міжнароднае супольніцтва. Не кожны народ, не кожная дзяржава маюць свае энцыклапедыі. Патрэбны ўмовы, дастатковы інтэлектуальны і навуковы патэнцыял, не малыя матэрыяльныя затраты, каб нават брацца за такую справу. Беларусь даказала ўсяму свету, што ёй многае пад сілу. І выданне нацыянальнай энцыклапедыі — таксама. «БелСЭ» — першая ў гісторыі нашага народа. І гэтым сказана калі не ўсё, дык многае. І адносіны да яе павінны быць асаблівыя, паважлівыя. Да таго ж, трэба не забываць на час, калі яна стваралася. Беларусь тады была часткаю Савецкага Саюза, усім, што адбывалася, кіравала КПСС. І гэта не магло не адбіцца на выданні. Шмат чаго там прапушчана, часта нязначнае паднята на ўзровень значнага, ды і асвятленне многіх фактаў, падзей надта ж ідэалагізавана, падаюцца яны нярэдка аднабакова, выбарачна. Але крытыкаваць сёння тое выданне куды лягчэй, чым было яго рабіць. Недахопы «БелСЭ» зусім не закрэсліваюць значнасці выхаду яе ў свет, гэта без перабольшання была велізарнейшая падзея ў жыцці нашай Бацькаўшчыны...

**— За гады, што прайшлі з дня выпуску дванаццацітомніка, зразумела, шмат якія артыкулы, асабліва персаналіі, патрабуюць ўдакладнення. Аднак выпуск новай энцыклапедыі звязаны не толькі з гэтым. Змяніўся сам статус нашай рэспублікі, яна стала суверэннай дзяржавай...**

— Хацеў бы адразу падкрэсліць: выданне 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» — прынцыпова новая з'ява. Беларусь стала суверэннай, незалежнай дзяржавай. Змяніўся не толькі яе статус, але змянілася і многае іншае, у тым ліку і погляды на падзеі, якія былі ў жыцці народа. З'явіліся новыя партыі, арганізацыі, новыя лідэры. Упершыню ў сваёй гісторыі мы можам паглядзець на ўсё — літаральна на ўсё! — не чужымі вачыма, а сваімі, беларускімі, даць сваю трактоўку, сваё бачанне ходу развіцця падзей. Ды і ў свеце ж змянілася шмат што. Таму нават размовы не можа быць пра якія б там ні было «ўдакладненні». Гутарка ідзе пра стварэнне і выданне зусім новай энцыклапедыі, якая адпавядала б сучаснаму стану рэчаў і поглядаў. «Беларуская энцыклапедыя» будзе ўдвая большая за «БелСЭ». Сёння, калі адчуваецца голад на даведачную літаратуру, калі яна амаль не паступае ў рэспубліку з іншых рэгіёнаў, гэтая энцыклапедыя можа стаць для многіх адзінай крыніцай інфармацыі і ведаў па ўсіх галінах навук. Таму гэтае выданне павінна быць сапраўды універсальным сістэматызаваным зборам ведаў...

**— Але ці не атрымаецца так, што з адной крайнасці кінемся ў другую? Тады ўсяляк праслаўлялі камуністычную партыю і замоўчвалі іншыя партыі і рухі, пісалі пра верных «ленінцаў» і ні слова не гаварылі пра выдатных нацыянальных дзеячаў, а цяпер — наадварот? Якім прынцыпам будуць кіравацца складальнікі і аўтары энцыклапедыі, каб была праўда і толькі праўда, зразумела, дакладнасць?**

— Прынцыпы стварэння новай энцыклапедыі выпрацоўваюцца. Паверце, гэта зусім не простая справа, якое месца ў выданні зойме тая альбо іншая галіна ведаў ці частка чалавечай дзейнасці. Ды і які працэнт плошчы аддаць пад беларускі, польскі, украінскі, рускі, англійскі ці, скажам, іншы матэрыял? Нават накірунак гэтай энцыклапедыі — гуманітарны альбо іншы які — і то выбраць нялёгка. Дзеля гэтага, ды і ўсяго астатняга, без чаго не абысціся, ствараецца рэдкалегія, рэдакцыйны і мастацкі саветы. Падбіраюцца і адпаведныя штаты, каб сярод супрацоўнікаў былі спецыялісты па ўсіх галінах навук і ведаў. Хацелася б, каб новая энцыклапедыя была патрэбнай людзям, каб падзеі і факты падаваліся ў ёй праўдзіва, аб'ектыўна, дасведчана.

**— Возьмем больш канкрэтны момант. Спашлюся на прыклад з гісторыі Случчыны, а калі вузей — Капыльшчыны. Як вядома, у гэтым рэгіёне, асабліва ў Капылі, быў моцны і актыўны рэвалюцыйны рух. Капыльская арганізацыя РСДРП па значнасці можа параўнацца з аналагічнымі арганізацыямі з цэнтра Расіі. У той жа час /а шырокаму чытачу праўда адкрылася зусім нядаўна/ менавіта з гэтым раёнам звязана выступленне супраць бальшавізму, якое ўвайшло ў гісторыю пад назвай Слуцкае паўстанне... Як быць у такім разе? Разважыўшы, дык і пра тое, і пра другое я павінен прачытаць у энцыклапедыі?**

— І прачытаеце. Нават не трэба чакаць выхаду ў свет усіх тамоў новай «Беларускай энцыклапедыі». У той жа «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», першы том якой вось-вось выйдзе ў свет, у аднатомніку «Беларусь», над якім мы працуем. Той час, калі нешта замоўчвалася, не згадвалася, мінуў і, дай Бог, ніколі ўжо не вернецца...

**— Міжволі просіцца і такое пытанне: але ж выйшлі іншыя энцыклапедыі, у тым ліку згаданы вамі том гістарычнай энцыклапедыі. Ці не атрымаецца, што адтуль матэрыялы механічна пяройдуць і ў васемнаццацітомнік?**

— Не, такога не варта баяцца, нішто механічна з аднаго выдання ў другое не пераносіцца. У кожнага выдання свае аўтары, свае чытачы ды і свае мэты. Час таксама заўсёды ўносіць у, здавалася б, самую вывераную, дакладную інфармацыю свае папраўкі. Што ж да аб'ёму... Пасля выдання «БелСЭ» наша выдавецтва выпусціла пяцітомную «Прыроду Беларусі», пяцітомную «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва», шматтомны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», аднатомныя энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі», «Архітэктура Беларусі», «Бульба», «Вялікая айчынная вайна», «Францыск Скарына», «Янка Купала», «Энцыклапедыю сельскага гаспадара», іншыя даведачныя даследаванні. У бліжэйшы час выйдуць «Археалогія і нумізматыка Беларусі», «Чырвоная кніга Беларусі», «Блакітная кніга Беларусі», «Беларуская мова», першыя тамы «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», трэці і чацвёрты тамы біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі». Працуем над «Тэатральнай энцыклапедыяй Беларусі», над «Беларускай кухняй», «Ветэрынарнай энцыклапедыяй», «Чарнобылем», «Беларускім замежжам», «Старажытным беларускім жывапісам», іншымі не менш цікавымі выданнямі. Мінулае і сучаснае нашага народа даследуецца з розных бакоў. Хацелася б, каб у новым выданні энцыклапедыі яно знайшло сваё адлюстраванне як найпаўней. А іншыя народы, краіны? У кожнага ж свая гісторыя, свая культура... І калі напісаць пра кожны народ, кожную краіну... Ды і пра зямлю нашу, на якой мы жывём, неба, акіяны, горы, рэкі, азёры, лясы, жывёльны і раслінны свет... Можна выдаваць і сто, і дзвесце тамоў... Чаму мы выбралі толькі васемнаццаць? Паводле нашых падлікаў, гэта аптымальны аб'ём для такога выдання ў нашых сённяшніх умовах. Як нам уяўляецца, такім выданнем не сорамна будзе завяршыць двухтысячны год!

**— Лімаўскім чытачам будзе цікава ведаць, па якім прынцыпе будуць адбірацца для гэтай энцыклапедыі персаналіі пра дзеячаў літаратуры, мастацтва, культуры.**

— Я казаў ужо, што прынцыпы выдання новай энцыклапедыі яшчэ да канца не вызначаны. Магу запэўніць чытачоў «ЛіМа» — літаратура і мастацтва, наогул уся культура зоймуць у энцыклапедыі належнае месца. Не будзе абыдзены ўвагай ніхто, хто пакінуў след у гісторыі нашага ды і іншых народаў, хто зрабіў нешта такое, каб пра яго помнілі.

**— Выхад першага тома запланаваны на 1995 год. Значыць, падрыхтоўчая работа вялася і раней?**

— Так, выданне такое рыхтавалася. Можна сказаць, усе папярэднія нашы выданні, сярод іх і «БелСЭ» — гэта своеасаблівая падрыхтоўка да новага выдання універсальнай энцыклапедыі. Вяліся і некаторыя арганізацыйныя падрыхтоўчыя работы — складаўся слоўнік, пісаліся ўзоры артыкулаў... Тэрміны для выдання «Беларускай энцыклапедыі» даволі сціслыя. Мы ж, беручыся за стварэнне новай універсальнай энцыклапедыі, мяркуем не спыняць выданняў як цалкам падрыхтаваных ужо, так і тых, якія нядаўна пачалі. Што ж, магчыма, удасца трохі павялічыць штат. Выдавецтва наша, як і ўсе астатнія, гаспадарча-разліковае, і мы спадзяёмся, што дзяржава, урад, прыняўшы пастанову аб выданні «Беларускай энцыклапедыі», зразумее нашы фінансавыя ды і іншыя цяжкасці і дапаможа нам ў вырашэнні іх.

**— Калі пачынаецца падпіска на «Беларускую энцыклапедыю» ў 18 тамах і як яна будзе праводзіцца?**

— Падпіска пачнецца ў наступным годзе. А вось як яна будзе праходзіць — сказаць цяжка. Надта ж ненадзейныя ўсе тыя арганізацыі, якія былі створаны раней. А новыя, камерцыйныя... Мала сярод іх тых, хто па-сапраўднаму дбаў бы пра беларускую кнігу, наогул, пра беларускую справу. Нават пастанову аб выданні «Беларускай энцыклапедыі» ні адна з газет не змясціла цалкам. Так што, рыхтуючыся да вялікай і адказнай справы, мы... Не, не, не скажу, што не чакаем ніадкуль дапамогі. Якраз чакаем. Нават вельмі спадзяёмся на яе, у тым ліку і пры правядзенні падпіскі...

**— Што ж, Барыс Іванавіч, застаецца адно пажадаць вам усім поспехаў!**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «МОВА НАЦЫІ — МОВА ДЗЯРЖАВЫ»

***Пад такім дэвізам у Доме літаратара прайшло пасяджэнне «круглага стала», наладжанае Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Дзяржтэлерадыёкампаніяй Рэспублікі Беларусь.***

У пасяджэнні прынялі ўдзел актывісты таварыства — сябры сакратарыята і рэспубліканскай рады ТБМ, прадстаўнікі Савета Міністраў, міністэрстваў інфармацыі, народнай адукацыі, культуры, унутраных спраў, абароны, Дзяржкампрацы, Белкамархіва, рэдакцый часопісаў і газет, выдавецтваў, Мінскай, Маладзечанскай, Лідскай, Салігорскай і Круглянскай рэгіянальных арганізацый ТБМ, навукоўцы. Абмяркоўвалася пытанне аб рабоце ТБМ, іншых грамадскіх арганізацый па ажыццяўленні Закона аб мовах і вызначэнні далейшых накірункаў дзейнасці.

Уступным словам пасяджэнне адкрыў старшыня таварыства Н. ГІЛЕВІЧ, які, у прыватнасці, адзначыў, што за чатыры гады дзейнасці ТБМ яго актывістамі зроблена нямала дзеля адраджэння і развіцця роднай мовы, што ў гэтай вялікай і вельмі важнай справе асабліва актыўна ўдзельнічаюць супрацоўнікі ўстаноў культуры і народнай адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі /тэлебачанне, радыё, рэдакцыі некаторых часопісаў і газет/. Асабліва важную ролю на ўсіх этапах дзейнасці ТБМ выконвае яго друкаваны орган — газета «Наша слова».

Аналізуючы дзейнасць мясцовых арганізацый ТБМ /цяпер іх зарэгістравана каля 140/, старшыня ТБМ адзначыў, што нельга гаварыць пра гэта адназначна. Адны з самага пачатку заснавання вызначыліся як актыўныя памагатыя ў справе адраджэння і развіцця роднай мовы, другія ўзяліся і заціхлі, а трэція — наогул маўчаць. Больш таго, на сёння ў сарака рэгіёнах Беларусі наогул адсутнічаюць арганізацыі ТБМ. Засмучае і здзіўляе, сказаў Н. Гілевіч, пазіцыя кіраўнікоў гэтых раёнаў. Мы двойчы звярталіся да іх з просьбай паспрыяць стварэнню арганізацый таварыства. І ніякіх зрухаў! Хочацца задаць гэтым людзям пытанне: У чым справа, паважаныя? Няўжо вас не хвалюе праблема адраджэння роднай мовы?

Падчас пасяджэння шмат цікавых і змястоўных думак, слушных прапаноў аб шляхах далейшага ўдасканалення работы па выкананні Закона аб мовах было выказана ў выступленнях намесніка міністра адукацыі Л. Сухнат, міністра інфармацыі А. Бутэвіча, намесніка міністра культуры Б. Святлова, загадчыка юрыдычнага аддзела Савета Міністраў В. Фадзеева, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнка, намесніка старшыні ТБМ Я. Цумарава, сяброў рэспубліканскай рады ТБМ Ю. Хадыкі і А. Трусава, доктара гістарычных навук Л. Лыча і іншых.

З інфармацыяй аб рабоце па выкананні Закона аб мовах выступілі прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў Г. Стрыжэвіч і Міністэрства абароны В. Булко. Вопытам работы рэгіянальных арганізацый ТБМ падзяліліся М. Мацюкевіч /Салігорск/, М. Ганчар /Ліда/, С. Вадап'ян /г. Круглае/.

**В. АНТОНАЎ**

Адгалоскі

# «БЕЛАРУСЫ ЎСЁ СЦЕРПЯЦЬ?»

Пад такім загалоўкам у «ЛіМе» за 20 жніўня быў змешчаны ліст маскоўскага беларуса В. Іванова пра тое, што «пасольства Беларусі ў Маскве для нас чужына».

На публікацыю ліста адгукнулася Міністэрства замежных спраў. Намеснік міністра П. Бяляеў паведаміў:

«У Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь уважліва пазнаёміліся з фактамі, прыведзенымі ў артыкуле «Беларусы ўсё сцерпяць?» /«ЛіМ», N 33 ад 20 жніўня 1993 года/. Праведзена адпаведнае расследаванне, у выніку якога высветлілася, што некаторыя факты сапраўды мелі месца.

У бліжэйшы час у Маскву будзе накіравана група спецыялістаў МЗС, каб разгледзець пытанне адносін Пасольства Рэспублікі Беларусь з маскоўскімі беларускімі арганізацыямі».

*Паважаная рэдакцыя!*

***Выконваючы абяцанні, прапаную вашай увазе працяг нататкаў «Здані апошняй імперыі», якія тычацца адваротнага боку, ці хутчэй апанента камунізму. Гэты матэрыял, відаць, не патрапляе ў рэчышча традыцыйнай нацыянальна-беларускай тэматыкі і на першы погляд можа здацца неактуальным для тутэйшых варункаў. І ўсё ж у задачах Адраджэння мне бачыцца яшчэ адзін кірунак, на які пакуль мала звяртаецца ўвагі. Акрамя сакральнага — нацыянальна-духоўнае самасцвярджэнне і дачыненні з «братамі-суседзямі» — існуе менш відавочнае /хутчэй другаснае/ — наша месца ў агульнай плыні сучаснай цывілізацыі. Пакуль гэта месца, бадай, гіпатэтычнае, бо заваёўваецца яно найперш уласнымі вартасцямі і нацыянальнымі дасягненнямі. Аднак свядома абмяжоўваць свой рух толькі вузкімі, «тутэйшымі» рамкамі было б памылкова. Карысным можа стацца наш погляд на агульна-гістарычныя з'явы, погляд суб'ектыўны і менавіта свой. Відаць, залішне было б адразу чакаць тут найвышэйшых дасягненняў, але намаганні ўключыць беларускамоўную традыцыю ў агульна-сусветную праблематыку павінны стаць шэраговай з'явай. Спробу такога кшталту і прапаную на ваш разгляд.***

***Аўтар***

# ПРАГА АНТЫКАМУНІЗМУ

## ДЫЯЛЕКТЫКА І ДАГМАТЫКА ПОСТСАЦЫЯЛІСТЫЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

У час, калі ўсё пераварочваецца з галавы на ногі ці з ног на галаву, перафарбоўваецца з чорнага на белае ці наадварот, калі першыя становяцца апошнімі, левыя — правымі, а правыя — няправымі, цяжка заставацца ў стане раўнавагі і аб'ектыўнасці, не паддавацца парывам агульнага хістання. І ўсё ж імкнуцца да «залатой сярэдзіны» ў такія часы найбольш неабходна, чымся ў іншыя. У адваротным выпадку стваральная энергія грамадства замест руху наперад пойдзе на бязмэтныя, разбуральныя ваганні з аднае крайнасці ў другую, а дзяржаўнае і нацыянальнае развіццё прыйдзе ў заняпад. Тут больш дзейсным і карысным будзе не радыкальна-скачкападобны, а няўхільна-эвалюцыйны рэфармізм, хай не вельмі хуткі, але больш грунтоўны і незваротны. Гэта зразумелі ўжо многія кіраўнікі дэмакратычнага руху ўсходнееўрапейскіх дзяржаў, асабліва тыя, хто ўзваліў на сябе цяжар палітычнай улады. А сканцэнтраваў іх у цудоўнай літаратурнай форме В. Гавэл падчас прамовы з нагоды прыняцця яго ў Французскую Акадэмію Маральных і Палітычных Навук.

Аднак цярплівасць і памяркоўнасць у практыцы палітычных ды эканамічных пераўтварэнняў павінны грунтавацца на шырыні і разнастайнасці тэарэтычных пошукаў і меркаванняў. Настаў час выйсці з замкнёнага кола чорна-белых дылем савецкай прапагандысцкай навукі: матэрыялізм — ідэалізм, капіталізм — сацыялізм, буржуй — пралетарый, камуніст — антыкамуніст і г. д. Сёння многім ужо зразумела, што чорнай і белай фарбаў задужа мала для стварэння аб'ектыўнай карціны сусветнага развіцця, для гэтага спатрэбяцца дзесяткі колераў і сотні адценняў, якімі, на жаль, не валодае большасць нашай творчай і навуковай інтэлігенцыі. Сказаць, што капіталізм — добра, а сацыялізм — дрэнна, значыць, нічога не сказаць, дзеля гэтага не трэба было 70 год блукаць у пошуках «светлай будучыні». Як мінімум трэба вырашыць, што было добрага і ў адным і ў другім і што дрэннае чакае нас у гэтай капіталістычна-сацыялістычнай каламуці. Вось з такога нейтральна-аналітычнага пункту гледжання я б хацеў па-новаму /для савецкага разумення/ зірнуць на такую з'яву, як антыкамунізм.

Наўрад ці знойдзецца другое такое слова ў савецкай лексіцы, у якое б укладвалася столькі нянавісці і адмоўнай энергіі. Антыкамунізм — гэта самы вялікі грэх і самае нізкае падзенне, на якое здольны чалавек у сістэме камуністычнага вымярэння. Параўнанне можна знайсці хіба што ў хрысціянстве, дзе падобнымі рысамі надзяляецца «антыхрыст».

Дык што такое антыкамунізм? Па вялікім рахунку як адзінага грамадскага руху са сваімі задачамі «максімумамі ды мінімумамі», яго не існуе, у значнай ступені ён ствараўся намаганнямі саміх камуністаў і ў першую чаргу ў іхняй свядомасці. Камунізм, першасны ў гэтай «пары», адпачатку маючы жорсткую арганізацыйную структуру, добра акрэсленыя ідэалагічныя і палітычныя мэты, ёсць супрацьлегласць антыкамунізму, які не меў ні ўставаў, ні членскіх білетаў, ні эпахальных з'ездаў, ні нават дэмакратычнага цэнтралізму. Улічваючы размытасць межаў антыкамунізму і мяркуючы па бальшавіцкім лозунгу «хто не з намі — той супраць нас», да «антыкамуністаў» можна аднесці ўвесь несацыялістычны свет. Зараз гэта здаецца абсурдным, але ў патэнцыяльных савецкіх ворагах сапраўды было ледзь не ўсё людства.

«Актыўны» антыкамунізм, склаўшыся ў адказ на экспансіўныя памкненні камуністаў у 40—50 гады, толькі ва ўяўленні бальшавіцкіх ідэолагаў існаваў як звышцэнтралізаваная арганізацыя, накіроўваемая «д'ябальскай рукой сусветнага капітала» супраць «лепшых сіл перадавога чалавецтва». На самай справе чыста арганізацыйна антыкамуністычны рух ніколі не мог дасягнуць такой ступені маналітнасці, як ягоны апанент, бо меў у падмурку самыя розныя палітычныя плыні, эканамічныя інтарэсы, нацыянальныя і дэмакратычныя традыцыі.



*Калаж Уладзіміра СКРЫГАНАВА*

Звяртаючыся да глыбінных вытокаў антыкамунізму, яго можна азначыць як духоўную рэакцыю чалавецтва на таталітарна-камуністычную дактрыну XX ст. Якраз у духоўнай сферы антыкамунізм існуе найбольш выразнай антытэзай марксісцка-ленінскай ідэалогіі. На крайніх полюсах гэтых дзвюх сістэм стаіць расейскі бальшавізм і амерыканскі антыкамунізм. Апошні можна разглядаць і самастойна, без дачыненняў з камунізмам, паколькі ён фактычна з'яўляецца ўвасабленнем амерыканскага духу, традыцыйнай сістэмы яго каштоўнасцяў і прыярытэтаў. Бальшавізм, найбольш выбітны варыянт камунізму, таксама можна аналізаваць як самастойную з'яву, як, вобразна кажучы, «незаконнанароджанае дзіця» расейскага імперыялізму і еўрапейскай камуністычнай ідэі. Але гэта ўжо іншая тэма, вартая асобнага разгляду.

Што ж тычыцца гістарычнага супрацьстаяння гэтых дзвюх традыцый, то яно мае пэўныя аб'ектыўныя прычыны. Саперніцтва іх грунтуецца на супрацьлегласці ментальнасцяў, на прыярытэтнасці ў адных правоў асобы і занядбання гэтых правоў у другіх перад калектыўнымі інтарэсамі. Ідэал і першаснова Амерыкі — вольны фермер ці прадпрымальнік, які імкнецца рэалізаваць сябе на бязмежных прасторах Новага Свету. І хоць сёння «Дзікі Захад» значна менш дзікі, чым Усход Еўропы, традыцыі першых каланістаў — прыватная свабода і хрысціянская дэмакратычнасць — застаюцца жыць у свядомасці кожнага амерыканца. Відаць, гэта не столькі заслуга, колькі гістарычнае наканаванне Амерыкі, якое не варта звычайнай зайздрасці. Бо свабода амерыканца — гэта не прыкрая жыжка бальшавіцкіх расповядаў пра «свабоду, роўнасць ды камуністычны рай». Гэта вольнасць чалавека, кінутага сярод лесу і маючага магчымасць памерці з голаду або зрабіцца гаспадаром навакольных абшараў. Гэта «салодкая» свабода вымагае вялікага фізічнага, інтэлектуальнага і псіхалагічнага напружання, гэта свабода, разлічаная ў першую чаргу на моцных людзей, што спадзяюцца толькі на свае сілы і розум. І не дзіва, што яна ніяк не падыходзіць да камуністычнай сістэмы, якая абапіраецца на затурканага чалавека-шрубчыка, абмежаванага ў сваіх магчымасцях рамкамі люмпенскай ураўнілаўкі і «бясхібнасцю» калектыўнага розуму. Тое ж адбываецца і ў эканамічнай сферы: адно з асноўных правоў чалавека — на прыватную ўласнасць /у тым ліку і на сродкі вытворчасці/, гэтую матэрыяльную аснову чалавечай свабоды ўвогуле, без якой не адбылося б і Амерыкі, камуністычная дактрына абвясціла непатрэбным і шкодным. Вынікам такога эканамічнага экстрэмізму з'явілася бязглуздзіца сацыялістычнай гаспадаркі і крах самой камуністычнай сістэмы. Але, нягледзячы на бясспрэчную сёння перавагу «антыкамунізму» ў інтэлектуальнай і вытворчай сферы, спрэчка можа мець пэўны працяг, праўда, зусім у іншай плоскасці і ў даволі нечаканым кірунку.

Адраджэнне камунізму ў класічным /прынамсі, савецкім/ выглядзе наўрад ці магчыма, як немагчыма паўтарэнне эканамічнай авантуры такога кшталту, але некаторыя палітычныя традыцыі, сацыяльныя ідэалы, метады псіхалагічнага і дзяржаўнага кіравання могуць з поспехам пераймацца іншымі аўтарытарнымі сістэмамі, не маючымі непасрэдна камуністычнага паходжання. Самы актуальны прыклад такіх дачыненняў — ісламскі фундаменталізм, як пракамуністычнага кірунку /Лівія/, так і больш правай арыентацыі /Іран, Ірак, Афганістан/. Яго экстэнсіўнае развіццё не выключае ўзнікнення новага супрацьдзеючага руху — антыфундаменталізму ці антыісламізму і новага ідэалагічнага расколу ў свеце. Аднак відавочна, што і савецкі камунізм, і германскі нацыянал-сацыялізм, і сучасны ісламскі фундаменталізм пры рознасці культурных, этнічных і сацыяльных вытокаў лучаць прынцыпы таталітарызму: дзяржаўны тэрор, аднамыснасць і культывіраванне статкавай свядомасці. Бывае, што выразныя рысы, якія традыцыйна адносяцца да камуністычных, могуць існаваць і ў даволі дэмакратычных умовах, у так званых цывілізаваных грамадствах. У гэтым шэрагу яскравым прыкладам з'яўляецца Японія.

На падставе даўняй антысавецкай пазіцыі, буржуазнага ладу жыцця і «сваяцтва» з Амерыкай Краіну Узыходзячага Сонца традыцыйна залічвалі ў шэраг заўзятых антыкамуністычных дзяржаў. Блізкае знаёмства з ёй адкрывае павярхоўнасць такога меркавання. Справа ў тым, што адна з асноўных рыс японскай ментальнасці так званы «калектывізм», абавязковая прыналежнасць да грамады, прызнанне першынства інтарэсаў супольнасці над правамі асобы, а гэта, так і карціць сказаць, плагіят з камуністычнай дактрыны. Адно замінае такому «адкрыццю» — традыцыя «бясхібнасці» і прыярытэтнасці калектыўнага розуму стваралася тут стагоддзямі, і, як даўно ўсталяваны нацыянальны прынцып, не выклікае сур'ёзных грамадскіх пярэчанняў. У Японіі традыцыйна лічыцца звычайным нівеліраванне асобы, невытырканне з пэўнага ўзроўню, згладжванне вострых індывідуальных рысаў, прытрымліванне агульнапрынятых нормаў. Тут, у адрозненне ад Амерыкі, індывідуалізм не ў пашане, затое заахвочваецца і культывуецца калектывізм, які, праўда, пазбаўлены адмоўнага люмпенска-разбуральнага кірунку і носіць хутчэй рацыянальны і стваральны характар. Нездарма так здзіўляла савецкіх людзей шматлікасць лозунгаў, заклікаў, гімнаў ды розных выслоўяў на японскіх заводах і ўстановах, многія з якіх /лозунгаў/ ідэнтычныя нагляднай камуністычнай агітацыі 30—50-х гадоў.

Акрамя моцных супольна-калектывісцкіх патэнцый, Краіну Узыходзячага Сонца лучыць з камуністычнай і расейскай традыцыяй наяўнасць імперскіх памкненняў. Сёння ў японцаў яны носяць мірны, немілітарысцкі характар, і ўсё ж мары аб сусветным панаванні, хай і ў фінансава-прамысловай сферы, — не такія ўжо бяскрыўдныя летуценні. Не ідэалізуючы амерыканцаў, маючых свае інтарэсы, заганы і часам непамерныя амбіцыі, трэба адзначыць, што іхнія памкненні хаваюць у сабе менш небяспекі, дзякуючы вялікай ролі адкрытасці і «касмапалітычнасці» амерыканскага грамадства, прыхільнасці яго да прынцыпаў свабоды і дэмакратыі, а таксама неімперскасці /у сэнсе «антыкамуністычнасці»/ іхняга менталітэту. Сучаснае саперніцтва Японіі і Амерыкі, якое звычайна ўспрымаецца як гандлёва-прамысловая вайна, на самай справе мае больш глыбокія, я б сказаў — ментальныя вытокі. Гэта супрацьстаянне супольна-калектывісцкага і прыватна-індывідуальнага светапогляду, прынцыповая барацьба азіяцкай феадальна-сацыялістычнай і еўрапеізаванай постімперыялістычнай сістэм.

Такім чынам, падабенства японскай і камуністычнай традыцый настолькі відавочнае, што Краіну Узыходзячага Сонца ў пэўным сэнсе можна назваць «пракамуністычнай» дзяржавай з буржуазным эканамічным ладам. Вядома, ад класічнага камунізму яе адрознівае шмат: свядомая мананацыянальная палітыка, адсутнасць грубай дэзінфармацыі, дзяржаўнага тэрору і бязглуздай гаспадаркі. Аднак пэўныя камуністычнападобныя рысы, аб якіх ішла гаворка вышэй, аб'ектыўна існуюць у Японіі — бадай, толькі ў больш вытанчаных і разумных формах. Апошняе тлумачыцца тым, што яны з'явіліся вынікам натуральнай эвалюцыі нацыі ды спецыфічных умоў японскай гісторыі, а таму значна больш эфектыўныя і жыццяздольныя, чым, напрыклад, у Расеі. Мабыць, назваць Японію прамой спадчынніцай камунізму было б задужа смела, але ў саперніцтве з Амерыкай яна ў нейкай меры будзе выконваць гэтую функцыю. Такая парадаксальная выснова, магчыма, збянтэжыць многіх прыхільнікаў марксізму-ленінізму, але, я думаю, што будучыня парушыць яшчэ не адну аксіёму савецка-дагматычных навук.

Звяртаючыся да нашага роднага, беларускага антыкамунізму, сёння такога кволага і малапапулярнага, нельга не парадавацца хаця б аднаму факту яго існавання. Калі нават пасля стольких год безраздзельнага ўладарання бальшавізму засталіся сярод нас людзі, здоль-

*(Працяг на стар. 12)*

Галоўны выбар — паміж ідэаламі, духоўнасцю і ашчаднай кніжкай /«Соль зямлі»/, паміж жаданнем быць значным і немагчымасцю пераадолець сябе ў дробязях. Жыццё, хваробы, каханне, адзюльтэр, флірт, работа — і смерць, заўсёды раптоўная і нечаканая... Маральная праблематыка і ёсць тое чацвёртае вымярэнне, праз якое паўстае ў апавяданнях славацкіх пісьменнікаў сучаснік. Паспешлівасць у думках, памкненнях, пачуццях не дазваляе яму агледзецца і паразважаць, усё гэта пакідаецца на потым, на канец жыцця, які таксама мае горкі смак. Над экзістэнцыяй гэтай — туга па сапраўдным жыцці, на якое не застаецца часу /«Зямля круглая» Душана Мітаны, «Пасля апошняй дзеі» Ёзафа Пушкаша/. Так і атрымоўваецца, што чалавек толькі ў мроях і можа быць самім сабою, бачыць здзяйсненне сваіх не такіх ужо і напалеонаўскіх планаў. Што сталася з нашым сучаснікам? Чаму ён так стаміўся ад цывілізацыі? Адказы на гэтыя пытанні наўрад ці трэба шукаць у мастацкім творы. Уражвае нейкая стомленая іронія, якая так выразна працінае ўсе апавяданні зборніка. І не таму, відаць, што так падабраў укладальнік, а таму, што іранічнае стаўленне ў постсацыялістычнай рэчаіснасці моцна адчуваецца. Літаратуры былых сацыялістычных краін адкрываюць сёння свой постмадэрнізм, для якога так характэрны абсурд, цытатнасць, рэтраспекцыя ўсёй культуры чалавецтва і намаганне асэнсаваць у яе кантэксце апошнія дзесяцігоддзі сваёй гісторыі. Менавіта з дапамогай іроніі, але постмадэрнісцкай, зведаўшай крызіс рацыяналістычнага мыслення і мастацтва.

Даследчыкі сучаснай славацкай літаратуры бачаць у гэтай іроніі спецыфічную праяву постмадэрнізму і, відаць, не без падстаў: пераканаўча гэта зроблена ў доктарскай дысертацыі славакісткі з Кіева Г. Сівачэкававай, у поле зроку даследчыцы, дарэчы, трапілі і Рудольф Слобада, і Павел Вілікоўскі, і іншыя прадстаўленыя ў нашым беларускім зборніку славацкія аўтары.

Апавяданні зборніка «Соль зямлі» вострасюжэтныя, блізкія часам да судовай хронікі /«Эскалацыя пачуццяў» П. Вілікоўскага/, дынамічныя, пабудаваныя вакол аднаго эпізода, рэальнага і непраўдападобнага, якія шакіруюць, здзіўляюць і не пакідаюць абыякавым. Вось, напрыклад, Юліус Балца /«У цягніку»/ пераносіць чытача ў вагон, дзе мітусіцца парсючок, двое старых выгадавалі яго і вязуць у горад, каб пацешыць унукаў. Старыя пражылі доўгія гады ва ўзаемным каханні і павазе, непрыкметна яны сталі падобныя, як брат і сястра. Побач хлопец у скуранцы і прыгажуня, апранутая быццам з «Бурды», якія амаль не рэагуюць на разгубленых старых. Іх «надпарсючковы раман», імклівы як бег цягніка, так кантрастуе з патрыярхальнымі пачуццямі і праблемамі. Тэма гарадскога кахання, разняволенага ад усялякіх абавязкаў і адказнасці, невыпадкова становіцца вядучай у зборніку — як напамін аб тым вялікім, што страціў сучасны чалавек.

Пераклад зроблены дакладна, з намаганнем перадаць індывідуальныя мастацкія рысы кожнага аўтара. І гэта трэба адзначыць як станоўчы момант, які сведчыць аб пераадоленні традыцыі, што часам адчуваецца ў нашым беларускім перакладзе, асабліва прозы для дзяцей. Я маю на ўвазе парушэнне «пабудовы» твора, калі вялікія абзацы робяцца дробнымі, а дробныя аб'ядноўваюцца. Калі ў якасці адбіўкі з'яўляюцца зорачкі, якіх няма ў арыгінале. Мне здаецца, перакладчык абавязаны не пакідаць па-за ўвагай такія «дробязі». Не думаю, што трэба спрашчаць тэкст і рабіць яго больш даступным дзецям, бо тыя здольныя зразумець значна больш, чым часам мяркуюць аб гэтым дарослыя.

Мэта мастацкага перакладу, відаць, выходзіць за межы простага перакладу зместу словамі іншай мовы. Перадаць мастацкасць, непаўторнасць аўтарскай індывідуальнасці, стылёва-жанравыя асаблівасці — значна складаней, але да гэтага неабходна імкнуцца, памятаючы, што перад намі не проста тэкст, а прыгожае пісьменства.

**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ,**
**доктар філалагічных навук**

Сярод кніг

# «І БІЦЦА Ў ЗМАНЛІВАЕ ШКЛО...»

Не памятаю ўжо, у якім кінафільме незнаёмец сказаў галоўнаму герою: «Я табе веру — у цябе сум у вачах». Гэтак жа мне хочацца сказаць паэтцы Людцы Сільновай, аўтарцы паэтычнага зборніка «Ластаўка ляціць...». Не кожны сум выклікае давер. Час ад часу сумуюць усе. Але сумуюць людзі па-рознаму. Некаму проста няма чым заняцца, нехта беззваротна страціў штосьці дарагое й любімае або расчараваўся ў нечым. Сум Людкі Сільновай іншы — лёгкі, таямнічы, глыбокі.

**З хлопцам-месяцам**
**хмаркай пройдуся**
**Па асмужаным доле нябёс**
**Над усёю маёй Беларуссю**
**І растану — у цемры,**
**без слёз.**

Вось так — без экзальтаванага надрыву, без бутафорскай філасафічнасці. Зараз ёсць, а праз пэўны час — растану. Паэтка не баіцца наканаванага. Ёй як быццам лягчэй ад таго, што некалі трэба растаць у цемры, «перайсці навек у сон травы і плёскат рэк». Ёй здаецца, што гэтак было раней, і яна мусіць вяртацца назад.

**Маленькага шкельца**
**празрыстае цельца,**
**Рэальнай матэрыі форма**
**нябачная...**
**Як часта, як часта яно**
**мне здаецца**
**Маім ідэалам ці формаю**
**страчанай!**

**Вось так бы хацела**
**і я існаваці:**
**Нябачна, нячутна,**
**і промні святла**
**Як гэтае шкло, праз сябе**
**прапускаці.**
**І ўсё мне здаецца,**
**я гэткай — была...**

*Людка Сільнова. Ластаўка ляціць... Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993.*

У зборніку няма зададзенай філасафічнасці. Аўтарка не ставіла сабе за мэту яе «выкліканне». Філасафічнасць прыйшла сама — як вопыт пасля сутыкнення з жыццём, як вынік будзённых разваг, выкліканых зямнымі клопатамі. Паэтка шукае раўнавагі: паміж высокімі памкненнямі і штодзённай мітульгой, паміж вонкавай задаволенасцю і душэўнай няўтульнасцю. І калі разумовыя пошукі губляюцца ў бясплённай бясконцасці, ёй хочацца стаць звычайнай жанчынай і ўскрыкнуць: «Як доўга не было дажджу! Як доўга не было кахання!» Ці маленькай дзяўчынкай заблудзіць у рамонкавым полі — хоць на хвіліну, хоць на імгненне! Калі нават гэта не прыносіць адхлання, у жанчыне прачынаецца паэтка. І толькі паэтка здольная суцешыць мяцежную душу, надаць ёй сілы, абудзіць надзею. У вачах з'яўляюцца іскрынкі, жанчына робіцца гарэзай, жартуе, «дзявочыцца» і, як замову, паўтарае: «Ты, паэтка, Ты, вар'ятка, Песня-Спетка, Душа-ў-Пятка!..» Жанчына-паэтка робіцца гаспадыняю цэлага сусвету, вырашальніцай лёсаў у ім. «Пішу — пра што хачу». Ёй дазваляецца ўсё: «Уверх нагамі перавярнуся і па высокім доле нябёс прайдуся!» Дзеля чаго? Каб пазбавіцца «дакучлівых ведаў», жыццёвых напластаванняў. І ў выніку — адбываецца ачышчэнне, абсыпаецца мёртвы, брудны тынк жыцця, і жанчына не пазнае «незнаёмай дзяўчыны абрыс». І ўсё пачынаецца адпачатку.

**У зерні яблыка**
**мільярдаствольны сад**
**Змяшчаецца — насуперак**
**фізічным**
**Законам матэр'яльнага**
**жыцця.**
**У гэткім каліўцы**
**маленечкім, карычневым!**

І так бясконца, адпаведна касмічным вышэйшым законам быцця, каб «свет нанова стварыць і назваць бацькамі...»

Уменне ачышчацца — галоўная таямніца Людкі Сільновай. Яе творчасць увесь час знаходзіцца ў кругазвароце. Паэтка аддаляецца і зноў вяртаецца да сутнасных пытанняў, і кожнае вяртанне прыносіць удакладненае асэнсаванне. Таму ў яе радках амаль заўсёды прысутнічае жыццёвая шчырасць, часам непрыхарошаная, у «хатнім халаціку», але ад гэтага ёй яшчэ больш верыш. І таму казаць штосьці трафарэтна-рэцэнзійнае, накшталт — збіўка рытму або недакладнасць рыфмы, у даным выпадку недарэчна. Нібыта казаць пра штосьці другаснае, не вартае ўвагі. Пэўна, гэтым і характарызуецца сапраўдная паэзія. Вядома, не ўсё так проста, акрамя шчырасці, трэба штосьці яшчэ, напрыклад, валоданне словам:

**Вось і ўсё, што я зрабіла, —**
**Нарадзілася і нарадзіла.**

Сільнова не будуе нейкіх нязджэйсных планаў. Ёсць жыццё, ёсць мацярынскі абавязак, ёсць паэзія. І гэтага ёй дастаткова. А як жа быць з ластаўкай? Але і тут паэтка не стварае ілюзій:

**І біцца ў зманлівае шкло,**
**Пакуль не згасне**
**дзён святло...**

І які ж у тым сэнс, спытаеце вы? На гэтае пытанне і шукае адказ паэтка Людка Сільнова.

**Алесь АРКУШ**

*г. Наваполацк*

актыўнасці, працуюць аўтарскія калектывы па стварэнні будучых хронік. Ужо падрыхтавана некалькі дзесяткаў рукапісаў, якія прайшлі рэцэнзаванне ў арганізацыйна-метадычным цэнтры пры Міністэрстве інфармацыі. Але гэта адзін бок справы, адносна нескладаны, які вырашаецца на мясцовым узроўні і не патрабуе значных фінансавых затрат. Куды больш складана абстаяць справы з выданнем ужо падрыхтаваных рукапісаў, асабліва ў сучасных умовах. Кошт работ па выпуску аднаго тома «Памяць» пераваліў ужо за 10 млн. рублёў, лічбу, якая яшчэ ў пачатку года здавалася неверагоднай. І, на жаль, тэндэнцыя да яе росту захоўваецца, і не выключана, што чарговы том гэтай серыі будзе каштаваць каля 20, а то і болей /у залежнасці ад аб'ёму кнігі/ мільёнаў. Відавочна, што гэтыя кнігі для выдавецтваў стратныя. Пакуль што дзяржава дае датацыю да 50 працэнтаў іх сабекошту як на беларускамоўныя выданні. Астатнія выдаткі павінны кампенсаваць выдавецтву раёны. Ці пад сілу ім гэта зараз, а тым больш у будучым? Упэўнены, што далёка не ўсім. У гэтай сітуацыі выклікае шкадаванне прынятае летась Міністэрствам інфармацыі рашэнне аб пераходзе на новы, павялічаны і больш складаны ў тэхналагічных адносінах, фармат выдання, што аўтаматычна значна павышае сабекошт кніг «Памяць» толькі з-за большага расходу паперы, кардону, фарбаў і іншых матэрыялаў, за кошт вымушанага выкарыстання, чаго вымагае новы фармат, больш дарагіх і дэфіцытных відаў паперы. Ці практычна гэта? Прымаючы такое рашэнне, зразумела, кіраваліся найперш жаданнем бачыць кнігу больш прывабнай, салідней, бо робіцца яна толькі аднойчы. Тады фінансава-эканамічныя пытанні, становішча спраў на рынку паперы і матэрыялаў чамусьці ў разлік не браліся. А шкада, бо зараз гэта становішча вартае жалю. Дастаткова прасачыць, як мяняўся колер вокладкі ўжо выдадзеных кніг «Памяць». Ці не сімвалічна, што апошняя з іх выйшла ў чорнай вокладцы? І кажуць, дзякуй Богу, што хоць такую знайшлі.

Ва ўмовах, што склаліся на сённяшні дзень, дзяржаўная праграма выдання серыі гісторыка-дакументальных хронік, на мой погляд, падлягае пэўнай карэкціроўцы. Па-першае, на дзяржаўным узроўні павінна быць канчаткова вырашана пытанне аб фінансава-эканамічным забеспячэнні гэтага выдання як дзяржзаказнога. Па-другое, прызнаючы на самым высокім узроўні, што мы бедная дзяржава, ці не варта падумаць пра адпаведнасць нашых планаў эканамічнаму стану грамадства, пра падзешаўленне выдання, магчыма, і за кошт скарачэння аб'ёмаў кніг. Па-трэцяе, пры станоўчым вырашэнні фінансавага боку пытання, варта ўспомніць, што гэта праграма міжвыдавецкая, і ў яе рэалізацыі з 1989 года павінны ўдзельнічаць амаль усе дзяржаўныя выдавецтвы. Пакуль жа яе выконвае толькі БелЭн /выпушчана 10 кніг, яшчэ 8 падрыхтавана ці рыхтуецца/. З прыняццем пастановы Савета Міністраў аб падрыхтоўцы і выданні новай універсальнай «Беларускай энцыклапедыі» ў 18 тамах на працягу 1995—2000 гадоў БелЭн у адносінах да выдання серыі «Памяць» становіцца ў адзін шэраг з астатнімі выдавецтвамі. І спадзявацца выканаць гэту праграму, як планавалася раней, пераважна сіламі энцыклапедыстаў зараз, мусіць, будзе нерэальна.

Ёсць праблемы і з тыражамі хронік і іх рэалізацыяй. На жаль, тут поўнае неразуменне важнасці справы і няўменне дзейнічаць дэманструюць кнігагандлюючыя структуры. Інакш чым растлумачыць, напрыклад, той факт, што на ўвесь вялікі /16 сельскіх і пасялковых Саветаў/ Гродзенскі раён аблспажыўсаюзаўскія кнігагандляры заказалі ўсяго 1000 экземпляраў кнігі «Памяць», калі толькі загінуўшых на вайне землякоў, названых пайменна ў гэтай хроніцы, некалькі тысяч. Выходзіць, што далёка не ўсім родным загінуўшых дастанецца гэта кніга-мемарыял.

І апошняе. Старажытныя лаціняне параўноўвалі кнігі з людзьмі. І сапраўды, ёсць людзі вядомыя на ўвесь свет, рэспубліку, а ёсць і такія, што славутыя ў сваім раёне, мястэчку, горадзе. Так і кнігі. Да апошняй катэгорыі можна аднесці і хронікі «Памяць». Кожная з іх паасобку, магчыма, для масавага чытача і не ўяўляе вялікай цікавасці, але, сабраныя разам, яны павінны даць яскравую карціну гістарычнага развіцця нашага народа і дзяржавы.

**Г. КІСЯЛЁЎ,**
**загадчык рэдакцыі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі**

# «... ІДУ ДА ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ»

## АЛЕСЬ ЗМАГАР СУСТРАКАЕ 90-ГОДДЗЕ

Алесь Змагар... Ён жа Алесь Валошка... Сапраўднае прозвішча — Яцэвіч. Нарадзіўся І кастрычніка 1903 года на Случчыне, у вёсцы Цароўцы. Бацька Алеся, валасны фельчар Хведар Яцэвіч, быў чалавекам нацыянальна свядомым, належаў да тых, хто не толькі верыў у незалежнасць Беларусі, а і гатовы быў дзеля яе будучыні змагацца са зброяй у руках. Калі пачалося ў 1920 годзе Слуцкае паўстанне, ён стаў адным з камандзіраў. Следам за бацькам пайшоў і семнаццацігадовы Алесь. У баі бацька, цяжка паранены, трапіў у палон і быў расстраляны. Сыну ж, пасля падаўлення паўстання, была наканавана турма, ды яму ўдалося ўцячы з-за кратаў. А паколькі да масавых рэпрэсій яшчэ не дайшло, у далейшым пра гэтае змаганне А. Яцэвіча «забыліся». Ён змог у 1925 годзе паступіць ва універсітэт, скончыў яго ў 1930 годзе. Вершы пачаў пісаць яшчэ падчас вучобы ў Слуцкай гімназіі, але найбольшая актыўнасць прыпадае на перыяд перадваеннага настаўніцтва.

Пачалася вайна. А. Змагар не мог забыцца на тое, што яго арыштоўвалі. У той жа час «лічыў маскоўскіх акупантаў ворагамі народа». Збіраўся пайсці на працу ў «Беларускую газэту», ды ад гэтага яго адгаварыў Рыгор Мурашка, з якім А. Змагар сябраваў. Мурашка параіў яму настаўнічаць, што А. Змагар і зрабіў. Пазней прымаў удзел у рабоце Другога Усебеларускага кангрэса. Пасля вызвалення Беларусі эмігрыраваў у Аўстрыю, у 1949 годзе пераехаў у Францыю, а з 1956-га жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.

На жаль, творчасць А. Змагара сучаснаму беларускаму чытачу амаль невядома. Толькі дзякуючы Б. Сачанку апублікавана некалькі яго паэтычных твораў, у тым ліку і ў анталогіі паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме», дзе змешчана восем вершаў. Але А. Змагар выступае і ў галіне прозы. Ён аўтар гістарычнага рамана «Случчына ў агні». У 1962 годзе выдаў у Кліўлендзе кнігу паэзіі «Да згоды», а ў 1974 годзе — зборнік апавяданняў «Лесавікі». Падрыхтаваў таксама зборнік для дзяцей «Школка», напісаў аўтабіяграфічны раман «Ганебная Пляма», спрабуе сілы ў драматургіі.

Як і ў іншых пісьменнікаў беларускага замежжа, у А. Змагара асноўныя паэтычныя матывы — туга па Бацькаўшчыне, вера ў тое, што рана ці позна, а пра іх на Радзіме ўспомняць. Пра гэта сведчыць і адзін з яго лепшых вершаў «Адзіны толькі маю шлях» /у 1991 годзе яго перадрукаваў у сваім першым нумары часопіс «Грунвальд», што выходзіць у Таліне/:

**Край мой родны! Ведай:**
**я вярнуся,**
**Бо адзіны толькі маю шлях.**
**З ім Цябе ніколі не зракуся!**
**З ім іду да вольнай Беларусі**
**Пад Пагоні пераможны**
**сцяг.**

**А.АН-ЕВІЧ**

Паэзія

Алесь КАСКО



# «І ВАМ АДКРЫЕЦЦА МАГЧЫМАСЦЬ...»

•

**За некалькі крокаў спыніліся мы:**
**далей — ні парома, ні моста, ні лодкі.**
**І шлях твой — зваротны, і час мой — кароткі,**
**і з дальняга берага — подых зімы.**

**І слова няма, каб расстанне сагрэць,**
**згубілася слова ў аціхлым мінулым**
**маім — а тваё яшчэ поўніцца гулам...**
**— Бяжы! У юнацтва ты можаш паспець.**

**Марудзіш. На хвалі, што бы са свінца,**
**глядзіш і не ў сіле ад іх адарвацца:**
**— Мне рана — з табою, ды позна вяртацца,**
**няхай гэтай хвілі не будзе канца!**

**Удзячны да скрухі за светлы наіў:**
**яшчэ ты не ўмееш загадваць наперад —**
**не бачыш, што ўжо мой наблізіўся бераг,**
**што я размаўляю з табою на ім...**

## ПЛЯЦ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Калі трымцеў сухмень ліловы**
**і вусны зводзіла ад смагі,**
**бы кроплі, выбліснулі словы**
**з-пад анямення і знявагі.**

**І дождж, які хацеў праліцца,**
**адумаўся і знік за пляцам:**
**цяпер было чым наталіцца,**
**цяпер было за што баяцца.**

**З таго і вочы звільгацелі,**
**з таго й палотнішча ўрасела,**
**і покуль кроплі мільгацелі,**
**душа на нітачцы вісела.**

**І хай не схлынула адразу**
**задуха — волі дня замала, —**
**ды гэты пляц быў як аазіс**
**для ўсёй рэспублікі сасмаглай.**

## ПЕРАД СВЕЧКАЮ

**Што век — са свечку, не тужыце:**
**узрост ці выстудзіць душу?**
**Вы хоць агарка не тушыце,**
**яго і сам не патушу.**

**Яго нясіце ў храм сасновы,**
**у вечаровы, залаты,**
**каб ён запалымнеў нанова**
**ад нехалоднай яснаты.**

**Яго трымайце, засланіўшы**
**ад скрадлівага скразняка,**
**над подыхам бяссоннай кніжкі,**
**над цёплай споведдзю радка.**

**А ўночы, калі мулка спіцца,**
**хай скрозь адлегласць паўстае**
**ў ім водсвет хаты, як зарніца**
**нязгаснай памяці яе.**

**Краса, паэзія, айчына**
**слязінкаю раз'ясняць зрок,**
**і вам адкрыецца магчымасць**
**убачыць прышласць хоць на крок.**

**Дык перад свечкай не грашыце**
**на ўзрост, на прыцемкі... Прашу:**
**вы хоць агарка не тушыце,**
**я сам — яго не патушу.**

## ПЕРАМЕННАСЦЬ

**Даўно я не ўзіраўся ў ноч,**
**шчаслівы быў — не бачыў ночы.**
**Яна прыйшла, глядзіць па-воўчы,**
**прылегла блізка каля ног.**

**Нібыта хтосьці ноч прывёў,**
**пакінуў мне — ён гэткі самы,**
**якім быў я; мы палюсамі**
**перамяніліся без слоў.**

**Цяпер узлёт — яму, мне — спад,**
**ён па-над зоркаваю гушчай**
**ляціць аслепла, невідушча —**
**застаўся мне яго пагляд.**

Проза

Іван НАВУМЕНКА



# ДВА АПАВЯДАННІ

## ВАГАВАЯ БУДКА

Калі не сплю ці доўга не магу заснуць, стаіць у вачах вагавая будка, ад якой пачынаюцца тупіковыя пуці. У гады майго дзяцінства яна была маленькая, падобная на каплічку, пафарбаваная, як усе станцыйныя будынкі, у жоўты колер, а зверху пакрытая цёмна-чырвонай бляхай.

Перад вайной каля зарослых палыном, гадзючнікам, быльнікам тупіковых пуцей раённыя нарыхтоўчыя канторы набудавалі розных складаў і баз. З іх, пачынаючы з сярэдзіны лета, грузілі ў вагоны скрынкі памідораў, агуркоў, розную іншую агародніну, бульбу, а зімою -- збожжа.

Менавіта тады на месцы непрыкметнай каплічкі вырасла новая вагавая будка — прасторная, светла-жоўтая, з вялікімі на ўсю сцяну вокнамі-рашоткамі. Бо цяпер трэба было ўзважваць многа вагонаў.

Мае дзіцячыя гады праляталі каля чыгункі. За нашым агародам ляжаў чыгуначны насып, а насупраць хаты стаяў з паднятым ці апушчаным крылом семафор.

Калі па рэйках несліся цягнікі, у вокнах звінелі шыбы, трохі падрыгвалі сцены, падлога, але да гэтага, як і да пранізлівых паравозных гудкоў, перастуквання колаў мы прывыклі і не звярталі ўвагі. Нават ноччу на сон гэта не ўплывала.

Канец нашага агарода — фактычна балацянка. У мокрае, дажджлівае лета бульба тут вымакае. Таму чыгуначная каляя, тупіковыя пуці ляжаць тут на насыпе, прыкметна вышэйшым, чым у другіх мясцінах. І вагавая будка таксама пастаўлена на высокім насыпе.

Бацька працаваў на чыгунцы стрэлачнікам. Гадоў у дзесяць, пасля таго, як я скончыў другі клас, ён узяў мяне за руку і адвёў у рамонтную брыгаду. З таго часу маё вольнае жыццё скончылася. Восенню, зімой, вясной хадзіў у школу, а ў час летніх канікулаў шыбаваў у пуцейскую казарму. Там чарнавокі, падлобісты, страшнаваты з твару брыгадзір /па характары, аднак, вельмі добры чалавек/ размяркоўваў, каго куды паслаць. Напачатку я ссякаў між шпалаў траву, зносіў са станцыйных пуцей жужаль і гэтак непрыкметна дарос да пуцейскага рамонтніка. А гэта ўжо нялёгкая работа: мы падбівалі баласт пад шпалы, мянялі гнілыя шпалы на новыя, разагнанай лябёдкай звужалі стыкі рэек.

Правільна напісаў адзін пісьменнік: у час нямецкай акупацыі ў кожным пасёлку, гарадку, а ў вялікім горадзе дык нават на кожнай вуліцы была свая «Маладая гвардыя», гэта значыць падпольная арганізацыя ці група. І я быў у такой «маладой гвардыі».

Акупацыя гарадка працягвалася два з лішкам гады. Першы год я нідзе не працаваў.

Летам другога года прыйшлося ўладкоўвацца на службу. Я ведаў дакладна: мяне запісалі на работу ў Германію. А там заганяць на завод ці шахту і прыйдзецца ўкалваць дзеля перамогі нямецкай зброі. То лепей тут дзе-небудзь прыткнуцца...

Брыгадзір са страхавідным тварам па-ранейшаму ўзначальваў рамонтную брыгаду і лёгка мог залічыць мяне рамонтнікам. Але рамантаваць немцам чыгунку я не хацеў. Па перашытай каляі імчалі на ўсход нямецкія цягнікі, і працаваць на чыгунцы, значыць, пасабляць ворагу. Так я тады думаў...

Прыёмніка да лета сорак другога года мы не мелі, аднак прага ведаць, што робіцца на фронце, на свеце, была такая нясцерпная, што я і мой сябар Іван Гарошык настолькі добра вывучылі нямецкую мову /мы яе і да вайны ніштавата ведалі/, што свабодна чыталі нямецкую газету.

Мы з Іванам наважылі ўладкавацца ў якую-небудзь кантору. Пісарчукамі ці рахункаводамі. Вядома, з дазволу падпольнай групы.

Тоўсценькі, чырванатвары бургамістр /жыхары благога пра яго не гаварылі, наадварот хвалілі/ накіраваў нас з Іванам на фінансавую работу. Мяне касірам у лясгас. Івана — картатэчнікам у гандлёвую кантору.

У той прыкладна час, калі я паступіў на работу, савецкі самалёт у недалёкай ад мястэчка вёсцы высадзіў дэсант. Так здарылася, што я бачыў, як высаджваўся гэты дэсант. Самалёт спусціўся зусім нізка, зрабіў некалькі кругоў над лесам і паляцеў на ўсход. Было гадзін дванаццаць ночы.

У хуткім часе мы ўстанавілі сувязь з дэсантнікамі. Іван Гарошык пакінуў кантору і стаў працаваць на чыгунцы. Трэба было лічыць воінскія эшалоны.

Я касірскую пасаду не пакінуў. Яна давала сякую-такую магчымасць збіраць патрэбныя звесткі. Добра ведаць чужую мову. Звычайна нямецкія часці, якія прыбываюць на адпачынак ці папаўненне ў мястэчка ці на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі, будуюць бункеры, іншыя памяшканні, не пытаючыся дазволу лясгаса, бяруць драўніну. Але рахункі лясгас ім выстаўляе.

Гэтыя рахункі — мой козыр. З імі я завітваю да інтэндантаў, ваенных пісараў і часта штосьці патрэбнае вынюхваю.

Але баліць душа. Вораг другі год топча родную зямлю. Гэта — я думаю — разумее толькі той, хто сам перажыў падобнае. Няма большай знявагі, чым чужая ўлада, чужая воля, якая вісіць над табой і ад якой ты залежыш.

Летам сорак трэцяга года на ўтравянелыя тупіковыя пуці прыгналі і паставілі цэлы эшалон абшарпаных цяплушак. Размясціўся ў іх разнастайны люд: палякі, чэхі, бельгійцы, французы. Немцы адарвалі людзей ад сем'яў, прыгналі на далёкую, невядомую станцыю. Выкарыстоўвалі ў якасці рамонтнікаў. Прычым рамонтнікаў асаблівых, якія аднаўлялі чыгунку, клалі новыя рэйкі, шпалы пасля партызанскіх дыверсій. Не хацелі немцы, каб рамантавалі чыгунку мясцовыя людзі. Бо тады пра партызанскія справы, іх размах будзе ведаць усё вакольнае насельніцтва. Кожную раніцу я праходжу міма застыглага эшалона цяплушак, вагавай будкі, кіруючы ў лясгас, на службу.

У думках я называю тупіковы эшалон «новай Еўропай». Пра «новую Еўропу», «новы парадак» цяпер кожны дзень пішуць у газетах немцы. Відаць, баяцца рускіх, іх наступлення і хочуць з'яднаць еўрапейскі люд, пагражаючы нашэсцем дзікіх азіяцкіх ордаў.

Каля эшалона ніколі не спыняецца гандаль. Тут аціраецца мясцовая басота. Яна за нямецкія маркі, якія ніякай цаны ў мястэчку не маюць, вымяньвае ў рамонтнікаў запальнічкі, цыгарэты, іншую драбязу, якую, відаць, бельгійцам, чэхам, французам прысылаюць з дому.

У мяне сярод рамонтнікаў ёсць знаёмы беларус Мікола Кашуля, з-пад Белай Падляскі. Ён служыў у польскай арміі. Трапіў у палон да немцаў і вось яго прызвалі сюды. Круглатвары, прысадзісты, ён здаецца спакойным і ўраўнаважаным. Але толькі да таго часу, пакуль гаворка не заходзіць пра немцаў. Немцаў Мікола ненавідзіць люта і адразу выбухае гневам:

— То гэрады!.. Бандыты, ві-сельнікі. Іх трэба стшэляць, нішчыць, мардаваць! Справіллова робяць вашы партызаны...

Мікола прыходзіць да мяне. Маці яго трохі падкармлівае. Пайка, які атрымліваюць рамонтнікі, не хапае.

Ужо чэрвень мінуў, ліпень пачаўся, але немцы не наступаюць. Я трывожуся. Няўжо будзе, як летась і пазалетась? Зімой поспех у Чырвонай Арміі, але як толькі прыгрэе сонца, падсохнуць дарогі, ачысціцца ад воблакаў неба, немцы пруць напралом наперад.

Нарэшце і Кашулю я прылучаю да справы. Ён ахвотна згаджаецца дапамагаць партызанам.

Між тым на фронце пачалося. Мы, сувязнікі, лічы, з сакавіка-красавіка паведамляем дэсантнікам, у якіх ёсць радыёстанцыя, пра новыя танкі, артылерыйскія ўстаноўкі, якія немцы ліхаманкава перакідваюць на фронт. Толькі не ведаем, як гэтая тэхніка называецца. Аказваецца, танкі — «Тыгры», артылерыйскія самаходкі — «Фердынанды». Цяпер «Тыгры» і «Фердынанды» хочуць адсячы Курскі выступ.

Я кожны дзень хаджу на станцыю, дзе для немцаў-чыгуначнікаў у калідоры цаглянага двухпавярховага дома-інтэрната, вывешваюцца надрукаваныя на пішучай машынцы вайсковыя зводкі.

Слаба прасоўваюцца немцы, але ўсё ж прасоўваюцца. Маё сэрца поўна трывогі і непакою. Няўжо зноў паражэнне, адступленне? Але так цягнецца нядоўга. Нарэшце немцы спатыкаюцца. Пішуць пра шалёныя атакі рускіх, якія нібыта з поспехам адбіваюць, пра жорсткія, крывавыя баі. Я навучыўся чытаць між радкоў: савецкае войска, значыць, перайшло ў наступленне. Здагадка ў хуткім часе пацвярджаецца: нібы скрозь зубы немцы паведамляюць: пакінулі два гарады — Арол і Белгарад.

Трэба было бачыць у гэты дзень «новую Еўропу»! Скінуўшы чорныя рабочыя робы, апрануўшыся ў лепшую вопратку, рамонтнікі частуюць адзін другога шнапсам, іграюць на гітарах, губных гармоніках, спяваюць. Той, хто іграць не ўмее, проста б'е лыжкай па кацялку. Абы болей гуку. Гэтак адзначае «новая Еўропа» летнюю перамогу рускіх.

Кашуля як з нажом к горлу прыстае да мяне.

— Ты партызан. Дай мне вашу штуковіну. Зробім, як належыць.

Праз колькі часу я перадаю Міколу чорную магнітную міну-чарапашку. Хлопцы, якія працуюць на чыгунцы, прыладзілі дзве такія міны пад нямецкія цыстэрны. Вынікаў, аднак, мы не ведаем: міны з хімічным узрывальнікам і выбухаюць яны аж праз дванаццаць гадзін, далёка ад нашай станцыі.

Кашуля міну прыладзіў пад цыстэрну, не могучы стрымаць радасці, ледзь не крычыць:

— Ну, і жарнула! Поцёнг стаў ракам. Вагон узлез на вагон, як жарабец на кабылу. Германцы пшыехалі ў дупу...

Кашуля яўна пахваляецца: выбуху ён бачыць не мог. Але я яго разумею.

У тыя дні я паверыў канчаткова: песенька немцаў спета. Болей ім не падняцца, колькі б вайна яшчэ ні працягвалася.

Прыязджаючы дамоў, у мястэчка /цяпер яно называецца горадам/, я заўсёды праходжу міма вагавай будкі, баз, складскіх памяшканняў. Яны зніначыліся, прыселі, як бы ўехалі ў зямлю... Быльнёг, палын, гадзючнік, як і раней, раскашуе на тупіковых пуцях. Але радасна б'ецца сэрца, калі я праходжу міма гэтых мясцін. Тут сталела маё юнацтва. У той далёкі сорак трэці год я перажыў найвышэйшы ўзлёт духу, адчуўшы, зразумеўшы, што вораг, які прыйшоў на родную зямлю, лічыў яе заваяванай, пастаўленай на калені, зламаны, падкошаны і больш ніколі на ногі не падымецца, колькі б ні працягвалася вайна...

## У ЗАГРАБЕ, НА ПЛОШЧЫ...

Мы ехалі з Заграба ў Любляну. У сталіцы Харватыі праводзіўся кангрэс славістаў і яго

Усё, што ўчора не відно
было з высокага палёту,
адкрылася — маю самоту
бязмежжа цемры праняло.

Святла шукаю ў чарнаце,
якая хіжа іклы шчэрыць.
Баюся, гладжу ноч, бы звера:
шарсцінкі страху на руцэ.

Свой час я мушу прычакаць,
ну, а пакуль што вочы ў вочы
стаю насупраць чорнай ночы,
як звер, гатовы да скачка.

●

Хлебам-сырам варону кармлю,
ёй кідаю то крошку, то скрылік
на сухую, бы хлеб мой, зямлю,
на птушыныя чорныя крыллі.

Спадабляе мой корм і прыгляд,
прыручу, як не будзе дурная, —
хай пад вокны мае, у мой сад
аж да самай вясны прылятае.

Чорны сад мой — такая ж яна,
вось і ходзіць па ім, быццам пані,
ёй сяброўак гурма не чутна,
што над могілкамі гарлапаніць.

Тут зацішна, ніякай бяды,
добра ўсё ж напаткаўшай апеку:
што з таго, што ўчарнелі сады,
што тужліва над ёй чалавеку?

Усё роўна, якая пара
і ў прыродзе, і ў зболеным сэрцы
і з чыім праз прорву двара
позірк мой гэтак прагне сустрэцца.

Добра ёй, што без сцюжы зіма,
што жыццё маё — скокам ды бокам,
што са мною галубкі няма
і што мне, як і ёй, адзінока.

## З НІЗКІ «ЭСКІЗЫ»

1

У юнацтве згадваем дзяцінства,
у дарослацці — юнацтва,
у старасці — сталасць...
І толькі старасці
няма калі ўспомніць.

2

Вочы — змяркальныя сонцы,
стомленыя і няяркія, —
шлюць развітальныя промні дню.

Хутка жыццё ў іх патухне, —
імі высвечанае, імі сагрэтае,
імі й забранае ў глыбіню.

ўдзельнікам, каб трохі адпачылі, развеяліся, наладзілі вось гэтую паездку. Я ніколі не быў у Югаславіі і было цікава хоць трохі пазнаёміцца з зямлёй паўднёвых славян. Краявіды навакол выдатныя. Асабліва ў Панοніі, роўнай, пакатай даліне з багатымі нівамі, прыгожымі пералескамі, гаямі, пасёлкамі і гарадкамі, белымі дамкамі, пакрытымі чырвонай чарапіцай. Калі ёсць дзе-небудзь рай, то ён іменна тут, думаў я.

Можна было адпачыць і нават павесяліцца. Але мы, савецкія людзі, заўсёды задуменныя, заклапочаныя, дысцыплінаваныя. Асабліва, калі трапляем за рубеж. На кангрэсе выступіў англічанін, праўдзівей наш беларускі яўрэй, які перабраўся ў Англію і стаў там прафесарам-славістам. Гаворачы пра Максіма Багдановіча, ён увогуле ацаніў яго правільна, хоць сёе-тое ў ягонай прамове мне не спадабалася.

Англійскую мову я ведаю надзвычай кепска, таму перакласці выступленне англійскага прафесара папрасіў калегу-ўкраінца. Змарнаваў яго час і свой. Прыгажосці Паноніі мы не ўбачылі. Бо ўсю дарогу ўкраінец тлумачыў мне незразумелыя словы.

На сённяшні мой розум, пярэчыць містэру Бэрку /так на англійскі манер ён перарабіў сваё прозвішча Бяркοвіч/ было зусім неабавязкова. Кожны мае права гаварыць, што хоча. Але ў той час мы не маглі не аспрэчыць апанента нават у дробязях.

Любляна — горад мяккі, утульны. Такой, здаецца, і павінна быць сталіца невялікага славянскага народа. У люблянскіх пячорах, куды нас павялі на экскурсію, надпісы былі па-нямецку, па-французску, па-англійску і ніводнага па-руску. Я нават пакрыўдзіўся. Хіба не нашы хлопцы гінулі ў апошнюю вайну, каб вызваліць гэтую самую Славенію. Партызаны, якія тут, відаць, былі, гэта добра, але яшчэ ніколі і нідзе партызаны без рэгулярнай арміі не вызвалялі родную зямлю ад захопнікаў.

Было ва ўсім гэтым трошкі і асабістай абразы. Мой прадзед Іван, ваюючы на Шыпцы, вызваляючы паўднёвых славян, заслужыў медаль, і гэтая ягоная ўзнагарода, можна сказаць, паклала пачатак нашаму роду. Калі прадзед вярнуўся з войска, яму нарэзалі валоку казённай зямлі. /У нашай мясцовасці прыгону ніколі не было/. З гэтай валокі перапаў добры кавалак майму дзеду, а затым бацьку. А вось бацькаваму брату Гаўрылу пакарыстацца зямлёй не прыйшлося. Пачалася першая сусветная вайна. Яго мабілізавалі ў войска, і ў Галіцыі, дзесьці не вельмі далёка ад гэтай Славеніі, ён склаў галаву.

Прадзедаў медаль мог захавацца да сённяшняга дня, каб не наша дзіцячая бесклапотнасць. Ён валяўся ў шафе стала разам з засаленымі відэльцамі, брускамі, шыльцамі, катушкамі нітак, быў ужо без лентачкі і нагадваў старадаўні пятак з чырвонай медзі.

Калі я пайшоў у школу, стаў сёе-тое разумець, памкнуўся надзейней прыхаваць прадзедаву ўзнагароду, але медаля ўжо не знайшоў. Мае малодшыя браты любілі класці пятакі на рэйкі, пад колы цягніка, а ў расплясканых кружочках прабівалі дзіркі, нанізвалі на нітку, робячы для гульняў індзейскія бусы. Магчыма, дзеля гэтай мэты быў выкарыстаны і прадзедаў медаль.

Я, вядома, выступіў супраць пана Бэрка-Бярковіча, невысокага, смяшлівага і надзвычай шустрага чалавека. Ён за гэта нікольки не пакрыўдзіўся. Наадварот, з удзячнасцю паціснуў мне руку: у нейкай меры я ўзняў ягоны аўтарытэт, бо пра пераважную большасць прачытаных на кангрэсе дакладаў ніхто нават словам не азваўся.

Браты-славяне між тым бубняць бясконцыя даклады, рэфераты, паведамленні кожны на сваёй мове. Ёсць такая прывілея на славістычных кангрэсах: кожны, калі захоча, можа гаварыць на ўласнай нацыянальнай мове. Я добра разумею ўкраінцаў, збольшага — палякаў, трошачкі чэхаў і болей нікога. Хоць даўно купляю газеты на сербахарвацкай, славацкай. славенскай мовах. Тэкст сяк-так разбіраю, але вусную гаворку не схопліваю

Паглядзеўшы праграму, пераканаўшыся, што наперадзе даклады на незразумелых мне мовах, я з кангрэса паціху змываюся. Блукаю па глухіх вулачках Заграба, дзе яшчэ захаваліся дашчаныя парканы, плятні, зелянеюць агароды, з бульбай, капустай, агуркамі і дзіўлюся, што ўсё гэта вельмі падобнае на наша, беларускае. Існуе, значыць, агульны славянскі дух і падобны побыт. Можа ганарыцца славянства: недалёка цёплае Адрыятычнае мора, якога я ніколі не бачыў, за морам — Італія, Рым, калыска старажытнай культуры.

Я ведаю, што ў мінулую вайну, у якой і я ўдзельнічаў, Гітлер і Мусаліні стварылі так званую незалежную Харватыю, у якую ўваходзілі другія паўднёваславянскія землі, у тым ліку Боснія і Герцагавіна. У газетах пісалі пра стаўленіка фашыстаў Павеліча, які асабліва жорстка знішчаў сербаў.

Па гэтай прычыне мне не зусім зразумела, чаму кангрэс праводзіцца ў Заграбе, а не, скажам, у Бялградзе ці той жа Любляне? У Бялградзе ён мусіў праводзіцца, нават зборнік дакладаў быў выдадзены, але пачалася другая сусветная вайна. Пасля нападу Гітлера на Расію Югаславія паўстала, гарэла ў агні партызанскай вайны. То чаму не ўспомніць пра гэта, не ўшанаваць гераічных сербаў, якія найбольш пралілі крыві супраць агульнага ворага. Хоць з другога боку, кангрэс, магчыма, заклікаты прымірыць супярэчнасці, даць штуршок яднанню і брацтву славянскіх народаў. Бо партызаны, якія змагаліся супраць фашыстаў, Павеліча, ягоных усташоў, былі і ў Харватыі.

Вечарам невялікая цэнтральная плошча Заграба шчыльна забіта. Моладзі, відаць, некуды падацца, апрача вось гэтай не надта шырокай плошчы. Тут працуюць кавярні, бары. Таму таўчэцца народ.

Я лёгка ўяўляю, што гэтак жа было ў акупацыю. Усе славянскія сталіцы, уключаючы Прагу, Варшаву, Бялград, Кіеў, мой родны Мінск, былі захоплены фашыстамі. Тут размяшчаліся нямецкія шпіталі, афіцэрскія казіно, нават публічныя дамы. Вольнай, незалежнай заставалася адна толькі славянская сталіца — Масква.

Збіраючыся на плошчы, патрыёты, партызанскія памочнікі, падпольшчыкі ў вайну, відаць, гаварылі пра становішча на фронце, радаваліся поспехам, перамогам Чырвонай Арміі, смуткавалі з прычыны яе няўдач. Бо не было другой сілы, акрамя Расіі, якая б магла вызваліць усходніх, заходніх, паўднёвых і ўсіх астатніх славян.

Адбубнілі славісты даклады, рэфераты, а далей — недарэчнасць. Звычайна мнагалюдныя міжнародныя форумы, на якія іх удзельнікі прыязджаюць з Амерыкі, Канады, нават з далёкай Аўстраліі, заканчваюцца няхай не багатымі — з чаркай віна, бутэрбродам на закуску — прыёмамі, прамовамі, віншаваннямі. У Заграбе і гэтага не было. Папхалі дэлегаты даклады ў папкі, тэчкі, нямытую бялізну паклалі ў чамаданы, купілі білеты на цягнікі і паехалі кожны ў свой бок...



## Пераклады

***Друкуем вершы двух украінскіх паэтаў. Імя Пятра Гарэцкага, спадзяёмся, добра вядома чытачам — яго творы ў перакладах на беларускую мову не раз публікаваліся ў нашай перыёдыцы. Нядаўна Пятро Гарэцкі пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Віншуем Пятра Ігнатавіча, жадаем яму добрага здароўя, плёну ў творчай працы.***

***Анатоль Блізнюк выступае ў беларускім друку ўпершыню. Але і ён не «чужы» ў нашай краіне. Анатоль Блізнюк — дыпламатычны работнік братняй Украіны.***

***Пераклады зрабіў Уладзімір ПАЎЛАЎ.***

Пятро ГАРЭЦКІ

## БЕРАГ

Пакуль да мора сіняга дайсці,
Два берагі заўсёды маюць рэкі...
Да аднаго прычаліў я ў жыцці —
На ім мне даражэй усё адвеку:
Любоў і праўда, да якіх жадзён,
Сумленнасць, як нясхмаранае неба,
І назаўжды, у плыні маіх дзён,
Для мяне іншых берагоў не трэба.
Я ўвесь на ім у цішы і ў дажджы,
У дні сваёй і радасці й адчаю.
Тым берагам, што выбраў, — даражу,
І ад яго нікуды не адчалю.

## СЛЯДЫ ЧАРНОБЫЛЯ

Каб паўставалі прашчуры з магілы,
То з болем запыталіся б у нас:
— Ну што ж вы, нашы дзеці, нарабілі
З зямлёю роднай у свой зорны час?
Якую мы так песцілі, любілі,
Пакінулі на ёй свае сляды...
Чарнобылем яе ўсю ачарнілі,
Атруцілі, магчыма, назаўжды.
Не зашуміць на ёй вусаты колас,
Сады ўсыхаюць, а паміж галля
Без радасці звініць птушыны голас,
Цвісці дзе нівам, там звяроў гайня.
Зямля, што нам усім давала сілы,
І мы не раз у цяжкі, грозны час
Яе сваёй крывёю арасілі,
Ад ворагаў ратуючы для вас, —
Цяпер яна нібы зламала крылы,
Вас праганяе ад сябе сама.
Сыны і ўнукі, што вы нарабілі? —
Спакою на тым свеце нам няма.

●

Ідзі і сей — сей дабрыню,
Няхай прарастае і спее.
Яе баіцца, як агню
Брыда, што кожны раз шалее.
Дабром гасіць старайся зло,
У душах абуджаць пачуцці,
Халодным сэрцам даць цяпло,
Каб да жыцця ізноў вярнуць іх.
Дабро не ведае мяжы,
І сіла ў тым яго спрадвеку.
Гатова ў прыпар, час імжы
Пасобіць духам чалавеку.
Заняў крутую шырыню —
Ідзі і сей — сей дабрыню.

## НАСТАНЕ ЧАС

Настане час, не можа быць, ён будзе.
Не той, што сее ў душах каламуць.
І схіляцца над кнігамі зноў людзі,
Пра музыку размовы павядуць.
І песня, распасцёршы ўшыркі крылы,
У чыстым небе залунае ўся,
І дабрыня напне сваё вятрыла,
І ў сэрцах заструменіцца краса.
Цяпло братэрства, што ў маім народзе
Жыло заўжды, спраменіцца з грудзей,
І хлеб і соль зноў стануцца ў нагодзе,
Як трэба, сустракаючы гасцей.
Нашчадкі нашы — у іх словам мецім —
Падзівяцца, прыгадваючы нас:
Ну як маглі душою абяднець вы?..
Я веру, прыйдзе, прыйдзе лепшы час.

## ДАЎГІ

Душу трымаю ў помыслах гарачых.
Вачам празрыста, светла без тугі.
Ды пачуваю так сябе, няйначай,
Услед за мной ідуць мае даўгі.
Ці дзесь з калосся сыплюцца зярніны,
Ці дзесьці непакошаны лугі,
У тым хоць і няма мае правіны,
Але пячэ ўсё тое, як даўгі.
Калі гляджу, як муляцца крыніцы,
Ці рэчак выпрамляюць берагі,
Ці дзесь бур'ян паспеў укараніцца, —
Мне ўсё здаецца: й там мае даўгі.
Ці дзесь дымы нібы асатанелі,
Дубоў зжаўцелых вузяцца кругі,
Плады ў садах счарнелі, недаспелі, —
То зноў мой боль і зноў мае даўгі!
Калі са стогнам матухна-зямліца
Упрошвае любові і снагі*,
Калі знікае назусім крыніца, —
Нясплачаныя зноў мае даўгі.
Яны мае, пакуль на свеце жыцьму.
Пра іх не буду весці я таргі,
А ўсё аддам, каб іх спаўна сплаціць мне —
У небыццё не панясу даўгі.

---

* *снага — сіла, энергія.*

Анатоль БЛІЗНЮК

●

У жніўні ранак свежасцю запах.
Расправіў вецер крылы на паўсвету,
Дыхнуў, і ў патрывожаных садах
Пасыпаліся спелыя ранеты.

Наліты сонцам, песняй салаўя,
Ляцяць яны дадому буйным градам.
Уражаны, стаю на сцежцы я,
Абсыпаны вакол яблыкападам.

Прапахлы мёдам яблык я бяру,
Што апынуўся раптам пад нагамі.
А ранак пагасіў ужо зару,
Далей падаўся срэбнымі лугамі.

А я стаю з ранетам у руках
І запыт да сябе ў мяне кароткі:
А што зрабіў я, каб ва ўсіх садах
Такі быў яблык, вабны і салодкі?

## РАДАСЦЬ

Ты хочаш радасці...
Знябыўся ад чакання,
Як сад, што спіць і бачыць весні дзень.
Чакаеш, быццам першага кахання,
А радасць побач ходзіць, нібы цень.

Бывае, хочаш, каб служыла слава,
Пакорай вочы лашчыла табе.
Але ці маеш гэтакае права
На вымаганне радасці сабе?

На Прыдзяснянні жыта палавее,
Каб хлеб даспеліць, зноўку зацвісці...
Ты хочаш радасці...
Але скажы, ці ўмееш
Яе хоць кроплю іншым прынясці?

## «...І ІНШЫЯ»

Нібы суквецце, марна сцвіўшае,
Што ў небыццё пайшло, на глум,
Пасля імён вяльмож
«...і іншыя»,
Прыпіска спараджае сум.

Хто «іншыя», ці як там — «інш.»?
Няйначай той, хто плаціць чынш.

Правафланговым, першарадным,
Вядома, слава і хвала.
А што — на працу, подзвіг ратны
«...і іншых» гвардыя не йшла?

Ішла, не еўшы і не піўшы,
Ў атакі раць за раццю «іншых».

О, колькі звяла, не расцвіўшы,
Тых кветак безыменных «іншых»?!.

Зямля, на свет іх нарадзіўшы,
Не мае часу адпачнуць.
Усіх, усіх хацеў бы «іншых»
Да сэрца цёпла прыгарнуць.

Музыка

# РАМАНТЫЗМ НА ПАМЕЖЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

***21 кастрычніка ў Камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі /касцёл св. Роха/ адбудзецца канцэрт, на які варта звярнуць увагу. У працяг вядомага цыкла «Анталогія беларускай вакальнай музыкі» падрыхтавана праграма «Беларускі музычны рамантызм». З уступным словам выступіць знаны навуковец, кандыдат філалагічных навук У. Мархель. А выканаўцы праграмы — спявак В. Скорабагатаў ды канцэртмайстар Г. Каржанеўская па нашай просьбе дзеляцца сваімі меркаваннямі з чытачамі «ЛіМа» ў нататках з нагоды будучага канцэрта.***

Рыхтуючы праграму «Беларускі музычны рамантызм», мы вызначылі тры асноўныя пункты: творчасць М. Кл. Агінскага, С. Манюшкі ды К. Галкоўскага. Аднак перш чым распавесці пра гэта больш падрабязна, неабходна зрабіць невялікі гістарычны экскурс у XVIII ст.

Музыка ў той час выйшла на першы план сярод мастацтваў і ў лічаныя дзесяцігоддзі заняла пануючае становішча ў палацах ды замках беларускай магнатэрыі. Школы рыхтавалі артыстаў для тэатраў, музыкаў для аркестраў прыдворных капэл. Еўрапейскай значнасці асяродкі культуры, такія, як Нясвіж, Слонім, Шклоў, Гародня ды іншыя, уражвалі сучаснікаў і рэпертуарам, і выканальніцкім майстэрствам, прываблівалі туды на працу музычныя знакамітасці.

Працавалі тут і кампазітары — як мясцовыя, так і прыезджыя; пісалі яны практычна ва ўсіх музычных жанрах. Згадайма Вардоцкага, Голанда /оперны жанр/, Ванжуру /балет/, Шымкевіча /культавая музыка/. Мацей Радзівіл — аўтар оперных лібрэта, сімфанічных партытур; гетман М. Каз. Агінскі стварыў у Слоніме вакальны цыкл «Да Касі» на 28 гадоў раней за славуты Бетховенаў «Да няблізкай каханай».

Многае з названага ўжо знаёмае слухачам паводле канцэртаў фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы» ды філарманічнага цыкла «Анталогія беларускай вакальнай музыкі». Многае яшчэ трэба спазнаць — гісторыя неахвотна раскрывае свае таямніцы. Аднак ужо цяпер зразумела: нам ёсць чым ганарыцца. А пачатак XIX ст., здаецца, абяцаў новы якасны віток развіцця айчыннага мастацтва, але...

Тры «асвечаныя» манархі дзеляць паміж сабой Рэч Паспалітую /дарэчы, на латыні гэтая назва выглядае так: Res Publica/.

Пакіньма аналіз палітычнага бандытызму для іншых размоў і глянем, як гэты «гуманны» акт адбіўся на развіцці музычнага мастацтва Беларусі першай чвэрці XIX ст. Капэлы перасталі існаваць, школы зачыніліся, шклоўскую трупу перадалі ў распараджэнне Марыінскага тэатра ў Санкт-Пецярбург, гарадзенскую ды слонімскую — у Варшаву. На некалькі дзесяцігоддзяў супынілася музычнае жыццё. Катастрофа — вось так уваходзіла Беларусь у новае стагоддзе, а яе мастацтва — у рамантызм. Ды ўсё ж...

У 1802 г. вяртаецца з эміграцыі, уладкоўваецца ў залескім маёнтку Міхал Клеафас Агінскі. Не, яму не ўдалося адрадзіць былую веліч слонімскай капэлы свайго родзіча, але ўзнавіць у маёнтку вартае Агінскіх музычнае асяроддзе, своеасаблівы аскепак мінулага, — не дзякуючы, а насуперак акалічнасцям — Міхал Андрэевіч змог.

Ці даўно са зброяй у руках змагаўся ён за вызваленне сваёй радзімы — і вось зноўку ўключыўся ў барацьбу, так бы мовіць, на эстэтычным узроўні. Дапамагалі яму сябры, што працяглы час жылі ў маёнтку: італьянскі спявак Паліяні, іспанскі скрыпач Эскудэра; досыць пастарэлы, ды па-ранейшаму любімы настаўнік, кампазітар і віяланчэліст Казлоўскі.

Музычная атмасфера Залесся — ледзьве не адзіная высока-прафесійная, еўрапейская па сутнасці, у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. на тэрыторыі Беларусі. /Паасобныя факты культурнага жыцця ў іншых яе мясцінах не мяняюць сутнасці справы/. У Залессі ж гучыць і цудоўная музыка ў выдатным выкананні. Агінскі піша кнігу, тэма якой — музычнае жыццё Еўропы. І стварае, стварае, стварае...

Сам факт з'яўлення з-пад ягонага пяра фартэпіянных і вакальных твораў выклікае глыбокую павагу, але, на шчасце, неаспрэчная і іх мастацкая каштоўнасць. У дні сваёй маладосці Агінскі-дыпламат не раз бываў у еўрапейскіх музычных сталіцах, у Вене слухаў Гайдна, Моцарта, таму не мог не быць знаёмы з найноўшымі тэндэнцыямі ў музычным мастацтве. Верагодна, ён, быццам бы жадаючы захаваць старыя традыцыі, піша ў класічнай манеры /мо ў гэтым выяўлялася і жаданне жыць як быццам бы ў мінулым, лепшым для кампазітара свеце і часе/, але ж творчая натура мкне наперад. Невыпадкова менавіта М. Кл. Агінскага музычны свет назваў прадцечай Шапэна — найвялікага рамантыка.

Вось чаму праграма «Беларускі музычны рамантызм» адкрыецца творамі М. Кл. Агінскага — кампазітара вялікай грамадзянскай і творчай мужнасці.

Сярод ваяроў, што змагаліся з імператарскім войскам, былі й музыканты. Але «ваенны геній» — А. Сувораў быў як заўжды непераможны. Хтосьці з непакорлівых загінуў на полі бою. хтосьці памёр, хтосьці вымушаны быў эміграваць, а хтосьці й змірыўся з лёсам, прысягнуўшы на вернасць іншаму ўладару. Паўстанне 1830 г., гэтак жа жорстка падаўленае, як і папярэдняе, зноў раскідала па свеце ўжо новае пакаленне мастацкай інтэлігенцыі. Многія выявілі музычны талент і патрыятызм далёка за межамі сваёй радзімы. З іх ліку — Напалеон Орда і Антон Абрамовіч.

У Парыжы, дзе жыў у гады эміграцыі Н. Орда, ён удасканаліў сваё фартэпіяннае майстэрства пад кіраўніцтвам Шапэна, сябраваў з Лістам, не без іхняга ўплыву зрабіўся кампазітарам і музычным тэарэтыкам. Нават быў запрошаны дырэктараваць у Парыжскую італьянскую оперную трупу. У тыя ж 30—50-я гады ў Санкт-Пецярбурзе жыў А. Абрамовіч, які ў сваіх творах скарыстоўваў беларускі тэматызм і да таго ж адным з першых /пасля многіх стагоддзяў забыцця беларускай мовы ў прафесійным музычным мастацтве/ пачаў пісаць рамансы й песні на беларускія тэксты.

На радзіме гэтых кампазітараў сітуацыя нібыта і не мяняецца: зачынены Віленскі універсітэт — калыска філаматаў універсітэт, у якім больш як 20 гадоў прафесараваў, ажно да скону, Я. Д. Голанд.

Ды, як бывала не раз, — як толькі пахіснуўся царскі трон /паражэнне ў Крымскай вайне/, так і акрыяла як бы заснулае духоўнае жыццё на Беларусі. Уладзімір Мархель, вядомы даследчык беларускай літаратуры XIX ст., якому і належыць гэтае назіранне, бліскуча ілюструе яго, спасылаючыся на працэс літаратурны. Цалкам прыдатна гэтае назіранне і да працэсу музычнага. Зніклі з карты Беларусі былыя культурныя асяродкі, але з'яўляюцца новыя. Да іх найпершым чынам трэба аднесці Мінск; аднаўляе сваё культурнае лідэрства Вільня.

Неацэнную ролю ў гэты час адыграла дзейнасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Вікенцій Іванавіч выдае свае беларускамоўныя творы, перакладае на беларускую «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, стварае па-беларуску п'есы. Але не меншая заслуга паэта ў арганізацыі музычна-тэатральнага асяроддзя ў Мінску, дзе, не без ягонага дзейнага ўдзелу, выхоўваецца цэлая плеяда кампазітараў новага пакалення, і сярод іх — Станіслаў Манюшка.

Дунін-Марцінкевіч прыцягвае таленавітага юнака да стварэння опер і музычных камедый, уводзіць яго ў атмасферу жыцця мастацкай інтэлігенцыі беларускай арыентацыі. Талент маладога кампазітара развіваецца імкліва. Прыкметы рамантызму еўрапейскага кшталту ў ягонай творчасці відавочныя: формы, жанры, апора на народны мелас і г. д. /Улічым і адукацыю — Берлінская музычная акадэмія/. У ягонай асобе мы ўжо маем не проста добрага кампазітара: праз творчасць С. Манюшкі Беларусь вяртаецца на культурную карту Еўропы.

Таму, нягледзячы на тое, што папярэдняя праграма «Анталогіі» была цалкам прысвечана ягонай творчасці, мы не можам абмінуць творы С. Манюшкі й цяпер. Больш таго, гэта ёсць другі з асноўных пунктаў нашай цяперашняй праграмы.

Лагічнае пытанне: чаму кампазітары таго пакалення не пісалі на беларускія тэксты? Адзін з адказаў ляжыць на паверхні: ды таму, што прыдатных тэкстаў было надта мала /прынамсі, для такога плоднага кампазітара, як С. Манюшка/. Але, верагодна, была больш глыбокая прычына — ідэалагічная. Процідзеянне русіфікатарскай палітыцы царызму, асабліва на побытавым узроўні, выяўлялася ў адкрыта «польскай» — насуперак «рускай» — культурнай фрондзе. За стагоддзі уніі Польшча не дамаглася таго ўзроўню паланізацыі Беларусі, якога «дасягнула» Расія за некалькі дзесяцігоддзяў. Перадавыя дзеячы беларускай культуры, разумеючы недасканаласць сваёй пазіцыі, урэшце зрабілі рашучы крок — крок да роднай, беларускай, мовы. І перш за ўсіх крок гэты зрабілі літаратары.

Ці быў гатовы С. Манюшка да гэтага кроку? Ягоная музыка дае станоўчы адказ. І — хто ведае? — калі б не матэрыяльныя цяжкасці, калі б не жыццёвыя акалічнасці, якія прымусілі яго, ужо з еўрапейскай вядомасцю кампазітара, пераехаць з Беларусі на працу ў Варшаву /гэтым месцам ледзь не стаў... Пецярбург/, як бы выявілася, яго нацыянальная самасвядомасць. Ва ўсякім разе, не адмаўляць жа з прычыны біяграфічных фактаў беларускасць ягонай музыкі, тым больш, што і адзін з пэўных ускосных доказаў ёсць у нас у руках. Маецца на ўвазе не толькі тэматыка ды праблематыка твораў, прыцягальныя для кампазітара, хаця і гэтага ўжо дастаткова. Як вядома, пры перакладзе чужая мова абавязкова ўваходзіць ва ўнутранае перачанне з меладычнай асновай твора. Дык вось, у выпадку з вакальнымі творамі С. Манюшкі ягоная музыка і беларускае слова /хоць і ў перакладзе з польскай/ знаходзяцца ў арганічнай еднасці.

Рубеж XIX і XX стст. У гэты час у музычным мастацтве Беларусі здзяйсняецца, нарэшце, тое, што чакалася стагоддзямі. Новае паражэнне — у вайне з Японіяй — Расійскай імперыі. Рэвалюцыя 1905 г. Гэтыя знешнія абставіны адкрываюць новую, найярчэйшую старонку беларускага адраджэння. У мастацкім жыцці нашага народа гэта старонка эпахальная: вялікія паэты, «Наша Ніва», тэатр Буйніцкага, — вось вехі, што прывялі да паўнакроўнасці беларускага музычнага /позняга ўжо/ рамантызму.

Яркай фігурай гэтага пакалення мастакоў стаў, безумоўна, Канстанцін Галкоўскі — ягонай музыкай і завершыцца наша новая праграма, у якую ўключаны таксама творы Прохарава ды Шнітмана, кампазітараў першых гадоў XX стагоддзя.

**Ганна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

З усмешкай

***Ёсць такая партыя: вака-а-альная!***

*/Гуры БАРЫШАЎ ды Віктар СКОРАБАГАТАЎ у рэдакцыі «ЛіМа» /.*

*Фота Віктара ЖЫЛІНА*



Тэатр

**— Мадэст Мадэставіч! Ці няможна ад пачатку новага сезона вярнуцца ў канец мінулага: прадстаўнікоў беларускага ТЮГа прымаў тэатральны фестываль у Германіі...**

— Вярнуся з радасцю. Штогод немцы ў адным з невялікіх гарадоў ладзяць падобныя фестывалі, — летась мы былі на дзіцячым фестывалі ў Мангайме /адначасова публіцы прадстаўлялі знакаміты Шылераўскі фестываль/; сёлета падзялення на дзіцячыя і недзіцячыя спектаклі не рабілі, і, на мой погляд, фестываль ад гэтага толькі выйграў. Прымаў фестываль Пфорцхайм, — горад зусім невялікі, і перадусім мы былі ўражаныя тым, што цэлы шэраг падобных яму нямецкіх гарадоў маюць свае ўласныя дзіцячыя тэатры. Праўда, працуюць там, па большыні сваёй, энтузіясты, трупы невялікія, зарплата маленькая, але гэта, заўважу прафесійна, не адбіваецца на спектаклях. Тут, праўда, просіцца істотнае ўдакладненне. Дзіцячыя тэатры Германіі, па-мойму, празмерна захапляюцца, як сказалі б у нас, публіцыстыкай, злабадзённасцю, і праз гэта мастацкі бок нямецкіх пастановак збядняецца. Напрыклад, спектакль пра тое, як нехарошыя людзі спалілі дом турэцкай сям'і. Выснова: паліць дамы турэцкіх сем'яў — злачынства. Пытанне з залы: а нямецкіх? А ўсіх астатніх? І ўсе маралі здаліся малацікавымі. А вось Фрайбургскі тэатр паказаў спектакль амаль без слоў, затое з музыкаю. Дзеянне адбывалася пад непаўторную класіку і распавядала пра пошукі сябра адзінокім чалавекам. Ён знаходзіць сябра — сабаку. Сюжэт не пераважае ў спектаклі, — яго можна пераказваць, але ніякага ўяўлення пра падзеі на сцэне ён не дасць, — пра далікатныя змены псіхафізічных станаў, не менш далікатнае правакаванне пэўнай рэакцыі дзіцячай аўдыторыі. Як сябры атрымліваюць задавальненне ад зносінаў, як прыслухоўваюцца адзін да аднаго, як радуюцца й сварацца... Каб была зразумелаю эстэтыка пастаноўкі, спашлюся на сваю гутарку з рэжысёрам гэтага спектакля. Ён расказаў, што яны прагледзелі велізарную колькасць старых фільмаў, і таму іхні чалавечак чымсьці нагадваў Чарлі Чапліна і Карлсана ў адным абліччы, — перадусім шчымлівасцю й шчырасцю сваіх дачыненняў з сабакам. Апошняга іграў акцёр у драным брылі, у кедах, так, што мы разумелі — гэта істота з падваротні, якая за кавалачак печыва здатная на шмат што... З неверагодных драбніц складаецца цуд спектакля, — пабачыць гэтыя драбніцы на свае вочы, ацаніць прафесійна, — вялікая радасць, дайце веры...

АХ, КОЛЬКІ рогату — і якога шчырага! — чулі сцены і столь утульнага тэатра ў Гародні, калі на яго падмостках выконвалася вядомая сцэна з шэкспіраўскай «Дванаццатай ночы», што мае ўмоўную назву «летуценні Мальвольё»! У бліскучым ядвабным камзоле, у кароценькіх штоніках з карункавымі брыжамі, у панчохах, абкручаных каляровымі стужкамі, гэты нягеглы і зласлівы дварэцкі марыць абкруціць сваю гаспадыню і зрабіцца яе мужам — графам. Ён складае ў яе гонар напышлівы мадрыгал і дэкламуе свае кампліменты голасна, рыхтуючыся да запаветнай сустрэчы з той, што зробіць яго, звычайнага дварэцкага, уладаром замка, панам, дасць яму арыстакратычнае імя. Узбіты кокам віхор, лупатыя вочы, губкі ледзь не пажаночы бантікам — і гэты ўрачысты шэпт, які раптам зальецца сярэбранымі званочкамі, потым набудзе фанабэрлівую пыху і заракоча амаль велічна...

Вонкава строгі ахоўнік добрапрыстойнасці, адначасова пурытанін і ханжа, выглянцаваны прыдворны служака і прагавіты юрлівец, Мальвольё апынуўся ў хітрамудрай пастцы. Ягоныя прэтэнцыёзныя маналогі і не на жарт сур'ёзныя пагрозы сурова караць потым, калі ён стане мужам графіні, усіх гэтых удачлівых дамачадцаў, дапякаць і лаяць, выкрываць і караць розных перасмешнікаў, якія цалуюцца па завуголлях і ў хмызняках, п'юць кубкамі віно і багахульствуюць... Жыццялюбы, ой як не па душы гэтаму змрочнаму фанфароністаму кныру!

Спектакль даваўся на сцэне ў халодную зіму сорак шостага года. У Гародні вельмі ашчадна ставіліся да электраэнергіі і нават у гатэлі святло выключалася пасля адзінаццатай гадзіны вечара. У тэатры ж зіхацела вясёлка шчодрага святла і было цяплей ад вясёлага смеху. Артыст Дзмітрый Арлоў сваім Мальвольё прымушаў усміхацца нават самага зацятага скептыка. Штосьці карнавальнае панавала на сцэне, калі гэты напышлівы ёлупень вылузваўся са скуры, строіў грымасы і вымаўляў праграмныя прамовы, а ў гэты час яны, тыя жыццялюбы, тыя вясёлыя дамачадцы, падглядалі і падслухоўвалі, сачылі за небаракам-прэтэндэнтам на панаванне. Сэр Тобі і Марыя разам з Эг'ючакам аж заходзяцца ад ягоных нахабных планаў і намераў. І вось гэты іхні стрыманы смех як быццам і агучвала рогатам узрушаная камедыйным карнавалам глядзельная зала.

Спектакль доўгі час трымаўся ў рэпертуары тагачаснага Рускага тэатра Беларусі. У ім сапраўдным артыстычным бляскам вылучаліся Г. Абуховіч і А. Кістаў, А. Шкапскі і Т. Яўцеева, Б. Вішкароў і К. Пельцар, аднак здавалася, што пастаўлены ён рэжысёрам С. Уладычанскім дзеля бенефіснага выступлення... Дзмітрыя Арлова.

Дарэчы, тады ў кіно і на маскоўскай сцэне меў папулярнасць акцёр, які зваўся таксама «Дзм. Арлоў». Дык калі хтосьці з тэатралаў пытаў, якога вы маеце на ўвазе Арлова, а вы вялі аповяд пра нашага, пра мінскага, вам

# «ХОЦЬ І ПРЫ ПАДМУРКУ, АЛЕ...»

***Два сезоны Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача працуе на пастаянных аншлагах. Даследаваць гэты свайго роду феномен не выпадае з аднае простае прычыны: у тэатральных людзей ёсць свае сакрэты, якія, мабыць, неабавязкова ведаць усім. Але з імем Мадэста АБРАМАВА, мастацкага кіраўніка ТЮГа, поспех ды папулярнасць тэатра звязваецца напрасткі. Два гады таму ў інтэрв'ю «ЛіМу» Мадэст Мадэставіч спакойна распавёў пра тое, што сярадавікам ягонай мастацкай праграмы мусіць стацца адчуванне... руху: «Кожны дзень — крок наперад. Маленькі, але наперад».***

***На пачатку новага сезона ТЮГ ладзіў прэс-канферэнцыю, якую амаль праігнаравалі нашы сур'ёзныя і несур'ёзныя выданні. Знайшліся, аднак, тры хітрэйшыя кабеты, якіх моцна ўзрадавала адсутнасць канкурэнтнага тлуму. Сярод іх, натуральна, апынулася і прадстаўніца «ЛіМа»...***

**— А якія агульныя ўражанні ад фестывалю? Як бы вы ацанілі або вызначылі ягоныя задачы, намаганні?**

— Па-мойму, немцы распавядалі сабе й свету пра дзівосную, дзіўную адзіноту чалавека. Ад самых дзіцячых гадоў!.. Сацыяльнасць, публіцыстычнасць у заганных праявах на сцэне не каштуе ні шэлегу!

**— А калі ў падобных фестывалях на нямецкай зямлі мусяць браць удзел не асобныя прадстаўнікі беларускага ТЮГа, а ягоныя спектаклі?**

— Па-першае, мы падпісалі дамову пра дружбу і ўсё, што з яе атрымліваецца, з мангаймскім тэатрам, — яшчэ тады, калі яны з'явіліся на Беларусі са сваім спектаклем «Канферэнцыя птушак». Наступны пункт дамовы — каб яны ставілі ў нас, а наша пастановачная група ставіла ў Мангайме. Усё, як вы разумееце, упіраецца ў грошы. Але /і тут добрым словам трэба памянуць Міністэрства культуры Беларусі/ грошы знайшліся.

**— А ці можна колькі слоў сказаць пра спектакль, які нямецкая пастановачная група будзе ўвасабляць на сцэне ТЮГа?**

— «Пра гэта не кажуць»...

— ?

— Назва ў спектакля такая. Гэта тое, чаго ў нас, на жаль, няма, і да чаго вельмі цяжка падступіцца ў нашых сённяшніх умовах. Спектакль, дзе асветніцкі, нават адукацыйны падтэкст падтрыманы цудоўнымі выяўленчымі сродкамі і добрай драматургіяй. Гэта — размова пра тое, што такое мужчына і жанчына. Што такое палавыя дачыненні, як з'яўляецца дзіця... У лёгкай, дасціпнай форме, не гульнёю, не забаваю, але з іроніяй ды гумарам адбываецца тое, чаму ў нашых незалежных краінах да гэтага часу рады не дадуць, — выхаванне будучых бацькоў, а перадусім людзей, якія здолеюць і ацаніць, і адказаць на самыя далікатныя пачуцці. Цяпер мы займаемся перакладам з нямецкай на беларускую...



**— Не стану па-дзяжурнаму пытацца пра стан мовы на падмостках тэатра, паспрабую адштурхнуцца ад... залы: ці адчуваеце вы нейкую незадаволенасць, натапыранасць, настуненасць залы на беларускіх спектаклях? Ці пацвярджаецца даўні тэзіс выхавацеляў пра тое, што дзеці не разумеюць, а самае галоўнае, і разумець не хочуць? Якім чынам адбілася на вашай глядацкай аўдыторыі вяртанне беларускай мовы ў школу?**

— Ну таму, што дзеці не хочуць слухаць ды глядзець, трэба шукаць іншыя, не моўныя падставы. А што да канкрэтнае мовы дык, па маіх назіраннях, «не хочуць» яе якраз тыя, хто мусіць суправаджаць дзяцей у тэатр. Што да ўтварэння моўнага асяродка, дык ёсць задума /яна ўжо ажыццяўляецца/ запрашаць на спектаклі і старшакласнікаў спецыялізаваных школ, і студэнтаў — з тых вышэйшых навучальных установ, якія шчыльна звязаны з беларускамоўным навучаннем.

**— Ці не таму вы адчулі сябе падрыхтаванымі да абвяшчэння сёлетняга сезона сезонам беларускай п'есы?**

— Да гэтага сезона мы рыхтаваліся два гады. Пачалі з адкрыцця тэатра-ліцэя /«Прымакамі» Янкі Купалы/, сёлета выйдзе «Абарваная песня» паводле «Мікітавага лапця» Міхася Чарота. А неўзабаве адбудзецца прэм'ера «Старадаўняе казкі» Юрыя Куліка /ён сам і драматург, і рэжысёр/ і «Песні пра зубра» Аляксея Дударава паводле Міколы Гусоўскага. Я асабіста вельмі ўдзячны драматургу Дудараву, які менавіта дзіцячаму тэатру прапанаваў сваю п'есу, разам з намі разумеючы, што калі гледача не будзе ў ТЮГу, не будзе і ў іншых тэатрах. А брак драматургіі для людзей чатырнаццаці-шаснаццацігадовага ўзросту адчувальны. Між тым легкадумнае стаўленне да жыцця закладаецца і пачынае выяўляцца менавіта ў гэтыя гады. Што ўжо тут казаць пра мастацтва...

**— Ці правільным будзе сказаць, што апошнім часам ТЮГ, як можа, пераадольвае легкадумнае стаўленне да сябе?**

— Што ж. Часам нам вельмі не стае ацэнкі — з боку прэсы, крытыкі, тэлебачання... Мы б вельмі хацелі, каб на нас глядзелі, параўноўваючы. Апошняя з ідэй, што знайшла падтрымку ў трупе — правядзенне фестывалю дзіцячых спектакляў на базе ТЮГа. Не міжнароднага, не эсэндэшнага. Проста беларускага. Хай бы ўсе «дарослыя» тэатры паказалі па адным спектаклі, які ставілі для дзяцей...

**— На развітанне мне б хацелася пачуць з вуснаў сучаснага рэжысёра, воляю лёсу і ўласнымі спадзяваннямі пяднанага з дзіцячым тэатрам: што такое дзіцячы тэатр у вашым уяўленні? Асаблівы асяродак? Спосаб існавання для пэўных артыстаў? Гранічная наіўнасць або закаханасць у кожную добрую праяву?**

— Я вам зараз скажу рэч кашчунную, але зразумейце мяне правільна: сёння дзіцячага тэатра на Беларусі яшчэ няма. На жаль. Мая звышзадача — аншлагі ў «дарослых» тэатрах, — повязь аднаго з другім прасачыць няцяжка. «Дарослы» тэатр пакуль што можа пахваліцца імі толькі зрэдчас... А да дзіцячага тэатра нам яшчэ ісці ды ісці, гадавацца ды расці... У Германіі я думаў, што глядач арганізуецца ў тэатр сам. Нічога падобнага. Як кожная футбольная каманда мае клуб сваіх прыхільнікаў, так пры кожным тэатры існуюць клубы тэатралаў. І займаюцца гэтымі тэатраламі з маленства... Нават цаною білетаў падаахвочваюць. І тое, што амаль у кожным, самым маленькім гарадку ёсць свой дзіцячы тэатр, абсалютна мяняе справу! Але зараз мы загаворым пра ўмовы жыцця, параўнаем і...

**— ...настрой перад сезонам беларускай п'есы будзе сапсаваны?**

— І ўсё-такі давайце думаць, што мы — хоць і пры падмурку, але — вялікага будынка, як прынята казаць, інстытута, — дзіцячага тэатра Беларусі.

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

# РУЖОВАЕ СВАВОЛЬСТВА Ў ЖОРСТКІ ЧАС

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ДЗМІТРЫЯ АРЛОВА

даводзілася спасылацца на незабыўную для масквічоў работу Дзмітрыя Аляксеевіча Арлова ў ролі зухаватага салдата Швейка, ці на Косцю-капітана ў ахлопкаўскіх «Арыстакратах» або Бальзамінава ў камедыі А. Астроўскага. Адораны вялікім артыстычным талентам, патрабавальны да сябе, маючы далікатны густ мастака, ён прайшоў яшчэ дадатковы тэатральны універсітэт у творчай супольнасці з Л. Леанідавым, А. Дзікім, А. Паповым, М. Ахлопкавым, А. Лабанавым. Ды сваім родным тэатральным Домам адчуваў Беларусь, Мінск, і калі зусім дакладна, два будынкі — на вуліцы Валадарскага /Рускі т-р/ і на галоўным праспекце /інстытут/. Тут ён раскрываўся ва ўсёй глыбіні і мудрай удумлівасці свайго незвычайнага дару, пра які мы справядліва кажам — Божы дар, дар ад Бога.

Але, дар той завецца так, бо чалавек мае здольнасць і духоўнае прызванне паўставаць перад людзьмі відачынцам. Пераўвасабленне ў новыя і новыя аблічча, вобразы, постаці, фігуры і тыпы — галоўны занятак артыста. І сярод такіх пераўвасабленняў Дзм. Арлова ці не ярчэйшым і прынцыпова важным быў якраз Мальвольё. Смеючыся з яго, мы, гледачы, адчувалі, што нас саміх нешта прымушае прыслухоўвацца да ўласнага ўнутранага голасу. Трывожнага. Шчымлівага. Гэты зносак у гарнітуры дварэцкага надта выразна выяўляў, на што нас, бывае, штурхае і куды заводзіць празмерна высокае ўяўленне пра сваю асобу, пра свае магчымасці. Што з чалавекам могуць зрабіць славалюбныя мроі і юрлівыя летуценні, калі ён губляе адчуванне меры, — вось лёс Мальвольё, якім яго выводзіў пад промні рампы Дзм. Арлоў.

Гэта была вельмі своечасовая маральная перасцярога нам, сучаснікам. Бо пасля вайны ў надта многіх з тых, хто са зброяй у руках мог уварвацца ў чужы дом і рабіць, што яго душы хочацца, мог камандаваць падначаленымі аж да права аддаваць пад суд трыбунала, а ў некаторых сітуацыях і сам расстрэльваць «на месцы», мог адбіраць дзеля інтарэсаў барацьбы з ворагам у мірных жыхароў іхнія кватэры, вопратку, ежу, — так-так, у нашых людзей назіралася блытаніна паміж тым, што трэба і карысна табе рабіць, і тым, чаго б табе хацелася. Кар'ерызм і хабарніцтва, юрлівыя прыгоды і моцная ўпадоба «ліхадзейкі з наклейкай» нярэдка і вялі таго або іншага з нас, у тым ліку і па службовай лесвіцы на высокі верх, а кагосьці даводзілі і да поўнага падзення. Яшчэ ў старажытнасці мудрацы папярэджвалі: кожны, хто ўпарціцца ў сваіх прывідных уяўленнях, асуджаны шкадаваць аб гэтым. Але — са спазненнем...

Сапраўды, мабыць, у прыродзе чалавека ёсць матывы, паводле якіх ён бывае захоплены ўяўна высокай, падманна спакуслівай думкай аб самім сабе і нават нафантазіруе сабе «ролю» — ці то ў сямейным коле, ці то на грамадскай арэне, ці то ў прафесійных інтарэсах. І тая ўяўная «роля» зачароўвае, як здань, яго да самазабыцця.

Здрадніцкі самападман!

Камедыйна высмейваў гэтую схільнасць чалавека, гэтую вераломную нашу слабасць Дзм. Арлоў. Ярчэй за ўсё — у абліччы Мальвольё.

Толькі Мальвольё? О, не-не! Я сказаў бы, што ў большай або меншай меры гэты матыў гучаў у тых ролях, якія ён выконваў, амаль заўжды.

Вядома, я сцвярджаю так на падставе асабістых уражанняў. Магу спрачацца з тым, хто са мной не пагаджаецца, спасылаючыся на самыя розныя і нават процілеглыя персанажы. Цар Фёдар і гітлераўскі гаўляйтэр фон Каўніц /спектакль «Цар Фёдар» і фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы»/, Вайніцкі і доктар Чабутыкін /чэхаўскія «Дзядзька Ваня» і «Тры сястры»/, капітан Бярсенеў і журналіст Боб Мэрфі /«Разлом» Б. Лаўранева і «Рускае пытанне» К. Сіманава/, заняпалы дваранін Цяляцеў і доктар Чайка /«Шалёныя грошы» А. Астроўскага і «Песня нашых сэрцаў» В. Палескага/... Калі прыгадваю свае ўражанні ад памянёных сцэнічных партрэтаў Дзмітрыя Арлова, чамусьці перш-наперш усплывае ў маёй свядомасці якраз той накірунак мастакоўскага роздуму пра чалавека, аб якім было сказана вышэй.

Адразу пасля вайны велічная Перамога абудзіла ў многіх нашых грамадзянах /у каго адкрыта, у каго прытоена/ спадзяванні на пэўныя пераўтварэнні ў дзяржаўным ладзе краіны. Той з галавой кідаўся ў вір палітычнай дзейнасці, гэты прысвячаў сябе журналістыцы, а нехта ішоў у фундаментальную навуку — і амаль кожны спадзяваўся, што цяпер, калі самы страшны вораг чалавецтва разгромлены і над Берлінам зачырванеў сцяг нашай перамогі, мы пачнем жыць і працаваць па нейкіх вышэйшых маральных і этычных прынцыпах. Мары...



ілюзія... летуценне... Гэта зусім не было чужым для духоўнага самаадчування сучасніка. І як мастак, як артыст і рэжысёр /пазней — і як педагог-выхавацель маладых артыстаў/ сам Дзмітрый Арлоў падкрэсліваў, што яго вабіць у мастацтве тэма мары, тэма спадзявання на лепшае ў свеце і ў самім чалавеку. І нярэдка спектаклі, якія ён сам ставіў і дзе выконваў вядучыя ролі, адпавядалі гэтаму мастакоўскаму маніфесту. Нават у «Крамлёўскіх курантах» унутраным матывам усіх паводзін Леніна ён зрабіў мару...

Грэкі некалі, бадай, справядліва казалі, што багі стварылі чалавека для таго, каб ён быў шчаслівы, пазбавіўшы яго толькі адной якасці, без якой тое шчасце бывае і недасягальным, — пачуцця меры. Таму мы то перабольшваем, бяром залішне высока, то — наадварот — прыніжаем сябе, камплексуем, падладжваемся і прыстасоўваемся да якой-небудзь нікчэмнасці і пачынаем ганяцца за прывідным, за ілюзорным поспехам.

Праўда, лёгка суцешыць сябе тым, што так паводзяць сябе і самыя вялікія, самыя выдатныя з нас. Помніце, калі Цэзар саскочыў з карабля на бераг Афрыкі, ён спатыкнуўся і паваліўся на зямлю, ды адразу ж раскінуў рукі ўшыркі і выгукнуў: «Я захапіў цябе, Афрыка!» Гістарычны кліч атрымаўся, ці не праўда? Дасціпны розум эфектна выкручваецца!.. Як часта і мы, грэшныя, распластваемся без дай рады, а крычым сабе цішком, крадком суцяшаем: захапіў... атрымаў... наступным разам усё будзе добра!..

Усялякая ісціна сухама не надта салодкая!

Я вяду свой расповяд пра пэўную асаблівасць творчага пошуку і сапраўды выдатнага дзеяча рускай сцэны на Беларусі, маючы некаторае права на тое. У шэсцьдзесят трэцім годзе ўлетку я сустрэў Дзмітрыя Аляксеевіча на ялцінскай узбярэжнай. Мора штарміла, і пашыбавалі мы ўтрох /я быў з жонкай/ ва ўтульны падвальчык. Які чароўны быў масандраўскі ружовы мускат, што нам так горача раіў смакаваць наш любімец. І размова ішла зусім шчырая. І пры штармавым надвор'і тады яшчэ кружыла галаву хрушчоўская адліга. І я, як памятаю і цяпер, спытаў Арлова аб тым, пра што раней і падумаць бы забаяўся. Ці выпадкова была такая паслядоўнасць у ягоных ролях: цынічны выпівака Чабутыкін разам з дурнаватым летуценнікам Мальвольё, потым расейскі цар Фёдар, які не мае волі пазбыцца ўласных ілюзій, а там і рабацяга дзядзька Ваня — усе яны пэўным чынам то папярэджвалі, то нават абкружалі ягонага тэатральнага Леніна? Не помню дакладна, як гучала маё пытанне, але яно было — пра гэта. Дзмітрый Аляксеевіч трохі збянтэжыўся. І наліваючы «па другому» ў фужэры ружовую слодыч, кіўнуў маёй жонцы: «Ён заўсёды ў вас такі цікаўны? Мо пасля мускату?» — і павярнуўся да мяне са сваёй хітраватай, са сваёй арлоўскай усмешкай. Спаслаўся на цытату з яго любімага Анатоля Франса. У Мінску я знайшоў яе і ўбачыў, што Дзм. Арлоў не памыліўся і на слоўца. Вось яны, тыя словы, якімі ён мне адказаў на маё пытанне: «Жыццё было б і на самай справе занадта сумным з'явішчам, калі б ружовы рой гарэзлівых думак не прылятаў сяды-тады для суцяшэння старэчай сумленнасці людзей». Гэта — з «Аметыставага пярсцёнка».

— Я спасылаюся на ружовы рой гарэзлівых думак толькі таму, што мы ўсмоктваем з вамі якраз ружовае віно. Празіт!..

Сёння мы ведаем пра нашу гісторыю і пра розныя ідэалагічныя зігзагі і падкопы, пра кар'ерныя ўзыходжанні і шалёныя парывы да славы, да ўлады, да багацця звычайнага абывацеля і прагавітага кар'ерыста многа больш, чым нават у 63-ім годзе. Не ўсе пагаджаюцца з тым, што многія бядоты ў рэчаіснасці залежаць ад тае недасканаласці чалавека, якая ўласціва яму ад прыроды, але гэта бясспрэчна. Нас нехта, мабыць, яшчэ ва ўлонні мацеры пазбаўляе пачуцця меры, — адсюль усе якасці...

**Барыс БУР'ЯН**

*Фота Уладзіміра КРУКА*

Спрэчкі, палеміка

# ГАНДЛЮЮЧЫ ГОНАРАМ — НЕ РАЗБАГАЦЕЕШ...

***У апошні час на старонках г.зв. «жоўтай прэсы» зноў актывізавалася шальмаванне тых, хто паслядоўна выступае за нацыянальны суверэнітэт нашай Бацькаўшчыны, за адзіную дзяржаўную беларускую мову, за адраджэнне нацыянальнай культуры, за вяртанне беларускаму народу гістарычнай спадчыны. «Звышінтэрнацыяналісты» ў хаўрусе з «зубатаўшчынай» яўна патрабуюць аднаўлення былой «чырвонай імперыі» з яе таталітарным рэжымам пад вывескай «інтэрнацыяналізму». Яны са скуры вылузваюцца, каб «даказаць», што беларусам вельмі добра жылося пад «апекай» расейскіх самадзержцаў і бальшавіцкіх «правадыроў», што Беларусі наканавана век быць у саюзе з Расеяй — вядома, ісці ў прыпрэжцы да аглоблі імперскай брычкі...***

На маю думку, на яўнай настальгіі па былой «чырвонай імперыі» заснаваны і артыкул У. Глушакова ў часопісе «Беларуская думка» пад загалоўкам «Каларадскія жучкі» /«БД», N 7, 1993 г./...

Артыкул шматтэмны. Паразважаўшы крыху аб упадку маралі ў нашым грамадстве, аб заганнасці ТБ /нашпігаванасці рэкламнымі ролікамі і зарубежнымі тэлесерыяламі/, У. Глушакоў апантана кідаецца ў пошукі тых «каларадскіх жучкоў», якія, на яго думку, вінаваты ва ўсім хаосе, што зараз назіраецца ў нашым грамадстве, і хутка іх знаходзіць у ... «свавольстве дэмакратаў», і тут жа абураецца на іх: «Усё за два-тры гады ўладарання «дэмакратаў» аплявана, разбурана, атручана». У сваіх пастулатах У. Глушакоў прыкідваецца такім наіўным, такім недасведчаным, якому быццам бы невядома, што дэмакратаў пры ўладзе ў Рэспубліцы Беларусь не чуваць нават і подыху, што ўсе пры ўладзе «дэмакраты» — гэта па-хамелеонаўску перафарбаваныя былыя партакраты і наменклатуршчыкі, якія толькі і мараць, каб зноў хутчэй вярнуцца ў «бальшавіцкі рай»... Але У. Глушакоў настойлівы ў сваіх «пошуках» злавесных «жучкоў» у Беларусі і тут жа дае нам канкрэтны адрас, а менавіта: «Застаецца далучыцца да каманды Пазняка, якая на шматлікіх сходах і ў лістоўках неаднаразова заклікала не падпарадкоўвацца «пракамуністычнаму» ўраду /чым не новы Кастусь Каліноўскі/, і вось вам гатовая сітуацыя, якая ў сваёй перспектыве можа быць набліжана да крывавых канфліктаў у Фергане, Сумгаіце, Таджыкістане, Прыднястроўі і г.д.». Відаць, вінаваты дэфект памяці ў тым, што У. Глушакоў «забыўся» ўспомніць пра падзеі ў Вільні, Рызе... Нельга сказаць, што яўна забуксаваў інтэлект аўтара артыкула /а, можа, кульгае на «левізну»?/, каб зразумець, **якія** сілы стаялі за гэтымі крывавымі падзеямі. Але гэта хай застаецца на сумленні самога У. Глушакова...

Для большай падставовасці сваіх высноў У. Глушакоў спасылаецца на банальную тыраду касманаўта У. Кавалёнка, выпаленую ім пры эмацыянальным узбуджэнні, калі хваравітае ўяўленне перамагае здаровы сэнс. Вось тыя словы, якія ў свой час маланкава бліснулі на старонках перыядычнага друку: «Сёння кроў стыне ў жылах, калі я чую, які пачынаецца дыктат, калі патрабуюць /?!. — **В.С.**/ мысліць і думаць толькі так, як думае БНФ... Таварышы, гэта будзе жудасней, чым было пры КПСС. Гэта будзе сапраўдны фашызм». У гэтай тырадзе не толькі дэзінфармацыя, але і яўны паклёп. Русо называў паклёп самым горшым відам хлусні... Мяркуйце самі: фашызм — гэта генацыд, злачынствы. Як можна абвінавачваць у фашызме тую партыю, рух ці фронт, якія ніколі не знаходзіліся пры ўладзе і не тварылі ніякіх злачынстваў? Грэчаскі філосаф Дэмакрыт гаварыў: «Я аддаю перавагу таму, што можна ўбачыць, пачуць, вывучыць». Злачынствы фашызму і сталінізму ўвачавідкі: яны вывучаны і даказаны навукоўцамі і гісторыкамі і юрыстамі на неабвержаных фактах. А беспадстаўнае, гіпатэтычнае абвінавачванне ў тым, чаго не было — амаральна.

Паведаміўшы чытачам пра сходы і лістоўкі БНФ, У. Глушакоў чамусьці «забыўся» расказаць пра сходкі пад эгідай КПБ-КПСС у хаўрусе з рознымі «Союзами» і «зубатаўцамі» са «Славянского Собора», якія адкрыта ганьбяць нацыянальныя сімвалы РБ, зневажаюць нашу мову, патрабуюць надання дзяржаўнасці мове суседняй дзяржавы, заклікаюць да аднаўлення былога Савецкага Саюза. Але гэта, відаць, не толькі не хвалюе У. Глушакова, але і натхняе яго, аб чым сведчыць прызнанне ў «вечнай любові» да «старэйшай сястры»: «Геапалітычныя інтарэсы Беларусі ў тым, каб быць разам з Расіяй... Гістарычны лёс Расіі — гэта гістарычны лёс Беларусі, гэтак жа як і гістарычны лёс Беларусі — цалкам гістарычны лёс Расіі. Аксіёма». Адзін з французскіх маралістаў XVIII стагоддзя пісаў: «Гандлюючы гонарам, не разбагацееш». Тым больш не разбагацееш, гандлюючы нацыянальным гонарам.

Ніяк не можа згадзіцца У. Глушакоў, што беларусы — гэта самастойны этнас: «Чаго варта толькі адно «глыбокадумнае» выказванне лідэра БНФ, што, маўляў, рускія, беларусы й украінцы належаць да розных культураў і этнічных груп». Дарэчы, гэта не «глыбокадумнае» выказванне З. Пазняка, а рэальны гістарычны факт, які даказаны прагрэсіўнымі гісторыкамі мінулага і сучаснасці на аснове гістарычных летапісаў, іншых гістарычных крыніц. Нават Сталін, якога не абвінаваціш у «беларускім нацыяналізме», гаварыў у свой час, што існуе беларуская нацыя і беларуская мова, якая адрозніваецца ад рускай, і што ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на яго роднай мове...

Яўнае ўхваленне расейскіх самадзержцаў і бальшавіцкіх «вождей», якім «алилуя» спявае У. Глушакоў у сваіх пастулатах накшталт: «Варта ўспомніць мінуўшчыну, калі пасля сусветных разбуральных войнаў Беларусь толькі з дапамогай Расіі кожны раз аднаўляла свае гарады і вёскі, гаспадарку». Бачыце, якія «дабрадзеі»: спачатку разбураюць, потым аднаўляюць! Варта спытаць у У. Глушакова: а ў чыіх інтарэсах вяліся гэтыя войны? Вядома, не ў інтарэсах Беларусі. Аўтар артыкула чамусьці маўчаннем абыходзіць гістарычныя факты. Калі б не было гэтых войнаў у інтарэсах Расійскай імперыі, калі б не гвалтоўнае далучэнне беларускіх этнічных земляў, а часамі іх «дарствования» Язэпам Крывавым нашым суседзям, — сёння Беларусь мела б не такую абкарнаную тэрыторыю і 50—60 мільёнаў насельніцтва...

Дарэчы, тыя разбуральныя войны, якія вяла Расійская імперыя на тэрыторыі Беларусі, не прыносілі багацця і свабоды самому рускаму народу, бо, як пісаў рускі гісторык Ключэўскі, «свабода рускага народа, як даказвала гісторыя, знаходзілася ў адваротна прапарцыянальнай залежнасці ад пашырэння тэрыторыі і ўплыву Расіі».

Хвалебныя дыфірамбы ў адрас расейскіх самадзержцаў-«дабрадзеяў» спатрэбіліся У. Глушакову, відаць, для таго, каб пераканаць недасведчаных у тым, што толькі «парасонік калектыўнай бяспекі» можа выратаваць РБ ад усіх бедаў. І, дадамо ад сябе — цалкам пазбавіць суверэнітэту, матчынай мовы і накіраваць нашу рэспубліку ў рэчышча, якое прывядзе да прыстанішча пад назвай «Северо-Западный край». Пра гэта паклапоцяцца ўжо іншыя «каларадскія жучкі», пра якіх у У. Глушакова няма нават і напамінку. Вось тады і будзе ўсё «аплявана, разбурана, атручана» і цалкам знішчаны той хісткі падмурак нацыянальнай незалежнасці, які ў такіх муках закладваецца сёння. На мой погляд, прарочым гучыць заключны акорд артыкула У. Глушакова: «Шкада, што разумець гэтае мы пачынаем толькі тады, калі падчас бывае ўжо позна». Гэтыя словы павінен добра запамятаваць і сам У. Глушакоў, калі ён шчыры беларус, калі ён сапраўды за нацыянальнае адраджэнне, за суверэнную дэмакратычную прававую дзяржаву, «дзе больш не будзе ўжо згрызот і знікнуць непрыязні словы» /Якуб Колас/.

**Васіль СОКАЛ**

Віншуем!

# Міхаілу ШУМАВУ — 70



Міхаіл Шумаў належыць да пакалення, якое ў юнацтве заспела вайну. У 1940 годзе ён паступіў на літаратурны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, ды вучыцца давялося нядоўга. У першыя дні вайны ў складзе камсамольскага знішчальнага батальёна Міхаіл Іосіфавіч прымаў удзел у абароне Магілёва. А пасля пачаліся франтавыя дарогі — баі на Паўднёва-Заходнім і Заходнім франтах. У 1943 годзе быў цяжка паранены, дэмабілізаваны. Апынуўся ў далёкім Самаркандзе, дзе працаваў на заводзе «Кінап».

Вучобу давялося працягваць пасля перамогі. Адначасова працаваў мантажнікам на Мінскім радыёзаводзе, завучам Магілёўскага абласнога Дома піянераў, выкладчыкам культасветвучылішча, а пасля настаўнікам у сярэдніх школах Магілёва.

Літаратурную працу М. Шумаў пачаў у 1959 годзе. Выдаў аповесці «Жизнь зовет» /1962/, «Печеные яблоки» /1963/. Найбольшую вядомасць пісьменніку прынесла трылогія, у якой праўдзіва і псіхалагічна заглыблена аўтар паказаў жыццё свайго пакалення. Адна за адной з'яўляліся аповесці «Придет и твое время» /1980/, «Хроника улицы Грушевой» /1982/, «Вечный шах» /1986/. У апошнім творы героі, колішнія народныя апалчэнцы, падпольшчыкі і партызаны, паказаны ўжо сталымі людзьмі, кожны з якіх выбраў у жыцці сваю дарогу.

Увогуле М. Шумава пастаянна хвалюе і тэма сучаснасці. Пацвярджэнне таму і адзін з новых твораў пісьменніка «Девять дней в неделю». У гэтай аповесці расказваецца пра падлеткаў, што праходзяць выхаванне ў спецшколе.

Акрамя гэтага, М. Шумаў зрабіў некалькі апрацовак мемуараў колішніх удзельнікаў барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Віншуем Міхаіла Іосіфавіча з юбілеем, зычым яму і надалей заставацца ў актыўным творчым страі!

# Генадзю ДЗМІТРЫЕВУ — 50



Сапраўдная паэзія заўсёды пачынаецца, як вядома, з паяднанасці аўтара з вытокамі, лучнасці з бацькоўскай зямлёй, прыродай.

Гэта можна з поўным правам сказаць пра паэзію Генадзя Дзмітрыева. Зрэшты, і сам паэт, не ў прыклад іншым, не спяшаўся на гарадскі асфальт.

Пасля заканчэння сярэдняй школы /нарадзіўся 18 кастрычніка 1943 года/ Г. Дзмітрыеў загадваў клубам рабочай моладзі, працаваў рабочым на будоўлі. Беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта заканчваў завочна. Пасля службы ў арміі /1964—1967/ настаўнічаў у Варачанскай сярэдняй школе Карэліцкага раёна. Не адзін год аддаў педагагічнай працы і толькі некалькі гадоў назад пераехаў у Мінск, пачаў працаваць дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Правінцыя, канечне, нямала дае для духоўнага ўзвышэння, але ж тут ёсць і зваротны бок медаля. Перыферыйнаму аўтару, зразумела, цяжэй прабіцца ў друк. Таму і сталася так, што Г. Дзмітрыеў, які дэбютаваў яшчэ ў 1962 годзе, свой першы паэтычны зборнік «Гарады на далонях» выдаў толькі ў 1974 годзе. Другая ж кніга «Азярыны» выйшла ў 1980. Напісаў Г. Дзмітрыеў і зборнік для дзяцей «Птушка Сінезорка» /1976/. Аднайменная паэма-казка расказвае пра прыгоды хлопчыка, які адправіўся на пошук птушкі, што прыносіць людзям шчасце. Роздумам пра жыццё напоўнены гэты твор. Урэшце, як і ўся паэзія Г. Дзмітрыева — паэта па прызванні, паэта светлага таленту.

З днём нараджэння, Генадзь Рыгоравіч! Няхай доўжацца вашы жыццёвыя і творчыя вёсны!

# ПРАГА АНТЫКАМУНІЗМУ

*(Пачатак на стар. 5)*

ныя захаваць долю здаровага розуму і волю да супраціўлення духоўнаму тэрору, — то наш народ яшчэ мае шанц на выратаванне, шанц на вызваленне і годнае жыццё.

Ды прага антыкамунізму пакуль больш жаданая, чым наша здзейсненая рэчаіснасць. Нават аб раўнавазе камуністычна-таталітарнага і свабодна-дэмакратычнага ўплыву ў грамадстве пакуль казаць рана. Савецкія забабоны і бальшавіцкія прывіды яшчэ пануюць на беларускіх абшарах. Але гэта больш інерцыя, чым свядомае існаванне, сапраўдны ж выбар адбываецца паміж беларуска-дэмакратычным і праімперска-расейскім напрамкам развіцця. Трэці — «сярэдні», ці кампрадорскі шлях — толькі з першага погляду можа падацца самастойным, на самай справе непазбежна прывядзе ў тыя ж абдымкі расейскай дзяржаўнасці, «ласкі» якой добра вядомы.

Правільнасць самастойнага шляху пацвярджаецца і тым, што менавіта нацыянальныя лідэры ўзялі на сябе асноўны цяжар антыкамуністычнай барацьбы на Беларусі, што сведчыць аб іх асэнсаванай і выпакутаванай прыхільнасці да дэмакратычнага развіцця.

Аднак антыкамунізм у класічным, прынамсі, амерыканскім выглядзе ў нас не мае вялікіх перспектыў і з'яўляецца хутчэй неабходнай процівагай расейска-бальшавіцкай традыцыі. Патрэба ў ім зменшыцца пры знікненні пагрозы апошняй. Беларуская ментальнасць, наш гістарычны вопыт вымагае іншых духоўных і сацыяльных ідэалаў. Яны будуць адрознівацца і ад амерыканскіх, і ад японскіх, бо генетычна маюць еўрапейска-славянскае паходжанне. Наша бяда /ці мо шчасце?/ у тым, што Беларусь знаходзіцца на мяжы азіяцка-аўтакратычнай і еўрапейска-дэмакратычнай геадухоўных платформаў. З каторай з іх яна кранецца ў будучыню ці, адкалоўшыся, створыць сваю, самастойную, адказаць цяжка. А цяжка найперш таму, што мяжа гэта праходзіць не толькі геаграфічна, але і больш інтымна — праз нашыя душы, праз свядомасць амаль кожнага беларуса. Гэтая духоўная расколінэ ды няпэўнасць выбару ёсць наш лёс і наканаванае ім выпрабаванне, якое, аднак, у вялікай ступені робіць нас непадобнымі ні на кога іншага, ствараючы ліцвіна-беларускі феномен. Да сённяшняга часу мы не пераадолелі сваёй гістарычнай «падвоенасці», хаця, магчыма, зараз наблізіліся як ніколі блізка калі не да перамогі, то да ўсведамлення свайго нацыянальнага эгацэнтрызму.

І ўсё ж вельмі нялёгка вырачыся часткі сваёй душы, выкрасліць з яе мінулае, хай часам цёмнае і горкае, але перажыта-блізкае і настальгічнае. Многія людзі, і не толькі старэйшага ўзросту, не здольны на такія ахвяры, тым больш калі не бачаць перад сабою акрэсленай мэты і шляху да яе. Ім, прывыкшым да казённага парадку і абсалютнай яснасці, сучаснае жыццё здаецца бясконцым падзеннем у бездань хаосу. Калі атэісты ўспамінаюць Апакаліпсіс, а камуністы шукаюць парад у Настрадамуса і астролагаў, то, відаць, нешта ў свеце моцна зрушылася і не дзіва разгубіцца тут простаму чалавеку. Аднак ва ўсе часы, у любым хаосе гісторыі ёсць кропка, з якой трэба пачынаць, імкненне да якой выратуе ад распаду і смерці. Крыніца выратавання ёсць Бацькаўшчына і яе людзі. Розум і дух народа адлітыя ў ідэі нацыі — гэта тая вось, вакол якой круціцца кола гісторыі. Этнас — дзяржава — нацыя — вось вертыкальны стрыжань цывілізацыі, на якім трымаюцца класы, праслойкі, саслоўі ды іншыя пласты грамадства. Ёсць дзяржава і нацыя — ёсць гісторыя і развіццё. Таму для Беларусі выбар паміж нацыянальнай свабодаю і несвабодаю — гэта выбар паміж жыццём і смерцю. Не заўжды ў фізічным, але заўсёды ў духоўным і ментальным сэнсе.

Такім чынам, пытанне сёння стаіць так: поўная духоўная смерць і асіміляцыя ці самастойнае развіццё і натуральная рэалізацыя нацыянальнага патэнцыялу. Аб тым, што патэнцыял гэты немалы, сведчыць і наша слаўная гісторыя, і сучасныя памкненні адраджэнскага руху, і набліжэнне да іх разумення простых людзей. Ва ўмовах польска-расейскага рэлігійнага, духоўнага і палітычнага прэсінгу і шчодрага культурна-інфармацыйнага англа-амерыканскага дажджу беларускія сучасныя, мінулыя і будучыя здабыткі — адзіны арыенцір і кірунак жыццесцвярджальнай дзейнасці. А творчы і самаадданы ўдзел у гэтай вялікай працы і ёсць выратаванне ад усіх сённяшніх бед і нягод. Не ведаю, ці пабачым мы на ўласныя вочы вынікі гэтай працы, але упэўнены, што яна найлепшы шлях да трывалага, вольнага і дэмакратычнага ўсталявання на Беларусі.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

ЛіМ - часапіс

МУЗЫКА

# НА МІЖНАРОДНЫМ УЗРОЎНІ

З 4 па 6 кастрычніка ў Беларускай акадэміі музыкі праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Музычная адукацыя і нацыянальна-культурнае адраджэнне». Яе арганізатары мелі на мэце асэнсаванне шляхоў далейшага развіцця музычнай адукацыі на Беларусі, абмеркаванне зместу і напрамкаў рэформы ўсёй сістэмы прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне музычнага мастацтва, рэалізацыю дзяржаўнай праграмы адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны. На першым пленарным пасяджэнні, якое адкрыў рэктар АМ М. Казінец, з грунтоўным дакладам па праблемах рэформы і развіцця музычнай адукацыі на Беларусі выступіў прафесар акадэміі В. Яканюк. Пра пэўныя аспекты сацыяльнай псіхалогіі ў дачыненні да праблем педагогікі разважаў у сваім выступленні прафесар Нацыянальнага інстытута адукацыі Я. Каламінскі. Цікавымі поглядамі на музычную адукацыю ў традыцыях рэлігійнага выхавання падзяліўся наш госць — прафесар Маскоўскай кансерваторыі В. Медушэўскі. «Нацыянальнай аснове» беларускага музычнага выхавання прысвячалася паведамленне мастацтвазнаўцы Т. Якіменкі, а яе калега В. Дадзіёмава зрабіла пазнаваўчы экскурс у гісторыю музычнай адукацыі і выхавання ў гарадах Беларусі XVIII ст.

На другім пленарным пасяджэнні, а таксама на пасяджэннях секцый з дакладамі ды паведамленнямі выступілі музыканты-педагогі, псіхолагі, сацыёлагі з беларускіх ВНУ і музычных вучылішчаў, спецыялісты з Алматы, Нікалаева, Масквы, Кіева... За «круглым сталом» адбылася вольная дыскусія на тэму «Музычная адукацыя і гістарычна-культурная спадчына», пра што мы з цягам часу праінфармуем чытачоў больш падрабязна.

Н. К.

# У АРКЕСТРЫ — АРКЕСТР...

Абнаўляе і разнастаіць не толькі свае канцэртныя праграмы, але і формы творчасці Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, якім кіруе М. Фінберг. Аматары музыкі ўжо чулі, што на базе яго струннай групы пачаў гуртавацца цікавы калектыў выканаўцаў. Нядаўна Камерны аркестр Дзяржаўнага канцэртнага аркестра /над назвай, дарэчы, варта было б яшчэ падумаць/ меў адказнае выступленне з салістам Лорынсам Паркінсам. Наш англійскі госць — вядомы ў свеце фагатыст — падрыхтаваў з беларускімі музыкантамі адмысловую камерную праграму. Дырыжыраваў Валерый Сарока.

ВЫСТАВЫ

# МАСТАКА НАТХНЯЕ ПРЫРОДА



Адзін з наведвальнікаў выставы Пятра Данэліі /Палац мастацтваў/, пакінуўшы надзвычай эмацыянальны водгук, параўнаў яго аблокі з каўказскімі гарамі. І сапраўды, кампазіцыйна і сэнсава неба займае вялізнае месца на ягоных палотнах. Пахмурнае, навальнічнае, вясенне-чыстае, яно стварае настрой і пануе над асяроддзем. Для Данэліі неба — жывая істота і камертон разумення прыроды і чалавечых адносін.

Мастак піша не толькі пейзаж, а і гарадскія матывы, партрэты, гераічныя кампазіцыі. За плячыма ў яго — вайна, стварэнне ў родным Брэсце арганізацыі мастакоў, грамадская работа, сорак гадоў творчасці. Але ў першую чаргу яго натхняе прырода. Нас яна ўражвае на ягоных палотнах сваёй лірычнасцю, цеплынёй і ў той жа час велічнасцю і грандыёзнасцю.

*На фотаздымку: «Партрэт дачкі» П. ДАНЭЛІІ.*

СУСТРЭЧЫ

# МУСІМ СТАЦЬ ГАСПАДАРАМІ

1—3 кастрычніка ў Лагойску адбыліся рэкалекцыі /з лацінскай евангельскія чытанні, сустрэча хрысціянаў/ вернікаў каталіцкай канфесіі, арганізаваныя моладдзю Беларускай каталіцкай грамады.

У рэкалекцыях бралі ўдзел каля 30 чалавек, не толькі нацыянальна свядомая беларуская моладзь з розных парафіяў Мінска, але й хрысціяне з Польшчы, Славеніі ды нават Уганды.

Мэта гэтага хрысціянскага летніка — не толькі пазнанне Бога, навучанне ягонаму Слову праўды, але й усведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці, знаёмства з гісторыяй Бацькаўшчыны, багатай культурнай спадчынай.

Трэба адзначыць яшчэ адзін аспект гэтай падзеі. Упершыню рэкалекцыі праводзіліся па-беларуску /да гэтага часу — выключна па-польску ды па-расейску/. І вось нарэшце загучала Слова Божае на роднай мове. Ніякіх праблем ва ўзаемінах не ўзнікала, бо рабіўся пераклад на іншыя мовы.

Праграма хрысціянскага летніка не абмяжоўвалася выключна навучаннем. Тут працавала школа спеваў пад кіраўніцтвам кампазітара Галіны Смоляк. А пад канец удзельнікі рэкалекцый выступілі ў раённым Доме культуры перад мясцовымі жыхарамі, якія вельмі прыязна паставіліся да маладых вернікаў з Менска. Былі цёплыя сустрэчы і гутаркі, сумесныя вячэры.

Адным словам, пачатак пакладзены. Але гэта толькі пачатак. Усяго на працягу гэтага і наступнага года маецца адбыцца 10 рэкалекцый, і самая апошняя — улетку на возеры Нарач.

Хто шукае Бога ў сваім сэрцы, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, можаце патэлефанаваць па нумары: 62-42-79 і разам з намі карысна правесці свой вольны час.

Лявон УЛЬСКІ

ТЭАТР

# ПАЧАЛІ З ПРЭМ'ЕРЫ

Новы тэатральны сезон пачаў 1 кастрычніка Мінскі абласны драматычны тэатр, што ў Маладзечне. Гледачы, сярод якіх было нямала гасцей і са сталіцы, убачылі прэм'еру спектакля «Час, Сымоне, час...» па п'есе Я. Купалы «Раскіданае гняздо» ў рэжысуры Р. Баравіка.

Спектакль быў цёпла прыняты гледачом, у чым несумненная заслуга таксама мастака У. Жданава, кампазітара С. Бельцюкова, балетмайстра Г. Шылянковай-Воранавай і, вядома, артыстаў А. Павачкі, Т. Кавалеўскай, А. Карпука, Д. Глазычава, Я. Іўковіча, В. Шэндрыкава, Б. Доніна.

Чарговы сезон — другі ў біяграфіі тэатра, які, нагадаем, працуе па-беларуску. Наперадзе — новыя прэм'еры, і калі меркаваць па мінулым сезоне, у якім пабачылі свет 12 спектакляў, то маладзечанцаў чакае шмат прыемных сустрэч з мастацтвам сцэны.

М. Ш.

ЛІТКУР'ЕР

# ВОСЕНЬ, МУЗЫКА І ПАЭЗІЯ

Такую назву магла б мець вечарына, якая днямі адбылася ў «Беларускай хатцы». Пранікнёным словам пра Наталлю Арсенневу і яе няпросты жыццёвы лёс пачала імпрэзу Ганна Сурмач. Потым гучалі цудоўныя вершы нядаўняй юбіляркі, пераемніцы традыцый Максіма Багдановіча. Настроем светлай журбы і восеньскай настальгіі захаліў гасцей музея вядомы беларускі бард — Алесь Камоцкі.

Чыстым фальклорным тэмбрам голасу зачаравала прысутных выканаўца народных песень і духоўнай музыкі Марыля Скуратовіч.

На чарговую кастрычніцкую вечарыну ў «Беларускую хатку» запрошана паэтка і фальклярыст Антаніна Хатэнка. А тэмай яе развагі стане «Лёс чалавека ў кантэксце сусветнай светабудовы».

НАШ КАР.

# ДА ЮБІЛЕЮ ПАЭТКІ

Толькі нядаўна мы змаглі пазнаёміцца з паэзіяй Наталлі Арсенневай, імя якой, як і многія імёны пісьменнікаў-эмігрантаў, было забаронена. 20 верасня слыннай паэтцы зямлі беларускай споўнілася 90 год. З гэтай нагоды ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры была наладжана літаратурная сустрэча і адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай юбілею паэткі. У стварэнні выставы прымалі ўдзел Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, кніжная палата.

На вечары, перад студэнтамі педагагічнага універсітэта, супрацоўнікамі музея і бібліятэк, выступіла Ірына Багдановіч — кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Хор «Дабралад» /мастацкі кіраўнік Галіна Мацес/ выканаў «Малітву» Наталлі Арсенневай. Дыктар Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Ларыса Гранько прачытала вершы паэткі.

Наведвальнікі азнаёміліся з матэрыяламі выставы, якая будзе экспанавацца ў дзяржаўным літаратурным музеі на працягу кастрычніка.

З. КУЧАР

ДРУК

# «ВЫБРАНАЕ» УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

Упершыню найбольш поўна прадстаўлена на беларускай мове творчасць знакамітага «вясковага лірніка». У кнігу «Добрыя весці», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура» /укладанне і каментарыі У. Мархеля і К. Цвіркі, апошні і аўтар прадмовы «Лірнік беларускай зямлі»/, увайшлі не толькі паэтычныя творы У. Сыракомлі, а і вядомыя яго гісторыка-краязнаўчыя нарысы «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах, «Мінск», частка прадмовы да кнігі «Нёман ад вытокаў да вусця», артыкулы «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў», «Працы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча», «Варвара, вялікая княгіня літоўская і каралева польская» і іншыя. Змешчаны некаторыя карэспандэнцыі, якія ў свой час друкаваліся ў перыёдыцы.

Прадстаўлены і беларускамоўныя вершы У. Сыракомлі «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды...». Астатнія ж творы пададзены ў перакладах Я. Лучыны і Я. Купалы, а таксама К. Цвіркі, М. Лужаніна, А. Лойкі, Я. Пфляўмбаўм, А. Клышкі, У. Мархеля, Х. Лялько, Г. Кісялёва і іншых.

«Выбраныя творы» У. Сыракомлі па-беларуску выходзілі, дарэчы, яшчэ ў 1966 годзе ў выдавецтве «Беларусь».

Н. К.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# «КЛІЧ» МІХАСЯ ШАХОВІЧА

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» працягвае знаёміць чытачоў з лепшымі творамі пісьменнікаў Беласточчыны. У розны час тут выйшлі кнігі Міколы Гайдука, Сакрата Яновіча, Васіля Петручука, Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Надзеі Артымовіч і іншых аўтараў. Толькі што пабачыў свет паэтычны зборнік Міхася Шаховіча «Кліч».

Нарадзіўся М. Шаховіч 20 лістапада 1953 года /кніжка, можна сказаць, падарунак яму да 40-годдзя/ у вёсцы Сакаў на Беласточчыне. Дэбютаваў у 1974 годзе вершам «Туды» на старонках газеты «Ніва». У 1978 годзе ў Беластоку выдаў кнігу паэзіі «Праміпанне», пазней — зборнік гумару і сатыры «Вада ў рэшаце», шмат друкаваўся і друкуецца ў перыёдыцы.

Кніга «Кліч» складаецца з двух раздзелаў. У першы ўвайшлі тры паэмы «Святая ноч», «Смерць валошкі» і «Святы лес». Другі склалі «напевы» /па вызначэнні самога аўтара/. І ў паэмах і ў напевах /вершах/ — гучыць любоў да Беларусі, да роднай беларускай мовы.

М. ЗДАНЕВІЧ

КУЛЬТУРА

# НАРАДЖЭННЕ ТРАДЫЦЫІ



Другі раз пасвячэнне ў першакурснікі Мінскага мастацкага вучылішча пры Беларускай акадэміі мастацтваў адбываецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Зала старажытнага беларускага мастацтва з залачонай драўлянай разьбою, іконамі, работамі вядомых беларускіх мастакоў стварыла асаблівую атмасферу. Нібы вярнулася сярэдневяковая цэхавасць, калі людзі адной прафесіі адчувалі лучнасць, ядналіся, пасвячаліся ў таямніцу, даступную абраным. Гэта, аднак, не мае нічога агульнага з абасобленасцю ці замкнёнасцю. Гэта прыгожая цырымонія, якая запомніцца на ўсё далейшае жыццё. Гэта тая незнаёмая прывабнасць урачыстасцей, якой мы былі пазбаўлены шмат год і якая прымушае, напрыклад, выпускнікоў каледжаў апранаць старадаўнюю вопратку, наладжваць шэсці і не адчуваць пры гэтым ніякай афіцыёзнасці. Дальбог, каб такія ж прыгожыя традыцыі нараджаліся ва ўсіх нашых навучальных установах.

Н. Ш.

*Пасвячэнне ў першакурснікі. Выступае У. СТАЛЬМАШОНАК. Справа ад яго — М. КУПАВА.*

*Фота У. ПАНАДЫ*

# ДЗЕЛЯ АГУЛЬНАЙ КАРЫСЦІ

З 20 па 24 верасня 1993 г. у Варшаве ў Цэнтральнай сельскагаспадарчай бібліятэцы праходзіў 3-ці «круглы стол» кіраўнікоў нацыянальных і цэнтральных сельскагаспадарчых бібліятэк ЗША, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Упершыню ў «круглым стале» бралі ўдзел прадстаўнікі Беларусі. Нашу краіну прадстаўляў дырэктар Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзімір Голубеў. Новыя члены «клуба» сельскагаспадарчых бібліятэк ЗША, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы падпісалі пагадненне аб інфармацыйным супрацоўніцтве і ўзаемавыкарыстанні інфармацыйных рэсурсаў па сельскай і лясной гаспадарцы і харчаванні. Пагадненне называецца «Аб'яднаная праграма каапераацыі» і прадугледжвае стварэнне прыярытэтаў у атрыманні інфармацыі і дакументаў, садзейнічае развіццю новых інфармацыйных тэхналогій у мэтах «паляпшэння доступу да сельскагаспадарчай інфармацыі ў нацыянальным і міжнародным маштабах, унутры краін і паміж краінамі».

Нацыянальная сельскагаспадарчая бібліятэка ЗША перадала ў дар Беларусі некаторыя вельмі каштоўныя бібліяграфічныя і паўнатэкставыя базы дадзеных на аптычных кампакт-дысках.

СПАДЧЫНА

# СПЯВАЮЦЬ МАТЫРЫНЦЫ



На ўсю Ушаччыну славіцца Матырынская фальклорная група. Праходзіць свята вёскі альбо народнае гулянне «Вяселле Цярэшкі», матырынцы — абавязковыя ўдзельнікі. А спяваюць яны мелодыі роднага краю, якія ашчадна захоўваюць і любяць усе.

Акрамя роднага Ушацкага раёна, самадзейныя артысты выступілі ўжо перад гледачамі Віцебска, Наваполацка і іншых гарадоў вобласці.

*На здымку: Матырынская фальклорная група.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

АНОНС

# ВЕЧАРЫНА ЛАСТОЎСКАГА

БСДГ сумесна з Домам літаратара праводзіць вечарыну «Кніжнік Ярыла», прысвечаную 110-ым угодкам аднаго з заснавальнікаў БСДГ, публіцыста і літаратуразнаўцы Вацлава Ластоўскага. Вечарына адбудзецца 19 кастрычніка а палове сёмай вечара ў Доме літаратара.

ЛіМ - часапіс

Гістарыясофія

Яўген ГУЧОК

# АРЫЙЦЫ — БАЛТЫ — БЕЛАРУСЫ — АМЕРЫКАНЦЫ...

## АМАЛЬ ШТО ВЕРСІІ

***АД РЭДАКЦЫІ.** Улічваючы асаблівую адметнасць артыкулаў на гістарычныя тэмы, якія апошнім часам атрымлівае рэдакцыя, мы палічылі мэтазгодным надалей друкаваць іх пад рубрыкай «Гістарыясофія».*

*Што тычыцца артыкула /эсэ/ публіцыста Яўгена ГУЧКА, дык «ЛіМ» толькі вітае той унёсак эзатэрычных ведаў, які робіць аўтар у нашу традыцыяналісцкую і — дзеля таго — відавочна павярхоўную гісторыка-культуралагічную свядомасць. Па сутнасці, аўтар не аспрэчвае версіі беларуска-літоўска-венгерскіх параэтнічных сувязяў, з якой выступіў у «ЛіМе» І. Ласкоў /7, 14.05.1993 г./, хоць ускосна іменна яна паслужыла штуршком для роздуму Я. Гучка; як нам падалося, аўтар не столькі дзеіць у фарватэры І. Ласкова, колькі стварае самастойную версіфікацыю гісторыі. На наш погляд, пры багацці фактаграфіі, факты і экскурсы артыкула Я. Гучка для айчыннага, няспешчанага асаблівым інтэлектуалізмам, вока — гучаць яшчэ досыць нязвыкла... Такім чынам, зноў: беларусы — ліцвіны — літва — балты... Хто далей?*

*Шчыры дзякуй «ЛіМу» за магчымасць чарговы раз атрымаць інтэлектуальную асалоду ад падарожжаў разам з І. Ласковым па слядах нашых далёкіх продкаў і іх суседзяў. Куды б часам мы ні траплялі з глыбокапаважаным гідам, чытаць яго без захаплення і зацікаўленасці, скажам шчыра, — немагчыма. І заўсёды на публікацыі І. Ласкова хочацца адгукнуцца. Сёння на гэта выклікае яго матэрыял «Дагістарычныя блуканні: літва і жамойць» /«ЛіМ», NN 18-19 за 1993 г./. Праўда, аўтар, прадчуваючы закіды-пытанні: «якім жа было паходжанне сапраўднай літвы?, якой магла быць ейная мова?, чаму літва апынулася там, дзе блiснула і знікла?», як бы хоча прадухіліць, запабегчы ім заявай, што «пра ўсё гэта гаворка будзе іншым разам». Гэта значыць, трэба, мяркую, пачакаць. Але ж чытач ніколі не бывае роўным. Іншаму дай сёння ўвязацца ў гаворку. Тым больш, калі канкрэтна такая гаворка нагадвае разглядванне фотакартак, дзе мы знаходзімся ў далёкіх ад сёння прасторы і часе. І таму вельмі цяжка адарвацца ад такога непераадольнага жадання, захапляючага занятку. Часам на тых фотаздымках не пазнаеш сам сябе, часам іншых прызнаеш за сябе, а часам і не памятаеш, пры якіх абставінах быў сфатаграфаваны...*

Цікава паразважаць над тым, што ў гісторыі і па сённяшні дзень не мае разгадкі. Пачнём здалёку. Возьмем прыклад. Здавалася б, ляжыць на паверхні блізкасць, нават роднаснасць нейкай часткі насельніцтва сучасных Іспаніі і Грузіі. Хіба ж амаль не супадаюць старажытная саманазва краіны Дон Кіхота /Іберыя; ад назвы племя іберaў/ і антычная і візантыйская назва Усходняй Грузіі /Картлі/ — Іверыя? Больш таго, назву «іберы» мелі ўсходнегрузінскія плямёны, якія з'явіліся асновай пры фармаванні грузінскага народа, і старажытныя плямёны Іспаніі: турдзетаны, турдулы і іншыя, якія ў 3—2 стст. да н. э. былі заваяваны рымлянамі і раманізаваны. Але ж мы ведаем, што назвы тыпу «Нікарагуа», «Манагуа» ў былых іспанскіх калоніях сустракаюцца і ў сучаснай Грузіі. Так, прозвішча прэм'ера грузінскага ўрада — Сігуа. Хай назвы на уа — нават індзейскага паходжання, але ж будзем мець на ўвазе, што яны не рэдкасць ні ў Іспаніі, ні ў Грузіі. Дарэчы, паміж сённяшнімі грузінамі і іспанскімі баскамі назіраюцца тоесныя рысы характару. А да чаго гэта мы? А да таго, што ў такіх выпадках, пры вызначэнні — хто, адкуль і куды прыйшоў і як яму ўдалося захавацца, варта браць пад увагу і сённяшні стан /духоўны, маральны, гаспадарчы, культурны і г. д./ тых прыходзькаў.

Думаецца, не варта ўспрымаць некаторую частку балтаў /жамойць, у прыватнасці/ як не вельмі самадзейную, як пасіўную і г. д. Шматлікія крыніцы сведчаць, што балты былі не менш ваяўнічымі, чым усе астатнія насельнікі ўсіх рэгіёнаў зямлі ў тыя часы. Жамойты былі своеасаблівым шчытом-поясам паміж Ордэнам і славянствам. Ды і невыпадкова іх саманазва трапіла ў тытул дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Ды і на сённяшні дзень, не асіміляваныя ні немцамі, ні беларусамі, ні палякамі, ні рускімі, яны могуць паслужыць прыкладам для нас, як трэба ратавацца. І таму, зыходзячы і з гэтага гледзішча, мы таксама супраць погляду, што балты як этнас склаліся ў Прыбалтыцы і, нікуды не выходзячы пяць тысяч год, жылі там. Балты, як і ўсе этнічныя субстанцыі, таксама былі ў паходзе. А вось адкуль і як — пытанне, думаецца, поруч з тымі, што вырашаліся, вырашаюцца і заўсёды будуць заставацца адкрытымі.

Але разгледзім шляхі балтаў як часткі арыяў паводле малазнаёмых аўтараў. Так, сярод іх англічанін Р. Аткінсан /Йог Рамачарака — яго новае імя/ у сваёй кнізе «Религии і тайные учения Востока» /С-Пб, 1914 г./, абагульняючы вопыт прадстаўнікоў эзатэрычных ведаў, паведамляе наступнае. Шмат стагоддзяў назад арыйскае племя спусцілася на раўніны Індыі, перамагаючы першабытных жыхароў гэтай краіны. Адкуль арыйцы прыйшлі, гісторыкі не могуць вырашыць канчаткова, але паданні ўказваюць, што прыйшлі яны з нейкай невядомай краіны. Некаторыя мяркуюць, што арыі прыйшлі з краіны, дзе раней былі зусім другія кліматычныя ўмовы, чым цяпер; другія ж думаюць, што гэта былі рэшткі вялікага народа, родны край якога быў знішчаны ў выніку геалагічных катаклізмаў. Сапраўды, некаторыя старажытныя паданні паведамляюць, што арыйцы былі нашчадкамі жыхароў былога кантынента Лемурыі /як не нагадаць платонаўскі міф аб Атлантыдзе?!/, які, паводле гэтых паданняў, быў размешчаны на прасторах Ціхага і часткова Індыйскага акіянаў і ўключаў у сябе землі і астравы, што цяпер прыналежаць Аўстраліі і Палінезіі. Гэтыя землі і астравы з'яўляюцца рэшткамі былога кантынента /як самыя высокія яго пункты/; больш нізкія месцы — загінулі пад вадой. Паданні сцвярджаюць, што перад гэтым вялікім пераваротам, разбурыўшым краіну і знішчыўшым жыхароў Лемурыі, адбылося перасяленне вялікіх мас лемурыянцаў пад кіраўніцтвам іх рэлігійных правадыроў, прадказаўшых катастрофу. Гэтыя перасяленцы і іх нашчадкі выратаваліся на некаторых вышэйшых пунктах аддаленых паўночных частак краіны, якая ў часе перавароту ператварылася ў астравы. Застаючыся на гэтых астравах на працягу стагоддзяў, яны затым эмігравалі на мацярык, у новую краіну, каторая цяпер вядома пад імем Індыя. Апошняя была занята цёмнаскурымі жыхарамі, загнанымі ў яе з іншых краёў зменамі клімату і геалагічнымі катастрофамі. Нашчадкі арыйцаў адолелі іх з прычыны значнай перавагі свайго інтэлектуальнага развіцця. Праўда, арыйцы дазволілі заваяваным жыць у спакоі, і апошнія засталіся вернымі рэлігіі сваіх прабацькоў; пераможцы, паважаючы чужыя веравызнанні, не навязвалі ім сваіх.

Арыйцы ў новых краях працвіталі і ад іх пайшлі арыйскія плямёны Індыі. Частка іх, аднак, перайшла ў краіны, што складаюць сённяшнюю Еўропу, а нашчадкі іх вядомы нам пад імем германскіх, раманскіх, кельцкіх, грэчаскіх, славянскіх, балцкіх і іншых плямёнаў. Факт агульнага паходжання гэтых плямёнаў да ўсяго пацвярджаецца іх моўным радством. І сапраўды, возьмем для прыкладу слова падзякі ў нас і ў іншых блізкіх і далёкіх суседзяў: па-беларуску — дзякую, па-польску — дзенькуе, па-нямецку — данке, па-англійску — сэнк'ю. У летувісаў побач са словам «ачу» ёсць слова «дзенькую». А ў санскрыце — мове старажытных арыяў і ў сучаснай мове хіндзі — гэта гучыць як «дханакат». Ці вось прыклад: вавёрка /беларус./, ваверайтэ /летувіск./, взверыс /латышск./; на санскрыце і хіндзі — вавера. Рады гэтыя можна было б і доўжыць. /Пра роднаснасць санскрыта і хіндзі з беларускай мовай і іншымі індаеўрапейскімі мовамі вельмі падрабязна і многа гаварылася ў красавіцкім /1993 г./ тэлечасопісе «Роднае слова»/. Прыклады, якімі насычана і эсэ І. Ласкова, таксама сведчаць аб гэтым, толькі, вядома, там размова ідзе пра аддаленыя ад нас часам і прасторай плямёны. Цяпер паўстае пытанне, якім шляхам і ў якім парадку ішлі арыйцы ў Еўропу і якія яны пакідалі там сляды. Што да славян, дык большасць навукоўцаў вядуць іх то з Ірана праз Каўказ, то зводзяць з Карпат, то ўвогуле знаходзяць іх у басейне Прыпяці. А вось выдатны гісторык расейскага замежжа С. Лясны ў сваёй «Откуда есть пошла земля русская» /Таронта, 1956, 1962 гг./ вядзе славян /рускіх/ з Блізкага Усходу; гару Сіён ён называе па-руску «Сиян-гора» /сияющая/. Назвалі ж яе русы, калі яшчэ знаходзіліся ад яе далёка на поўдні. Яна ім ззяла, яна іх клікала да сябе.

Ёсць меркаванні, і гэта пацвярджаецца дадзенымі археалогіі, тапанімікі і інш., што першы арыйскі паток ва Усходнюю Еўропу ў асноўным склалі балты. Папярэднія насельнікі гэтага рэгіёна — угра-фіны — ці асіміляваліся, ці адступілі ў паўночна-ўсходнім напрамку. Некаторыя, як літва, заставаліся надоўга ўстойлівымі з прычыны сваёй магутнасці і неперамажнасці. Трэба мець на ўвазе, што ўгра-фіны былі ва ўсіх адносінах дастаткова развітым жыхарствам Усходняй Еўропы. Узяць, напрыклад, тых жа венграў, што адносяцца да гэтай групы. Ім было з чым прабіцца ў самы цэнтр Еўропы. А можа, і некаторая частка літвы апынулася там дзесьці ў глыбіні еўрапейскага кантынента, бліжэй, вядома, да захаду,

# ЗА ПАРАДАЙ ДА «БАЦЬКІ» СТАЛІНА

*(Пачатак на стар. 3)*

ние, и внешне делали бы письменность непохожей на русскую. Параллельно шла большая работа по отдалению белорусского языка от русского путем:

а/ создания вредительской грамматики, правописания;

б/ изгнания из лексикона русских слов и замены их польскими;

в/ введение слов, встречающихся в одном-двух районах Белоруссии, как правило, записывавшихся от неграмотных стариков и старух, или детей, не посещающих советских школ;

г/ собственной выдумки новых слов.

В результате этой работы и благодаря фактическому, до сей поры, отсутствию работы по очищению языка и исправлению грамматики, засоренность его исключительна.

Существующее белорусское правописание искажено в националистическом духе, оно преднамеренно построено так, чтобы отличалось от русского даже там, где в живом произношении нет разницы.

Так было введено, как непреложный принцип аканье, т. е. написание «а» не под ударением вместо «о» и «я» вместо «е». Например, «горад», «вялікі», вместо русских «город», «великий», в произношении же в русском и белорусском языках здесь слышатся одинаковые звуки. Или, например, «Ворошилов», пишется «Варашылаў». Эта разница, как и многое другое искусственно введенное затрудняет усвоение русского и белорусского правописаний белорусским школьникам, так как два языка в школе учат различным правилам. Согласно правописанию фамилии и имена русского и белорусского должны писаться по разному, равно как и географические названия. Белорусские фамилии подчиняются аканью, а русские нет.

Белорусс пишется — Астроўскі Аляксей;

а русский — Островский Алексей.

Этим самым подчеркивается национальность носителя. Или, к примеру, село Тереховка, если русское то пишется — Тереховка, если белорусское, то Церахоўка. А если река протекает через ряд республик, то и названия на карте надписываются по разному «Днепар», «Дняпра» и т. д.

Кроме приведенных, имеется в правописании масса случаев, совершенно запутывающих и ставящих в тупик пишущего. Есть правила, доходящие до абсурда, хулигански искажающие язык, узаконившие, например, написание слов: «Эфиоп», «Ниоба», как «Эфіёп», «Нiёба».

Вся эта вражеская работа в области правописания, неразбериха, путаница, смесь в правилах определяют большую безграмотность оканчивающих школы.

Позволю привести ряд примеров, слов и оборотов, имеющихся сейчас в белорусской литературе.

Слово «подъем», заменено каким-то диким словом «уздым».

Образование — адукацыя;

Краски — фарбы;

Борец — змагар;

Отечественный — ойчынны /от польского ойчизна/;

Правительство — урад???

Годовщина — гадавина /Белоруссы говорят так в смысле гад-гадюка/;

Баня — лазня;

Беспредельный,

Безграничный, — бязмежны /пример сознательного обеднения языка/,

Безбрежный,

Безопасность — бяспечнасць /отсюда органы государственной безопасности, органы государственной беспечности/.

Слово товарищ заменено словом — сябр;

Друг — тоже сябр;

Дружба — сяброўства;

Благожелатель — зычлівец;

Благозвучие — мілагучнасць;

Благоухание — пахучасць;

Бледный — бляды;

Кислород — тлен???

Ветчина — вяндліна;

Взбелениться — раз'юшыцца;

Вопить — лемантаваць;

Вселенная — сусвет;

Бережный

Осторожный — асцярожны;

Бессмертие — неўміручасць;

Встречает — сустракае;

Баснословный — казачны;

Заседание — пасяджэнне;

Женщина, ухаживающая за овцами — овчарка.

Крупный — буйны; /отсюда крупный деятель — «буйны дзеяч»/

Содержательный — змястоўны;

Охват — ахоп;

Образцовы — узорны;

Почет — гонар.

В лозунге «Пролетарии всех стран, соединяйтесь», слово «соединяйтесь» заменено словом «злучайцеся», а в народе «злучайцеся — злучка», все равно, что и по-русски «случайтесь — случка».

Лозунг «Да здравствует годовщина Октябрьской революции» на белорусском языке «Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі», испохаблен от начала до конца. Белорусы говорят здравствуй, а «няхай» означает «пусть» в смысле пренебрежительного «так и быть».

Гадавіна означает гада большого размера. Так и говорят: «Ух, якая гадавіна». Кастрычнік — октябрь. Но кастрыца — это не лен, а отбросы от льна.

Засорение языка чуждым, анти-народным так велико, что литературную речь в районах не понимают. И получилось так, что авторы засорения добились обратных результатов. Существовавшее в народе влечение к братской русской культуре и языку, чего они боялись пуще огня, и что хотели искоренить, благодаря засорению белорусского языка, возросло в колоссальной степени. В городе и деревне русские книги берут нарасхват, а белорусские, кстати сказать, переполненные «творами» этих авторов, лежат на полках. Даже «Краткий Курс истории ВКП/б/» — на русском языке расхватывается в полтора-два часа после появления в продаже, а изданный на белорусском языке в городах почти не идет, а в районах и селах идет крайне медленно.

Получилось так, что вся эта кучка нацдэмовских заправил сохранилась до сих пор. Даже организационно, в Союзе писателей. Они печатали и печатают внешне патриотические стихи и произведения, насквозь фальшивые, не необходимые для выражения советскости /Их буквальное выражение/. Янка Купала говорит, что то, что он написал при Советской власти, не творчество, а дриндушки. Они говорят о том, что теперь литература сведена на роль придатка, разъясняющего или восхваляющего, что это не творчество, а иллюстрация. В литературе нельзя ничего ставить или решать, так как партия все уже решила на много лет вперед, план составлен, иллюстрируй то, что прошло.

В результате разгрома покровительствовав-

пакінуўшы сваю назву спачатку балтам, потым славянам і, вядома, сваім суродзічам, што былі асіміляваны? А можа, літва ўлілася ў «мадзьярскае» мора? Трэба думаць, невыпадкова пераклікаюцца такія імёны, прозвішчы і інш. у сучасных венграў, беларусаў і летувісаў, як Барташ, Кукрыш, Міклаш, Понтыш, Понтус і г. д. З гэтага пункту гледжання наша антрапаніміка заслугоўвае асаблівай увагі. Тут, думаецца, можна знаходзіць празрыстыя пераходы з венгерскай на беларускую, як, скажам, пераходы ў сучаснай летувіскай і беларускай: Петрэне — Пятрэня; Макарэне — Макарэня і г. д. І яшчэ, ці не патаемная этнічная памяць Сцяпана Батуры, які паходзіў з мадзьяр, не давала згаснуць яго цёплым пачуццям да Беларусі-Літвы? Успомнім, што ён увесь час імкнуўся жыць на Беларусі: аб гэтым сведчыць і замак у Гародні — замак Сцяпана Батуры.

За балцка-арыйскім патокам ішоў славянска-арыйскі паток. Вядома, адбываліся тыя ж самыя этнічныя працэсы: асіміляцыя, адступленне, захоўванне сябе. Гэтыя складаныя працэсы, вядома, знаходзілі адбітак і ў мове. Вось прыклады, як ад угра-фінаў праз балтаў даходзілі да славян /тут маецца на ўвазе — беларусаў/ назвы тых ці іншых прадметаў, аб'ектаў, з'яў. Вось угра-фіна-балцкі рад, які дае сам І. Ласкоў: «сляза» па-венгерску «сірас», па-летувіску «асара». А мы дадамо, што ў беларусаў гэтая канкрэтная назва пашырылася і ўтварыла паняцце — «сірата». А вось назву населенага пункта на Беларусі Обаль У. Топараў і А. Трубачоў у сваёй кнізе «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья» /М., 1962 г./ выводзяць з фінскай мовы /угра-фінск. — **Я. Г.**/. З угра-фінскага, трэба меркаваць, гэта назва папала да балтаў, а ад іх да беларусаў. Зазірнём у слоўнік В. Жучкевіча. Обаль — р., пр. Заходняй Дзвіны, таксама воз. і гар. пас Шумілінскага р-на, чыгун. ст. на лініі Віцебск—Полацк, с. Гарадоцкага р-на; Абалянка — р., пр. Лучасы, сіст. Заходняй Дзвіны; Абольцы — с. Талачынскага р-на; Абаляны — с. Браслаўскага р-на... Назвы, вытворныя ад летувіскай асновы «абеліс», — яблыня, яблыновы, што пацвярджаецца не толькі блізкасцю назваў да ўказанай асновы, але і прыстасаванасцю іх да паўночна-заходняй часткі Беларусі, дзе добра выяўлены балтыйскі тапанімічны пласт, і ёсць славянскія калькі. /Паводле В. А. Жучкевіча. — Краткий топонимический словарь Белоруссии, Мн., 1974/.

Мы маем падставы сцвярджаць, што шукаць у мове літвы /і сучаснай, і летапіснай/ венгерскага /угра-фінскага/ следу неяк ніякавата з той прычыны, што /і гэтаму не супярэчыць сам І. Ласкоў у сваіх публікацыях «Племя пяці родаў» /«Літаратура і мастацтва», 18.8.1989 г./ і «Нашчадкі таямнічае Літвы» /«Полымя», N 8, 1991 г./ у пэўнай ступені гэтыя этнічныя суб'екты — ёсць адно цэлае; што напрамак балцка—угра-фінскіх запазычанняў яўна абодвабаковы і адбываўся ў часы балцка-арыйскай каланізацыі новых земляў. Адначасова звяртаем увагу на тое, што мы не блытаем літву з ліцвінамі. Літва — гэта адзін з субстратаў будучых беларусаў, як і жамойтаў, а ліцвіны — гэта ўжо **амаль беларусы**.

А возьмем назвы ракі і горада Віцьба і Віцебск, а таксама левага даплыву Прыпяці — Віць, мужчынскія імёны Віцень, Вітаўт. Здавалася б, тут і славянскі корань /віць/ і дапушчальная лацінская аснова /віта—жыццё/ выпрашаюць пытанне не на карысць іх угра-фінскага паходжання. Але ж у мове мансі паняцце «вада» мае слоўнае абазначэнне «віт». /Гл.: Э. М. Мурзаев, «Словарь народных географических терминов», М., 1984 г./. Мова ж мансі належыць да фіна-ўгорскай групы ўральскай сям'і. Ды і як жа мы не ўспомнім рэчку Віцім — правы даплыў Лены? Дарэчы, зусім блізка ад Румыніі, куды нас апошнім часам кліча І. Ласкоў, ёсць рэчка Віт — правы даплыў Дуная. Праўда, знаходзіцца яна на балгарскай тэрыторыі. Але ж не так далёка там і Венгрыя — краіна фіна-ўгорскай ментальнасці. Усё гэта дае нам падставу заключыць, што Віцень і Вітаўт — ці не проста гэта сыны вады? Сын вады, як сын агню і г. д. Ды... гэта ж недзе на амерыканскім кантыненце ў часы індзейцаў былі такія імёны! Цікава, а як яны ўзніклі ў іх? А можа, да індзейцаў там ужо нехта іх насіў, а індзейцам яны дасталіся потым? /Аб гэтым — крышку ніжэй.../.

Ніяк нельга пагадзіцца з І. Ласковым у тым, што сярод іншых назваў назва «Дунай» прынесена на Беларусь з Румыніі летувісамі. Дарэчы, рэчка Дунай у нас ёсць не толькі ў Іўеўскім раёне, але і ў змененым выглядзе — у Лагойскім, Клецкім, Быхаўскім і іншых раёнах нашай рэспублікі. Дунай, яго сляды можна знайсці пад Мінскам. Старажытны Менск стаяў якраз пры ўпадзенні Дуная ў Менку. /Жадаючыя могуць пабываць там хоць сёння/. А назву сваю гэта рака, як і многія іншыя водныя сістэмы, да якіх была прыстасавана гаспадарчая дзейнасць чалавека, атрымала, відаць, ад іранскай групы моў, у якіх «дон» — гэта агульная назва ракі. Для прыкладу возьмем: Ардон, Гізельдон, Дон, Донаў /Дунай/, Данапрыс /Днепр/ і г. д. Іранамоўныя ж назвы занесены былі і на нашы землі, па ўсёй верагоднасці, сарматамі. Адзначым, што «дунаяў» на Беларусі ў старажытнасці было шмат. І таму не дзіва, што ў многіх народных песнях спявалася аб тым, як «... за дунаем мілы гуляе». Такое паходжанне назвы «дунай» знаходзім у Я. Паспелава ў яго «Школьном топонимическом словаре» /М., 1988 г./, у работах Э. Мурзаева, Т. Тэр-Сплавіньскага і ў некаторай ступені ў В. Жучкевіча...

Любыя /вялікія і малыя/ перасяленні народаў, зразумела, былі выкліканы самымі рознымі прычынамі, сярод якіх не апошняе месца, трэба думаць, займаў этнічны, а калі гэта разумець расшыральна — расавы менталітэт. Таму, адпраўляючыся ў падарожжа ў краіну ведаў, не будзем забывацца на тое, што кожны народ хацеў заняць лепшае месца пад сонцам, хаця, праўда, гэта не заўсёды яму ўдавалася, і ніколі ні адзін народ добраахвотна не лез у балота ці які хмыз. Зразумела, у жыцці ёсць і выключэнні, іншыя правілы. І гэта таксама даследчыку трэба мець на ўвазе. І, безумоўна, ні ў якім разе яму не трэба пазбягаць нетрадыцыйных крыніц. У дадзеным выпадку маюцца на ўвазе эзатэрычныя веды. Колькі гістарычнага матэрыялу пра нашых далёкіх продкаў утрымліваецца на старонках твораў Дж. Фрэзера, Эд. Шурэ, Д. Штрауса і многіх іншых. Хто нам сёння падкажа, што гэта за людзі /беласкурыя, блакітнавокія, русавалосыя/ жылі на Амерыканскім кантыненце да адкрыцця яго індзейцамі /манголоідамі/, якія, перагрэтыя жоўтым сонцам, амаль поўнасцю іх і знішчылі? Некаторыя этнографы сцвярджаюць, што і сёння на Амерыканскім кантыненце сустракаюцца рэлікты тых далёкіх «бледнолицых». Невыпадкова таму з'яўленне еўрапейцаў, у прыватнасці іспанцаў, было ўспрынята манголоідамі Амерыкі як божая кара за знішчэнне сваіх папярэднікаў. Выходзіць, што тыя белыя адкрылі Амерыку намнога раней за індзейцаў, не кажучы ўжо пра Калумба; можа, яны ўжо даўно ваявалі з жоўтай расай і ў рэшце рэшт зніклі.

Хто яны былі, тыя белыя? Не выключана, што гэта маглі быць і ўгра-фіны — частка і нашага этнічнага субстрата, якія праз Чукотку калісьці, трапіўшы ў Амерыку, спарадзілі там сваю новую цывілізацыю. А можа, яны там, у паўночным паўшар'і, і жылі, як жылі па ўсім Еўразійскім кантыненце, таксама бліжэй да Поўначы? Так, такое магло быць у тыя далёкія часы, калі зямля была амаль адзінай, калі мацерыкі яшчэ не так дрэйфавалі. Але прыйшлі заваёўнікі /якіх таксама пасля заваявалі/ і разбурылі ўшчэнт усё жыццё і, прагнаўшы па ўсім Амерыканскім кантыненце сваіх папярэднікаў, сцерлі ўсе іх сляды. Толькі як ні сцірай — а сёе-тое ды застанецца. Ці не перагукваецца назва возера Маракайба /Венесуэла/ з сібірскай назвай Бадайба або назва рэчкі Каўка /Калумбія/ з назвай птушкі ў нас на Беларусі? Дарэчы, слова «каўкаць» — «крычаць» запазычана з летувіскай мовы. Не выключана, што ў яе яно трапіла з фіна-ўгорскай стыхіі. Прыклады гэтыя неверагодныя. І, відавочна, іх можна доўжыць, калі добра ўглядзецца ў карту адлаведнага маштабу. А хіба не так успрымаецца людзьмі, у чыёй свядомасці гістарычна замацавалася, што Мажайск — гэта ва ўсе вякі спрэс рускі горад, калі ты ім паведамляеш аб тым, што горад гэты /паселішча/ быў калісь і беларускім, і літоўскім /падчас Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага/, і што назва яго балцкая, як і назва рэчкі Мажа ў Капыльскім раёне, як і беларускае прозвішча Мажэйка? Па-літоўску ў сучасным варыянце «мажэйка» — гэта маленькі, самы меншы хлопчык у сям'і. Варта высветліць, як яно трапіла да балтаў і адкуль. А рэчка Мажа сапраўды невялікая, як невялікім у свой час быў і Мажайск...

А цяпер, вяртаючыся да І. Ласкова, выказваючы сваё захапленне яго росшукамі, шчодрасцю, з якой ён падае мноства прыкладаў, здабытых, вядома, у велізарнай працы, хочу звярнуць увагу на тое, пра што ён і сам, безумоўна, наколькі мне вядома з маладосці, думае: кожны народ, кожны этнас, кожны чалавек, апроч сваёй сённяшняй радзімы, належыць усёй зямлі, як і яна належыць яму, і што ўсе мы, людзі, хочам мы таго ці не, ёсць дзеці адной маткі-гісторыі і аднаго бацькі-Творцы, якія ніколі не даруюць нам таго, калі мы будзем забывацца на сваё паходжанне.

# ПАМЯЦІ ЗІНАІДЫ БАЧАРОВАЙ-АСТАПОВІЧ

23 верасня 1993 года Зінаідзе Антонаўне Бачаровай-Астаповіч споўнілася 95 гадоў. 26 верасня яе не стала. Адышоў у нябыт светлы мастак і светлы чалавек. Кожны, каму пашчасціла гутарыць з ёю і хто не быў глухі да чалавечай высакароднасці — дадзенай ад нараджэння і набытай бездакорным выхаваннем, — не забудзе ніколі яе дабрыні, рэдкаснай душэўнай вытанчанасці, яснасці, мудрасці. Нельга было не паддацца і магіі яе творчасці — светлай, жыццесцвярджальнай, дзе спалучаліся стрыманы лірызм і сапраўдная рамантыка.

Зінаіда Антонаўна — апошні прадстаўнік культуры «Сярэбранага веку» на Беларусі. Яна нарадзілася ў Менску ў 1898 годзе ў сям'і педагога, інспектара гарадскіх вучылішчаў. Пасля смерці бацькі, у 1914 годзе, сям'я пераехала ў Пецярбург. Скончыўшы ў 1915 годзе Марыінскую гімназію, яна разам са сваім братам А. А. Астаповічам, будучым беларускім графікам, вучыцца ў Школе мастацтваў Таварыства падтрымкі мастакоў, якой кіраваў М. К. Рэрых. Іх настаўнікамі былі А. Р. Эберлінг, П. С. Наумаў, І. Я. Білібін — яркія прадстаўнікі асяроддзя «Мира искусства». Пазней абставіны не дазволілі яе таленту праявіцца на поўную сілу, хаця яна працягвала займацца жывапісам і графікай, выконвала заказы на афармленне Беларускага дзяржаўнага музея падчас дырэктарства В. Ю. Ластоўскага, былі спробы супрацоўніцтва з ленінградскімі выдавецтвамі.

І толькі пасля пераезду ў Віцебск у 1960-я гады Зінаідай Антонаўнай былі зроблены творы абсалютнай мастацкай вартасці. Прызнаннем таленту мастачкі, якая пражыла жыццё амаль невядомай, стала выстава ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР у снежні 1989 года, дзе экспанаваліся творы брата і сястры — Зінаіды Антонаўны і Аркадзя Антонавіча Астаповічаў. На пачатку 1990 года гэтая выстава пераехала ў Віцебск, і з тае пары горад ведае свайго мастака.

Зараз рыхтуецца чарговая віцебская выстава работ З. А. Бачаровай-Астаповіч. Мастачка не дажыла да яе адкрыцця, але экспанаты гэтай выставы зноў пакажуць, што «vita brevis ars longa».

**Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі**

шых писателям-националистам — врагов, в результате того, что народ их «не оценил» и произведения их лежат на полках, а до читателя доходят только обязательные в белорусских школах хрестоматии, заполненные их творчеством, в результате образовавшейся вокруг них пустоты, среди них царит растерянность и озлобление. Начали дико пить-заливать вином тоску о «свободной Белоруссии».

Янка Купала недавно сказал: «Все наши карты биты, лучшие люди истреблены, надо самому делать харакири». /Он уже пытался один раз покончить с собой/. В другой раз он начал жаловаться /в своем кругу/ на безудержную тоску, на то, что никакой Белоруссии он не видит вокруг себя, что его жизнь прожита даром, что он скоро умрет с такой же тоской о Белоруссии, с какой начинал свою жизнь в молодости.

Эти настроения растерянности, творческой пассивности, обреченности, характерны и для других белорусских писателей, отдавших дань /в разной степени/ нацдемовщине. Конечно, среди них есть такие, которых полититические события последнего времени сильно отрезвили, и повернуть которых для честной работы возможно и необходимо.

Сейчас пора уже сделать определенные выводы, показать свое отношение к ним и начать большую работу.

Что по моему мнению нужно сделать?

а/ необходимо развернуть глубокую работу по поднятию идейно-политического уровня интеллигенции, по ее политическому воспитанию, как это требует ЦК ВКП/б/, положив в основу этой работы изучение марксизма-ленинизма, истории ВКП/б/ по выпущенному учебнику «Краткий курс Истории ВКП/б/».

Если учесть, что контр-революционные националисты многим засорили головы, что партийные организации работы среди интеллигенции не вели, станет ясным, какое громадное значение эта работа имеет сейчас в Белоруссии;

б/ Начать /пока мы начали это делать робко/ большую работу по очистке белорусского языка от всех насажденных полонизмов, искуственно придуманных и издевательских слов и терминов. Начать очищение от всего наносного, антинародного. Начать работу по исправлению грамматики. Результатом этой работы должно явиться создание белорусского словаря и стройной, не запутанной, вполне научной грамматики.

В этой работе необходимо опереться на лучшую часть Союза писателей, интеллигенции, и партийные силы, а в основу положить действительно живую, правильную, не испорченную речь Белорусского народа. искореняя жаргонные слова и заменяя недостающие слова русскими или созвучными украинскими;

в/ Увеличить количество русских школ, ликвидировав колоссальную перегруженность этих школ, и удовлетворить полностью желание населения обучать детей на русском языке, конечно, за счет новых школ, т. к. реорганизация некоторого числа белорусских школ в русские, хотя и являются практически целесообразной, но политически недопустима;

г/ Решительно очистить литературу от произведений с национал-фашистской контрабандой /кое-что мы в этом направлении сделали/, поднять литературную преданную молодежь, освежить литературу, укрепить руководство Союза писателей;

В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки», узурпировавшей представительство от Белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.

В отношении Янки Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа ... 31 показание; Крапивы ... 12 показаний и так далее.

По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы, они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана.

Положение в отношении к ним сложное. Они, главным образом, Янка Купала и Якуб Колас, пользуются известностью, прославили их достаточно сильно, их включают во всякие комиссии по учебникам, словарям, переводам, литературным юбилеям. Не допустить этого, значит сразу определить свое отношение к ним, а его по моему мнению определять нужно не так. Их нужно или арестовать, или, учитывая обстановку, принять, поговорить открыто, показать, что нам известны все их «ошибки», если это допустимо так называть, сказать, что они могут искупить свою вину перед Советской властью, призвать их к честной работе, посмотреть, как они будут реагировать и если в какой-либо мере пойдут на это, то использовать это в целях разложения группы, отрыва наиболее честного и ликвидации остатков нацдемовщины. При разговоре, конечно, не смягчать действительной оценки их роли, но делать это с соответствующим такому щепетильному разговору, тактом.

Потом, надо будет созвать совещание белорусских писателей, на котором выступить с совершенно ясными установками о дальнейшей работе Союза писателей, с критикой ошибок, постановкой задач и т. д. А там уже дальше, обстановка подскажет наиболее целесообразные шаги.

По двум вопросам:

а/ о предлагаемых мероприятиях в отношении белорусского языка — грамматики и литературы;

б/ об отношении к писателям Янке Купале и Якубу Коласу, — Я прошу Вас дать мне совет.

**Секретарь ЦК КП/б/Белоруссии**
**/Пономаренко/**

21.XI.1938 г.



**Саюз пісьменнікаў і Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі выказваюць глыбокае спачуванне пісьменніку, дырэктару інстытута Віктару Антонавічу Каваленку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Верамейчыку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Марыі Шаўчонак з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.**

**Калектыў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны выказвае глыбокае спачуванне навуковаму супрацоўніку цэнтра, члену Саюза пісьменнікаў Алесю Разанаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ Надзеі Іванаўны.**

***Было гэта на адным з нядаўніх пасяджэнняў савета Саюза дызайнераў Беларусі. Кіраўнік творчай дызайн-студыі з аптымістычнай назвай «Прыгожае жыццё» паведаміў, што з-за адсутнасці заказаў мае намер закрыць студыю. «Наеўся ўжо прыгожага жыцця», — горка пажартаваў нехта з членаў савета. Дызайн-студыя арганізавалася адной з першых на Беларусі, неўзабаве пасля стварэння ў 1987 г. у нашай рэспубліцы Саюза дызайнераў, і на яе ўскладаліся вялікія надзеі. Студыя нездарма набыла такую гучную і сімвалічную назву, бо на ўзлёце «перабудовы» дызайнеры і сапраўды верылі, што нарэшце яны набудуць рэальную магчымасць упрыгожыць наша жыццё. А выявілася? «Прыгожае жыццё» ў нас не атрымалася.***

***Можа, не варта абагульняць? Мо гэта толькі лёс адной няўдалай групоўкі? Не, на жаль, за гэтым фактам — несуцяшальная тэндэнцыя. І гэта тычыцца як лёсу айчыннага дызайну, так і ўсяго нашага жыцця.***

# ЦІ ПАТРЭБНА НАМ «ПРЫГОЖАЕ ЖЫЦЦЁ»?

## ДА ПРАБЛЕМ АЙЧЫННАГА ДЫЗАЙНУ

На старонках «ЛіМа» мы ўжо гаварылі пра стан дызайну ў нашай рэспубліцы. Прайшоў год з першай публікацыі /гл. «ЛіМ», 20 лістапада 1992 г./, і можна сказаць, што ніякага паляпшэння не адбылося. На тое ж звярталі ўвагу і дэлегаты чарговага з'езда Саюза дызайнераў Беларусі, што прайшоў сёлета ў Мінску.

Творчы саюз перажывае цяпер не лепшы час. І найпершая праблема — фінансавая. Саюз дызайнераў амаль што банкрут. Няма чым плаціць заработную плату нешматлікаму апарату, прэзідэнт саюза даўно ўжо працуе на грамадскіх пачатках. Праўда, атрымаў саюз дапамогу ад дзяржавы — мільён, які дазволена патраціць толькі на так званую «статутную дзейнасць», а не на зарплату. Але і яго не хапае — ні каб наладзіць выставу, ні каб купіць добры ксеракс.

Фінансавая праблема не адзіная. На з'ездзе прагучала такое пытанне: што дае сёння творчы саюз дызайнераў? Нічога. Удзел у жыцці саюза зводзіцца толькі да ўплаты членскіх узносаў. Саюз не з'яўляецца для дызайнераў ні прафесійным асяроддзем, ні крыніцай атрымання заказаў. Страціўшы надзею атрымліваць заказы праз творча-вытворчую фірму саюза і разглядаючы яе як цяжар для сваёй дзейнасці, амаль усе творчыя дызайн-студыі аддзяліліся ад гэтай структуры і пачалі самастойнае існаванне. Некаторыя кіраўнікі, не здолеўшы наладзіць нармальную работу, закрылі студыі. Шэраг членаў саюза ўвогуле пакінулі яго, бо палічылі сваё знаходжанне ў ім бессэнсоўным.

Складанасці з-за адсутнасці работы перажываюць і дызайнерскія падраздзяленні на большасці прамысловых прадпрыемстваў, дзе на дызайнераў сёння глядзяць як на нейкіх нахлебнікаў. Менавіта яны становяцца першымі прэтэндэнтамі на «скарачэнне». А ў якім стане знаходзіцца Беларускі інстытут дызайну! Супрацоўнікі гэтай некалі працвітаючай установы цяпер месяцамі не атрымліваюць зарплату. Інстытут, які быў некалі лепшым у былым Савецкім Саюзе, зараз усё больш цясняць камерцыйныя прадпрыемствы і дзяржаўныя канторы. Вось ужо мастакі-канструктары страцілі і залу, дзе праходзілі творчыя выставы, прафесійныя семінары і канферэнцыі. Самая моцная і некалі шматлікая дызайнерская ўстанова рэспублікі развальваецца на вачах, кваліфікаваныя спецыялісты знікаюць некуды ў небыццё.

Складаны сёння лёс дызайнераў. Некаторыя яшчэ працягваюць змагацца, хапаючыся за любыя заказы, нават за тыя, што мала адпавядаюць прафесійнаму ўзроўню. Адсутнасць жа альбо не звязаная са спецыяльнасцю работа непазбежна вядзе да дыскваліфікацыі. Такім чынам, некалі моцная на ўсесаюзным узроўні беларуская дызайнерская школа цяпер знаходзіцца пад пагрозай знішчэння. Садзейнічае гэтаму і прафесійны інфармацыйны голад. Спецыялізаваныя замежныя часопісы ў рэспубліку не трапляюць — няма валюты. Саюзныя выданні «Техническая эстетика», «Декоративное искусство» з-за фінансавых цяжкасцей не выходзяць.

У незайздросным стане аказаліся і маладыя дызайнеры — выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў. Размеркавання спецыялістаў няма. А паспрабуй знайсці працу, калі прафесія мастака-канструктара стала непатрэбнай!

Тыя ж, хто працягвае працаваць, ледзь зводзяць канцы з канцамі. З сумы, якая выплачваецца заказчыкам творчай студыі, аўтар атрымлівае недзе толькі чацвёртую частку, астатняе ж ідзе на падаткі. Заработная плата дызайнераў, якія працуюць у штаце прамысловых прадпрыемстваў, ніжэйшая, чым у інжынерна-тэхнічных работнікаў. Сярэдняя ж зарплата штатнага дызайнера меншая за сярэднюю пенсію па рэспубліцы. Не дзіва, што пры такіх умовах спецыялісты перакваліфікуюцца.

Звярніце ўвагу, як апошнім часам у прамысловай вытворчасці падае якасць прадукцыі, расцвітае безгустоўнасць, кіч. Зусім нядаўна ў магазінах Мінска з'явіліся свяцільні-бра «Леў» у выглядзе гіпсавай размаляванай галавы драпежніка. Доўга і беспаспяхова спрабаваў я зразумець, адкуль жа «свеціць» гэткае страшыдла. Аказалася, у льва гараць маленькія жоўтыя вочкі. Святла, зразумела, ніякага, выгляд жа... самі разумееце. І ці адзіную гэткую пачвару можна сустрэць сёння ў нашых крамах?

Адмаўляючыся ад высокапрафесійнага дызайну на карысць кіча, мы ідзём да правінцыйнасці. І прычыну гэтага нельга шукаць толькі ў жахлівым эканамічным стане насельніцтва. Можа, грамадству жабракоў дызайн не патрэбны? Аднак і ў старажытнасці, калі большасці простага люду жылося нялёгка, імкнуліся да прыгажосці, да дасканаласці рэчавага асяроддзя праз рамёствы, народнае мастацтва. Найперш тут сыграла сваю ролю рэзкае зніжэнне ўзроўню вытворчасці, якая ўсё больш замяняецца спекулятыўным перапродажам замежных рэчаў. Дарагія ж імпартныя тавары па кішэні ў асноўным нуворышам, а тое, што прывозныя вырабы, знешне такія імпазантныя, але не заўсёды лепшай якасці, пачынаюць перапаўняць нашы прылаўкі, зусім не спрыяе развіццю айчыннай вытворчасці.

Трэба тут улічваць і слабае развіццё рыначнай псіхалогіі ў нашых прамыславікоў, якія ніяк не разумеюць, што канкурэнтаздольнасць іх прадукцыі на ўнутраным і асабліва на знешнім рынку шмат у чым залежыць ад дызайну. Адсутнічае цікавасць да яго, як і да мастацтва ўвогуле, і ў кіраўніцтве нашай дзяржавы. Творчая праца ніяк не стымулюецца. Калі ў некаторых рэспубліках былога СССР творчыя саюзы цалкам вызвалены ад падаткаў, на Беларусі саюзы прыроўнены да камерцыйных структур. Нягледзячы на ўпартую барацьбу Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі і шматлікія запэўніванні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі, творчым работнікам Беларусі адмянілі толькі падатак на дадатковую вартасць. Але зараз Вярхоўны Савет ізноў пагражае зняць гэтую льготу, бо, маўляў, ёю незаконна карыстаюцца «прылепленыя» да творчых саюзаў структуры, якія не маюць дачынення да мастацтва. Але каб гэтага пазбегнуць, неабходны кантроль, а не забарона.

Калісьці, пры ранейшай сістэме, усе творчыя саюзы выконвалі ў асноўным размеркавальную функцыю. У першую чаргу гэта было размеркаванне дзяржаўных заказаў на творчую работу, потым падзел кватэр, дач, аўтамабіляў, дываноў і г. д. Таму членства ў саюзе было не толькі прэстыжным, але і давала пэўныя матэрыяльныя выгоды. Сёння, з разбурэннем камуністычнай сістэмы, размеркавальная функцыя творчых саюзаў адпала. Са знікненнем дзяржаўнага заказу фактычна прыпынілася існаванне афіцыйнае мастацтва, і ўзаемаадносіны творчага саюза з мастаком мусяць цяпер набыць зусім новы характар.

Дызайн у нашай краіне ў апошнія дзесяцігоддзі развіваўся, так бы мовіць, па камандзе зверху, з пачаткам «касыгінскай рэформы». У 1962 г. выйшла пастанова ўрада «Аб паляпшэнні якасці прадукцыі машынабудавання і тавараў культурна-бытавога прызначэння шляхам укаранення метадаў мастацкага канструявання», пасля якой у рэспубліках тагачаснага СССР пачалі стварацца спецыялізаваныя арганізацыі, аддзелы і групы на прадпрыемствах, якія займаліся дызайнерскім праектаваннем вырабаў. Ад іх запатрабавалі стварэння рэчаў «па законах прыгажосці». Зверху ціснулі, і ўсе прадпрыемствы імкнуліся «ствараць дызайн». Гэта быў час дызайнерскага буму і плённай працы. Не абышлося і без выдаткаў. Справа ў тым, што дызайн прадпрыемствам быў навязаны зверху, і галоўную сваю мэту кіраўнікі бачылі ў тым, каб «адчытацца» перад «вярхамі». Прыгожа зробленыя рэчы дэманстраваліся на шматлікіх прамысловых выставах, паказваліся розным камісіям «з цэнтра» і... клаліся на паліцу. Да вытворчасці ж даходзіў вельмі малы працэнт вырабаў, якія часта з-за адсталасці тэхналогіі і дрэннай якасці вытворчасці шмат гублялі са сваёй «прыгажосці». Але, тым не менш, можна гаварыць пра пэўныя прафесійныя дасягненні дызайнераў. У адрозненне ад мастакоў-станкавістаў, якія атрымлівалі дзяржаўныя заказы праз свой творчы саюз, дзяржзаказ на дызайн ішоў праз прамысловыя прадпрыемствы, дзе часцей за ўсё дызайнеры працавалі ў якасці штатных работнікаў. У мастакоў-канструктараў тады не было свайго творчага саюза, яны не мелі магчымасці весці індывідуальную творчую работу. Такая магчымасць з'явілася ў часы «перабудовы», калі быў створаны Саюз дызайнераў. Тады многія мастакі-канструктары нарэшце атрымалі магчымасць пакінуць свае штатныя пасады на прамысловых прадпрыемствах і пазбавіцца неабходнасці адседжваць на працоўным месцы «ад званка да званка». Яны пачалі ствараць творчыя студыі пры Саюзе дызайнераў, разглядаючы яго па старых мерках як крыніцу атрымання творчых заказаў. Але Саюз дызайнераў, створаны пазней за іншыя аналагічныя ўстановы, так і не паспеў развіць свой размеркавальны механізм. Цяпер жа магчымасці саюза наблізіліся да нуля. Аднак у яго ёсць шлях далейшага развіцця — зрабіцца своеасаблівай творчай лабараторыяй, арганізацыйным і прапагандысцкім цэнтрам.

Цяпер, калі мы гаворым аб нацыянальным адраджэнні, асабліва важным для нас з'яўляецца ўздым культуры — культуры мыслення, культуры пачуццяў, культуры побыту. Таму такую вялікую ролю павінна адыграць нацыянальнае мастацтва, у тым ліку нацыянальны дызайн. У гэтым плане сённяшнія праблемы айчыннага дызайну будуць вырашацца разам з праблемамі астатніх відаў мастацтва. Безумоўна, нашаму мастацтву не выжыць без дапамогі дзяржавы і спонсараў. Але, з другога боку, творцы павінны і самі шукаць новыя спосабы свайго існавання. Тут могуць сыграць ролю і творчыя саюзы, калі здолеюць знайсці новыя формы работы. Не варта спрабаваць уваскрасіць іх размеркавальныя функцыі, гэты этап развіцця ўжо беззваротна мінуў. Творчыя саюзы могуць прапагандаваць мастацтва, дамагацца ўсведамлення народам неабходнасці мастацкай культуры. Гэтым павінны займацца ўсе саюзы без выключэння, а Саюз дызайнераў — асабліва. Па-другое, творчыя саюзы павінны стаць менавіта творчымі, інтэлектуальнымі цэнтрамі, вакол якіх аб'ядноўваліся б работнікі культуры рэспублікі. Дзеля гэтага яны мусяць рабіць усё магчымае для захавання належнай прафесійнай кваліфікацыі сваіх членаў, намагацца ўдасканалення іх майстэрства, аб'ядноўваць творцаў для развіцця айчыннай культуры.

Сярод іншых саюзаў павінен набыць сілу і сталасць і Саюз дызайнераў Беларусі.

**Якаў ЛЕНСУ**



**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 14.10.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12